Н. Чуркін

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ І ТАНЦЫ

*Музычна-фальклорны зборнік*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР • МІНСК 1949

Н. Чуркін

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ І ТАНЦЫ

МУЗЫЧНА-ФАЛЬКЛОРНЫ ЗБОРНІК

*Пад агульнай рэдакцыяй*
*Н. Аладава і М. Грынблата*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя музычнай літаратуры*
Мінск 1949

## *ПРАДМОВА ЗБІРАЛЬНІКА*

Запісваць музычную творчасць народаў нашай краіны я пачаў з 1887 года ў Тбілісі, будучы слухачом тэарэтычнага курса пры музычным вучылішчы Рускага музычнага таварыства. Любоў да народнай творчасці прывіў мне вядомы рускі кампазітар М. М. Іпалітаў-Іванаў, які быў тады дырэктарам гэтага вучылішча.

У Тбілісі, а пасля ў Баку, мною было запісана каля ста грузінскіх, армянскіх і азербайджанскіх песень[1].

У 1903 годзе я пераехаў у Беларусь. Тут, паміж службовымі справамі, я стаў запісваць беларускія народныя песні, якія зачаравалі мяне сваёй глыбокай эмацыянальнасцю. Аднак дзейнасць фалькларыста-збіральніка ў той час была звязана з вялікімі цяжкасцямі: на беларусаў і іх песні мясцовая царская адміністрацыя, чыноўніцтва, духавенства глядзела пагардліва. Сярод некаторай часткі інтэлігенцыі была пашырана хадзячая думка аб тым, што беларуская песня, нібыта, нічога арыгінальнага і „цікавага“ з сябе не ўяўляе.

Гэта, аднак, мяне не збянтэжыла, і я горача ўзяўся запісваць усё, што чуў з народных вуснаў.

Пачаў я свае запісы сярод беларускага насельніцтва б. Ковенскай губерні, а пасля, пераехаўшы на службу ў Вільню, запісваў народныя песні ў Ашмянскім павеце, у Лідзе, у Барунах, а пазней—у розных мясцовасцях б. Магілеўскай губерні, асабліва ў ваколіцах Мсціслаўля і Магілева.

Працуючы ў Вільні, сустрэўся з вядомым беларускім этнографам Е. Р. Раманавым і сумесна з ім запісаў звыш пяцідзесяці народных песень, якія склалі асобны выпуск (VII) яго „Беларускага зборніка“.

Магчымасць шырока разгарнуць збіранне беларускіх народных песень я атрымаў толькі ў савецкі час. У 1936 годзе я прыняў удзел у рабоце фальклорнай экспедыцыі Акадэміі навук БССР у Віцебскай і Мінскай абласцях.

Усяго да пачатку Вялікай Айчыннай вайны мною было запісана звыш

[1] У 1941—1943 гг., будучы ў эвакуацыі ў Сярэдняй Азіі, я запісаў каля сарака таджыкскіх народных песень.

двух тысяч беларускіх песень і танцаў. Пяцьсот маіх запісаў захоўваліся ў рукапісным архіве Акадэміі навук БССР. Частка іх у 1940 г. была апублікавана ў I томе акадэмічнага выдання „Песні беларускага народа“. Чатырыста лепшых запісаных мною песень былі падрыхтаваны да выдання асобным зборнікам.

Вераломны напад нямецкіх фашыстаў на нашу радзіму амаль цалкам знішчыў вынікі маёй 40-гадовай працы па збіранню беларускіх песень.

Пасля вайны прышлося ўзяцца за аднаўленне, хаця-б частковае, загінуўшага матэрыялу, і вось я,—што па памяці, што праз паўторныя запісы, што па ўцалеўшых публікацыях,—склаў гэты зборнік.

У зборніку, апрача двух-трох песень савецкай эпохі, прадстаўлены песні дарэвалюцыйныя. Гэта каштоўны матэрыял, які знаёміць з музычна-песеннай культурнай спадчынай беларускага народа.

* * *

Хочацца падзяліцца некаторымі сваімі нагляданнямі над народным выкананнем песень у беларускай, пераважна дарэвалюцыйнай, вёсцы.

Ахарактарызаваць словамі народную манеру выканання цяжка. Аднак паспрабую адзначыць хаця-б некаторыя характэрныя рысы. Пераважна грунтуюся на наглядannі жаночых спеваў, бо жанчыны спяваюць значна часцей і больш за мужчын.

Спяванне жанчыны дома, калі яна адна (над калыскай, прадучы, шыючы і г. д.),— ціхае. Спяванне яе абапіраецца на ключычнае дыханне, словаўтварэнне лёгкае—„на губах“; у выпадках вялікай стомленасці або спрасоння, калышучы дзіця, часта толькі „ўкае“ праз нос.

Хатняе спяванне песень абрадавых, бяседных, на супрадках, бытавых—калектыўнае.

Калі сабраліся адны дзяўчаты—іх спяванне спакойнае, дыханне неглыбокае, словаўтварэнне роўнае. З'яўленне хлопцаў выклікае ў дзяўчат ажыўленне, і песня ў калектыве тады спяваецца на поўным дыханні. Бываюць выпадкі, што ў хатнім спяванні прымаюць удзел старыя і малыя (на вяселлі). Тут ужо і музыка—гармонь, або скрыпка з басэтляй, або цымбалы. Танцы, удаль, задор...

Спяванне на паветры—моцнае, энергічнае, з вялікім упорам на дыяфрагму і прыкметным націскам на гартань.

З прычыны таго, што ў гучанні беларускай мовы шмат галосных і ётавых—а, йа, йо, йі, йу, йе, ай ой і г. д.—спяванне наогул, і на паветры ў асаблівасці, атрымліваецца гучным, пявучым і вельмі прыемным.

Вось некаторыя рысы, уласцівыя беларускай мове і спяванню, якія характарызуюць манеру народнага выканання беларускіх песень:

1) „перахват“—г. зн. кароткае спыненне дыхання (не перадых), для раз'еднання аднародных гукаў, напрыклад: „Ад+далі мяне“, „Выйдзем+мы“, „Пайшоў Ясь ад+дыхаць“, „Падаець молат+цяжолы“, „Сядзіць воран+на кургане“ і г. д.;

2) „перадых“ сярод слова. Напрыклад: „На белай бяро(о)зе“, „З далёкага кра(а)ю“ і інш. (гл. №№ 55, 56);

3) як правіла, на адной галоснай „выводзіцца“ рад гукаў (рулада); у гэтых выпадках кожны пераход голаса на новую гукавысотную ступень адзначаецца штуршком у галасавой шчыліне з паўтарэннем гэтай галоснай. Напрыклад: „Не пайду дамо-о-о-о-ой, я тут заначу-у-у-ю“ (гл. № 23). Нельга не адзначыць асаблівую прывабнасць гэтай манеры, якая адрознівае народнае спяванне ад спявання прафесіянальных спевакоў;

4) апошні склад кожнага куплета часта нібыта „замірае“, выконваецца шэптам або „праглынаецца“ (гл. №№ 56, 59, 119);

5) часта ўстаўляецца паміж двума злітымі зычнымі гук „ы“ або „і“. Напрыклад: „баб(ы)ка“, „люб(ы)ка“, „калінач(і)ка“, „дзяўчынач(і)ка“ і г. д.; або „ь“ пераходзіць у „і“. Напрыклад: „песен(і)ка“, „рэчан(і)ка“, „вос(і)са дуб-оч(і)ка“ і г. д. Гэтым народны спявак інтуітыўна яшчэ больш узмацняе напеўнасць народнага выканання.

---

Некалькі слоў аб дыкцыі, надзвычай выразнай як у беларускай мове наогул, так і ў песенным выкананні.

Беларускае вымаўленне звязана з вельмі развітым коранем і кончыкам языка, што ўносіць у гучанне беларускай мовы звонкую яснасць. Гэтым тлумачыцца фанетычная выразнасць у спяванні, якая выключае картавасць, коснаязычнасць і іншыя заганы вымаўлення („каша“, „чаша“, „крочу“, „зязюля“, „татуля“, „матуля“, „зазванілі званы“, „не вада кіпіць—маладзецкае сэрданька баліць“, „грэк“, „гарэх“, „грач“ і г. д.).

Артыкуляцыя языка, вуснаў, ніжняй сківіцы развіваецца з дзяцінства; гэтаму нямала садзейнічае (адначасова са скорагаворкамі, прыказкамі, загадкамі, прымаўкамі, лічылкамі) і песня.

---

Звычайным відам народнага спявання з'яўляецца аднагалоссе — спяванне ва унісон. Але беларускае народнае спяванне ведае таксама і многагалоснае выкананне — поліфонію. Развіццю народнага многагалосся садзейнічае наяўнасць двух тыпаў галасоў — высокіх і нізкіх, якія маюць свае натуральныя гукарады (дыяпазоны) рознай (якая адрозніваецца паміж сабой амаль на квінту) вышыні. Для таго каб кожны голас у калектыве мог спяваць ва ўласцівай гэтаму голасу тэсітуры, адзін з іх (звычайна нізкі) імкнецца чуццём знайсці новыя галасавыя лініі ў межах свайго натуральнага дыяпазону, лініі, сугучныя мелодыі другога голасу, г. зн. яму даводзіцца „ўторыць“ або „падгалосіць“—„падводзіць“. Прырода „падгалоска“-„падвода“ яшчэ дастаткова не вывучана, але, трэба думаць, што інтуітыўнае ўлаўліванне обертонаў адыгрывае тут важную ролю.

Калі спявае спявачка або спявак у адзіночку, то выконвае абавязкова

асноўную мелодыю песні нават тады, калі гэта асоба ў харавым калектыве ўторыць. Аднак „уторы“, выконваючы мелодыю ў адзіночку, нярэдка адхіляюцца на сваю звыклую партыю, чым збіваюць збіральнікаў, прымушаючы думаць, што гэта новы „варыянт“. Тут патрабуецца ад збіральніка-фалькларыста вялікі вопыт, які дапамагае высветліць, дзе „ўтора“, а дзе „варыянт“. У гэтым зборніку двухгалосныя моманты ў песнях №№ 24, 95, 107, 111, 114, 124, 152, 156, на маю думку, з'яўляюцца „ўторамі“, а не варыянтамі.

Не ўсе песні магчымы і зручны ў многагалосным ці ў двухгалосным выкананні, а спяваюцца ў адзін голас, ва унісон. Гэта, пераважна, песні жніўныя і наогул большасць катэгорый абрадавых, календарных песень, якія прадстаўляюць больш старажытны слой песеннага фальклора. З другога боку, многагалосныя песні здаюцца непрывабнымі ў аднагалосным выкананні. Да многагалосных песень належаць часцей так званыя бытавыя, салдацкія, гарадскія і іншыя песні больш позняй фармацыі.

Што датычыць песень з наяўнасцю двухгалосся, якія змешчаны ў гэтым зборніку, то аб іх трэба сказаць наступнае: №№ 12, 83, 88 і 99, запісаныя ад студэнтаў педагагічнага тэхнікума (пры гэтым у № 99 апошнія такты у другога голасу, — наўрад ці народнага паходжання), №№ 67, 70, 116, 123, 177 запісаны так, як спявалі салдаты-„песельнікі“; №№ 34, 81, 141, і 163 запісаны ў выкананні школьнага дзіцячага хора; урэшце, у №№ 87, 90, 94, 96, 112 і 132 другі голас адноўлены мною па памяці. Аб № 117 гл. заўвагу ў канцы зборніка. У песні № 146, як прыпеў, з'яўляецца шматразовае „ку-ку“, якое выконваецца на бягу, без рытма, без танальнасці, што паказаць цяжка. Для акругленасці песні я змясціў гэты прыпеў у такім выглядзе, як ён дадзены ў маёй сімфан'еце „Беларускія музычныя малюнкі“.

---

Рытмічны бок беларускай народнай песні адзначаецца значнай featureнастайнасцю. У ёй ёсць усе асноўныя рытмічныя вобразы чотнага і нячотнага парадку. У метрыцы, апрача агульнавядомых памераў, я знайшоў новыя — васьмідольныя (6 + 2), напрыклад, у № 91, і дзесяцідольныя (4 + 3 + 3 або 3 + 4 + 3), напрыклад, у №№ 8, 96, 113. Гэтыя метры, асабліва дзесяцідольны, можна лічыць спецыфікай беларускай песні. Адна песня, № 22, — не метравана: метр не ўдалося ўдакладніць, — думаю, гэта песня належыць да песень, у якіх рытмічныя вобразы (фігуры) размешчаны несіметрычна.

Паколькі зборнік па свайму характару з'яўляецца музычна-фальклорным, я, замест агульнапрынятага „пеўчаскага“ спосабу натавання, ужываю спосаб „інструментальны“, маючы на ўвазе больш наглядна паказаць рытмічныя і метрычныя вобразы песень.

Ладавы бок беларускіх песень патрабуе асабліва грунтоўнага даследавання, якое я ў цесных рамках прадмовы не маю магчымасці зрабіць.

---

У заключэнне выказваю сваю глыбокую ўдзячнасць прыняўшым каштоўны ўдзел у працы над зборнікам: прафесару Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Н. І. Аладаву; кандыдату гістарычных навук, этнографу М. Я. Грынблату, які сістэматызаваў песні і навукова аформіў зборнік; музыказнаўцу, працаўніку Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі С. Г. Нісневіч, якая захавала ад гібелі ў час Вялікай Айчыннай вайны каля сотні маіх запісаў беларускіх песень.

*Н. Чуркін*

# I. КАЛЕНДАРНА-АБРАДАВЫЯ

## 1. ШЛА-ПАЙШЛА СІВАЯ СВІННЯ...

Даволі скора.

І – шла — пай-шла сі-ва-я сві – ння, ку-
-гі, ку-гі, — сі-ва-я сві – ння.

## 2. ВЯСНА ПРЫШЛА...

Умерана.

Дзя-куй бо-гу, што вяс – на пры – шла.
Дзя-куй бо-гу, што вяс – на пры – шла. —

## 3. ВЯСНА КРАСНА...

**Умерана.**

Вяс – на кра – сна, што-ж ты нам пры – ня – сла? Вяс-

– на крас – на, што-ж ты нам пры – ня – сла?

## 4. КРУТОЕ КАЛЯСО КРУЦІЦЦА ХАРАШО...

**Скора.**

Кру-то – е ка – ля – со ——

кру-ціц – ца ха – ра – шо, ——

кру-ціц – ца жа – ра – шо, ——

па-ка – чу я я – го. ——

## 5. ОЙ, ЧАМУ ТЫ, ЯЛІНАЧКА?..

**Умерана.**

Ой, ча-му ты, я – лі-на – чка, не зя-лё – на? ——

Не зя – лё-на, не зя-лё – на, не зя – лё – на?

## 6. ОЙ, ПАД ДУБАМ, ДУБАМ

Скора.

*Ой, пад ду-бам, ду-бам там за-зю-ля,*

*а пад дру-гім ду-бам - там дру-га-я.*

## 7. ХАДЗІЎ, ПАХАДЗІЎ

Умерана.

*Ха-дзіў, па-ха-дзіў Ясь па по-лю,*

*се-іў-рас-ся-ваў ва-сі-лё-чкі.*

## 8. ВОЛ БУШУЕ

Павольна.

*Вол бу-шу-е, вяс-ну чу-е, вол бу-шу-е, вяс-ну чу-е,*

*ба-ран бле-іць, ў по-ле — хо-чыць. —*

## 9. ДА ЛЯЦЕЛА СОЙКА




## 10. ДА Ў ЛУЗІ КАСЕЦ КОСІЦЬ




## 11. САЛАВЕЙКУ МАЛЕНЬКІ



## 12. ШТО У ПОЛІ ДАЛЁКА

**Не скора.**

Што ў полі далё-ка дзеў-ка лянок по-ля. Гэй, — гэй, па-ло-ла, па-ло-ла, гу-галь выбі-ра — ла, гэй! —

## 13. ОЙ, РАНА НА ЙВАНА

**Павольна.**

Ой, ра-на — на Йва-на, ой, ра-на — на Йва-на, про-ці Йва-на но-чка ма-ла, ой, ра-на — на Йва-на, ой, рана — на Йвана.

## 14. ЯК ПОЙДЗЕМ МЫ, ДЗЕЎКІ

**Умерана.**

Як пой-дзем мы, дзеў - - - кі, па вул-кі шы-ро - - кі, па вул-кі шы-ро-кі.

## 15. НА ІВАНА НОЧ МАЛЕНЬКА

**Не скора.**

*На І-ва-на ноч ма - лень - - ка, —*
*не выспа-ла - - ся па - не - (ны)-ка. —*

## 16. ВАСІЛЯ МОЙ, ВАСІЛЕЧЫК

**Умерана.**

*Ва - сі - ля мой, Ва - сі - ля мой,*
*Ва - - сі - ле - чык. Ва - - сі - ле-(чык).*

## 17. ОЙ, ЧАБОР МОЙ ЗЯЛЁНЫ

**Умерана.**

*Ой, ча - бор — мой зя - лё - ны.*
*дзе ця - бе — па - са - дзі - ці? —*

## 18. ОЙ, БОРУ МОЙ

**Павольна.**

Ой, бо-ру мой, — бо-ру мой, — ча-му, бо-ру, — не шу-мён? Як мне, бо-ру. —

для паўтарэння | для канца.

## 19. ДЫ Я ЖАЛА ДА ВЕЧАРА

**Умерана.**

Ды я жа-ла да ве-ча-ра, бо-жа-ж мой!
Ды я жа-ла да ве-ча-ра, бо-жа-ж мой!
Ба-ліць мая ся-рэ-дзі-на, бо-жа-ж мой, божа-ж мой!

## 20. ПАРА, ЖОНКІ, ДАМОЎ ІСЦІ

**Умерана.**

Па-ра, жонкі, да-моў — іс-ці, да-моў іс-ці. —

## 21. ДА З ЗЯЛЕНАГА ГАЮ

**Павольна.**

*Да з зя - лё - - на - га ———*

*га - ю, ——————— да з зя-*

*- лё - на - га га - ю са-ла - вей вы -*

*- лі- - - - та - іць. ———*

## 22. ШТО-Ж ТЫ, СОНЦА

**Павольна.**

*Што-ж ты, сон - ца, — ка-ля ле-су хо - - - дзіш,*

*ды за лес ——— не за - хо - - о - дзіш,*

*ды за лес не за - хо - - - дзіш?*

## 23. НЕ ПАЙДУ ДАМОЙ

**Павольна.**

Не пай - ду да - мо - - - - - - ой, я тут
за - - на - чу - - - - ю, жур - бы не па -
- чу - ю, не пай - ду да - мой. —

## 24. А Ў ПОЛІ ЖЫТА НЕ ЯРЫЦЦА

**Не вельмі скора.**

А ў по-лі жыта не я-рыц-ца, каза-лі, мой муж не п'я ні-ца.
Ой, до-ля, до люшка гор-ка-я, ка-за-лі, мой муж не п'я-ні-ца.

## 25. ВЕТРЫЧЫК ПЫШЫЦЬ

**Умерана.**

Вох! Ве-тры-чык пы - шыць, бы-лінку ка-лы-шыць,
та-тухна к да-чух - ні ліст па лі-сту пі - ша. —

## 26. ЧЫЯ-Ж ТО ПШАНІЦА?..

**Скора, бадзёра.**













## 27. ОЙ, Я Ў ПОЛІ ЛЯНОК БРАЛА

**Павольна.**






## 28. КАЦІУСЯ ВЯНОЧАК З ПОЛЯ

**Павольна.**




## 29. КРУГЛО, МАЛО

**Рухава.**




## 30. ПАЙДУ Я, МОЛАДА, КАЛЯ ДУНАЮ

**Павольна.**



## 31. ЦІКЛА РЭЧКА ПРАЗ МЯСЦЕЧКА

**Не скора.**

*Ці - кла рэ - чка праз мясцечка з ві-шнёва-га са - ду,*

*клі-каў ка-зак дзяўчыніньку к са-бе на пара - ду.*

## 2. СЯМЕЙНА-АБРАДАВЫЯ

### 32. Я УЧОРА, МАЛАДА

**Не скора.**

Я ўчо-ра, ма-ла - - да, п'я-на бы-ла, —

— п'я-на бы - ла, я ўчо-ра, ма-ла - да,

п'я-на бы - ла, ——— п'я-на бы - - ла. —

### 33. У МАЙГО БРАЦІТКІ БЯСЕДАЧКА

**Скора.**

У майго бра-ці - - ткі бя - се - да - чка,

rit. a tempo

у майго бра-ці - - ткі вя - сё-ла - я. —

## 34. НА ЗАБОР САСНА ПАХІЛІЛАСЯ

**Павольна.**



*На за-бор са - сна па-хі - лі - ла - ся,*



*а ку-ма з ку-мом па-сва - ры - ла - ся:„А ні*



*ты ка мне, а ні я к та-бе!“ А - ні бе.——*

## 35. ДА БЫЛО Ў БАБКІ

**Жвава.**



*Да бы-ло у баб - кі, да бы-ло у люб - кі*



*ды два - нац - - цаць ва - лоў, —*



*ды два - нац - - цаць ва - лоў.*

## 36. У СТРАСЕ КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЯ

**Умерана.**

*У стра - се кука-ва-ла зя - зю - ля, — у стра-*

*- се, пла-ка-ла дзе-ва - нька па ка-*

*- се, плака-ла дзе - ва - нька па ка - се.*

## 37. ДЫ Ў НЯДЗЕЛЮ РАНЕНЬКА

**Павольна.**

*Ды ў ня - дзе - лю ра - нень - ка*

*сі - ня мо - ра тра - пя - та - ла - ся,*

*сі - - ня мо - ра тра-пя-та-ла - ся,*

*со - ней - ка ку - па - ла - ся.*

Калинз- в Ленонбурге.

## 38. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСАЧКІ ЦЕРАЗ САД




## 39. ДА ДУБУ, ЗЯЗЮЛЯ, ДА ДУБУ




## 40. ХВАЛІЛАСЯ КАЛІНАЧКА ЗА РАКОЙ



## 41. ЧАМУ, ЗЯЗЮЛЯ, НЕ КУКАВАЛА?

**Павольна.**

*Ча-му, зя - зю - ля, не ку - ка-ва-ла, як са-*
*- до - чкі зацві - та-лі? — Як са-ды цвілі, я мла-*
*- да бы-ла, не у - ме - ла ку-ка - ва - ці. —*

## 42. А Й ЗЯЛЁНАЯ ЛІПА

**Павольна.**

*А й зя - лё - на - я — лі - па, да й зя-*
*- лё - на - я лі-па да ўсю во - сянь шу-*
*- ме -(ла). — Шу - ме-ла... Да ўсю во - сянь шу-*
*- ме - ла, з лі - сцей - кам ды й га-ва-ры-(ла). —*

## 43. А ХВАЛІУСЯ СВАТ

**Умерана.**




## 44. АДДАЛІ МЯНЕ, ЗАБЫЛІ МЯНЕ

**Не скора.**













## 45. УЛАЖЫ, КАЛІНА, ЖОЎТЫ ЦВЕТ

**Умерана.**






## 46. ДА ВЫЙДЗІМ МЫ, ДА ПАСЛУХАІМ

**Жвава.**







## 47. АДЧЫНІ, МАТУЛЬКА, ВАРОТА

**Бадзёра.**






## 1. ПРА ПРЫГНЁТ, БЕДНАСЦЬ І БАРАЦЬБУ З ПАНАМІ

### 48. ОЙ ТЫ, ДУБ-ДУБІНА

**Павольна.**

*Ой, ты дуб - ду-бі - на, се-на-жаць ку-мі-*
*- на, на ад-ным бе-ра-гу сем ва-зоў му-ра-гу.*

### 49. ОЙ, ЗАПЕЙ, СІРАТА

**Павольна.**

*Ой, за - пей, сі-ра-та, з го-ра пе-се-н(і) - ку, з гора*
*пе - се - н(і) - ку, з го-ра по - - ву - ю.*

50. ОЙ, НА МОРЫ ДА Й НА СІНЯНЬКІМ




51. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК НА ЕЛЬ ПАХІЛІЎСЯ




52. ДА Ў РОДНАГА БРАТАЧКІ



## 53. ЯК СЯДУ-Ж Я ПАД ВАКОШАЧКАМ ПРАСЦІ

**Павольна.**




## 54. ПРЫВЫКАЙЦЕ, ЧОРНЫ ВОЧЫ

**Умерана.**




## 55. КУКАВАЛА ДЫ КУКУЛЕЧКА

**Павольна**



## 56. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСКІ

**Умерана.**

Ой, ля-це-лі гу-скі з да-лё-ка-га кра... а-ю,

па-чакайце, гу... у-сі, я вас па-пы-та-(ю).

# 2. РЭКРУЦКІЯ І САЛДАЦКІЯ

## 57. УСТАНЬ, УСТАНЬ, МАЯ МАТУШКА

**Павольна.**

*У - стань, устань, мая матуш - ка пара - - ню - сенькаму, — гэй, пара - ню - сенькаму. —*

## 58. ЧУЛА, ЧУЛА МАЯ ДОЛЯ

**Умерана.**

*Чу-ла, чу-ла ма-я до - - ля, чу-ла, чу - - ла ма-я до - ля, што не бу - - ду я у до - ме. —*

## 59. А Ў ЛУЗІ, ЛУЗІ

**Павольна**

*А у лу-зі, лу-зі чырво-на ка-лі-на ста-*
*-я- - -ла, а у лу-зі, лу- -зі*
*чырво-на ка-лі-на ста-я- - -(ла).*

## 60. ЗАШУМЕЛА ДУБРОВАЧКА ЗЯЛЁНАЯ

**Умерана.**

*За-шуме-ла дубро-вачка зя-лё-на-я,*
*запла-кала мало-дачка ма-ла-да-я.*

## 61. ЗАШУМЕЛА ДУБРОВУШКА ЗЯЛЁНАЯ

**Умерана.**

*За-шуме-ла ду-бро-ву-шка зя-*
*-лё- -на-я, запла-кала у-до-*
*-ву-шка ма-ла-да- - -я.*

## 62. ДЫ НА НАШЫМ ГАРОДЗЕ




## 63. РАЗВІВАЙСЯ, СЫРЫ ДУБЕ




## 64. У КАНЦЫ САДЗІКУ ЗЯЛЁНАГА



## 65. ОЙ, ВА САДЗЕ, САДЗЕ




## 66. НЕ ПЫЛІЦЕ, ВЕТРЫКІ



## 67. СІЗЕНЬКОЙ ГАЛУБЧЫК

Скора.

Сі-зень-кой — га-луб-чык са-дзіў-ся — на дуб-чык; — во-чы я-го я-сны, бровы я-го чорны да пе-рэйка я-го 1. бя-лень-ка. — 2. бя-лень-ка.

## 68. ОЙ, ВЯРБА МАЯ, ТЫ ЗЯЛЁНАЯ

Умерана.

Ой, вяр-ба ма-я, ты зя-лё-на-я, — не стой над ра-кой, над бы-страй ва-дой.

## 69. ТЫ КАЛІНА, МАЛІНА

Умерана.

Ты ка-лі-на, ма-лі-на, а штож ця-бе зва-лі-ла?
Звалілі мяне буйныя вятры з су-хі-мі мара-за-мі.

## 70. УДОЛЬ ПА ВУЛКІ ХОДЗІЦЬ ВАНЯ

**Умерана.**

Ўдоль па вулкі ходзіць Ваня, ён шчаў-каіць га-рэ-хі. —

Ўдоль па вул-кі ходзіць Ва — ня, ён шчаўкаіць гарэхі. —

## 71. ПАДАЙ, ПАДАЙ, БЕЛЕНЬКІ МАЛОЙЧЫК

**Не вельмі скора.**

Па-дай, па - дай, бе-ленькі ма - лой - чык,

ды свой га-ла - со - чак, ды свой га-ла - сок.

## 72. ОЙ ТЫ, ПОЛЕ МАЁ

**Павольна.**

Ой, ты по-ле ма - ё не-ра-дзі-ма -

- е, да ні - што ў полі тым ніко - лі не ра-сце.

## 73. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ ЯЛІНАЧКА




## 74. ПАМЁР, ПАМЁР САЛДАЦІКУ




## 75. ОЙ, ЯК І ЕХАЎ КАЗАК НА ДАЛІНУ



## 3. ДЗІЦЯЧЫЯ

### 76. ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, ЛЮЛІ

**Спакойна.**

*Лю-лі, лю-лі, лю-лі! Пры-ля-це-лі гу-лі,*
*се-лі на ва-ро - цях у чырво - ных бо-цях.*

### 77. НЕ ХАДЗІ, КОЦІК, ПА ЛАЎЦЫ

**Умерана.**

*Не хадзі, коцік, па лаўцы, будзем біці па лапцы.*

### 78. ЛАДКІ-ЛАДУШКІ

**Павольна.**

*Лад-кі-ла - ду - шкі, пры-ля-це-лі пту - шкі,*
*се-лі на ва - ро - тах у чыр-во-ных ботах.*

## 79. СЯДЗІЦЬ КАМАР НА ДУБОЧКУ

**Бадзёра.**

*Сядзіць камар на ду-бо-чку, на зя-лё-ненькім лі-сто-чку,*

*ай, люлі, люлі, лю-лі, на зя-лё-ненькім лі-сто-чку.*

## 80. КАМАР ЛАЗНЮ ТАПІЎ

**Скора.**

*Ка-мар ла-зню та - піў, блы-ха*

*па - ры - ла - ся, блыха па - рыла-*

*-ся, з пал-ку ўда-ры-ла - - ся.*

## 81. САЎКА ДЫ ГРЫШКА ЛАДЗІЛІ ДУДУ

**Скора.**

*Саў-ка ды Грыш-ка ла-дзі-лі ду-ду,*
*па-ве-ся - ліц-ца, каб прагнаць ну-ду,*

*ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, каб прагнаць ну-ду.*

## 4. ЛЮБОЎНЫЯ

### 82. ВОЙ, Я ХАДЖУ, ПАХАДЖАЮ

**Павольна.**

*Вой, я хаджу, па - ха - джаю па чыс -*

*- та - му по - лю, —— се - ю, се - ю*

*расся - ва - ю сва - ю — горку — до - лю.*

### 83. ОЙ, РАЗВІЛАСЯ ЗЯЛЁНА ДУБРОВА

**Павольна.**

*Ой, развi - ла - ся зя-лё - на ду - бро-ва*

*на той крученькай га - рэ; ——*

*ой, разы - шла-ся ва-ро - жа за - ба-ва*

*аб ма-ёй дзя - во - чай кра - се ——*

## 84. ОЙ, СТАЯЛА ЯЛІНАЧКА

**Не вельмі скора.**




## 85. ДУБРОВАЧКА, ОЙ ЗЕЛЯНАЯ

**Павольна.**




## 86. УЖО Я ЎСТАНУ РАНЕНЬКА

**Скора.**



## 87. А Ў ПОЛІ ВЯРБА

**Павольна.**

*А ў по - лі —— вяр - ба, пад вяр - бой — ва - да,*

*там хадзіла, ва-ду брала дзеўка ма - ла-да.*

## 88. А БЕЛАЯ ЛЯБЁДАЧКА

**Умерана.**

*А бе - ла-я ля-бё-дачка ва-ду за-му-ці - ла,*

*а ты, красна дзяўчыначка, чаму засму-ці - лась?*

## 89. А ЯК ЗАРАДЗІЛА

**Не скора.**

*А як за-ра-дзі-ла- мно-га я - гад у ба - ру, —*

*а як заблу-дзі-ла красна дзе - ві - ца ў ля-су.*

## 90. А У ПОЛІ ДУБ, ДУБ

Умерана.

А у по-лі дуб, дуб, а пад ду-бам ёл-ка,
там дзяўчына жыта жала, са-ма чорна-броў-ка,
там дзяўчына жыта жала, са-ма чорна-броў-ка.

## 91. ПАЗВОЛЬ, ПАЗВОЛЬ, МАЦІ

Павольна.

Пазволь, пазволь, ма-ці, крыни-цу капа-ці, ці не
пры-дуць дзеў-кі ра-на ва-ду бра-ці, ці не
прыдуць дзеўкі ра-на ва-ду бра-ці. ———

## 92. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

Бадзёра.

Зя - лё - ны ду - бо - чак, шы - ро - кі ліс - то - чак, ку - ды — ве - цер ве - е, ту - ды — галлё — гнецца.

## 93. ЦІ ЎСЕ ЛУГІ ПАКОШАНЫ

Умерана.

Ці ўсе лу - гі па - ко - ша - ны, ці ўсе се - на - жа - ці; пы - та - ец - ца сын у ма - це - ры, ка - то - ру - ю ўзя - ці?

## 94. НЕ АГОНЬ ГАРЫЦЬ, НЕ ВАДА КІПІЦЬ

**Павольна.**

*Не а - гонь га - рыць, не ва - да кі - піць,*

*ма - ла - дзец - ка - е сэр - цай - ка ба - ліць.*

## 95. АЙ, БОЖА МОЙ, БОЖА

**Павольна.**

*Ай, бо-жа мой, бо - - жа, без до - лі ўра - дзіў - ся:*
*я - кі свет вя - лі - - кі, а я не жа - ніў - ся.*

*А што-ж я ду-ма-ю, красну дзе-ві - цу каха-ю,*

*паклічу я мі - - лу к са-бе на па - ра - ду.*

## 96. ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА

**Павольна.**

*Ой, рэчанька, рэ - чанька, чаму-ж ты ня поў-на-я?*

*Ай, лю-лі, лю - лі, лю-лі, чаму-ж ты ня поў-на-я?*

## 97. ПАШОЎ ЯСЬ НАШ НА ЛУЖОК

Скора.

Па-шоў Ясь наш на лу-жок, па-шоў
Ясь наш на лу-жок, на-касіў а-та-вачкі
ён стажок, на-касіў а-та-вачкі ён стажок

## 98. ПАЦЯРАЛА Я КАЛЕЧКА

Умерана.

Па-ця-ра-ла я ка-ле-чка, паця-рала я лю-
-боў, і вер-на, па-ця-ра-ла я лю-боў.

## 99. ВЕЧАРКОМ ЗА РЭЧКАЮ

**Пе скора.**

Ве-чарком за рэ-чкаю, эх! — Ве-чарком за рэ-чкаю пе-сенька гу-чыць, эх, ды вый-ду, Эх! выйду я на га-начак, выйду я на га-начак, ма-ці, не кры-чы, эх, ды маці, не кры-чы! —

## 5. ЖАНОЧЫЯ

### 100. ДА ЎЖО СОНЕЙКА

**Не скора.**

*Да ўжо со-нейка за лес ко - ціц-ца, мне да*

*ма - ту-лі ў го - сці хо - чац-ца.*

### 101. ПРЫЛЯЦЕЛА ГАЛКА

**Не скора.**

*Прыля-це-ла галка, чу-жа-я зя-мля - чка,*

*се-ла я-на, па - ла на сухой сасне.—*

## 102. А ХТО УДВАЕХ, ХТО УТРАЕХ

Умерана.

А хто ўдваёх, хто ўтраёх, а я ўсё а-дна,

ой, выпію я ча-рачку да са-ма-га дна.

## 103. САЛАВЕЙКА ЛУГАВЫ

Умерана.

Са-ла-вейка лу - га - вы, —

не шча-бя-чы з-пад за - - ры,

не жур маёй га - ла - - вы.

## 104. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНІЦА УВЕСЬ СВЕТ АКРАСІЛА

Умерана.

Чырво-на-я калі-ні-ца ўвесь свет а-кра-сі - ла,

бяздоль-на-я дзяўчынанька ўвесь род а-сля-зі-ла.

## 105. БОЖА-Ж МОЙ, СПАЦІ ХАЧУ

**Павольна.**

Бо-жа-ж мой, спаці ха - чу. — Гама-няць ўсё да
паўно - чы, — па-бу-джаюць да зорань - кі, — га -
- лоў - ка ба - ліць, — га - лоў - ка ба - ліць. —
— Ка-ма-ры гу - дуць, — мне спаць не да -
- юць. — Пай-ду я у — ка-мо - ру, у -
- крыюсь ад га - мо - ну, і там я за -
- сну, — і там я за - сну. —

## 106. БЯРОЗКА МАЯ КУДРАВІСТАЯ

**Не скора.**




## 107. ЯК У ПОЛІ БУЕН ВЕЦЕР ВЕЕ

**Умерана.**




## 108. ПАЙДУ Я, МАЛАДА, ПА ВАДУ

**Не скора.**



## 109. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

**Павольна.**




## 110. ОЙ, ХАДЗІЎ-ЖА ЎСЁ МАЛОЙЧЫЧАК

**Умерана.**




## 111. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЧЭРАЗ БЫСТРУЮ

**Умерана.**



## 112. ОЙ, ПРАЛА-Б Я КУДЗЕЛЬКУ

**Не вельмі скора.**

*Ой, пра - ла-б я ку - дзель - ку, ды галоў-*

*- ка ба - ліць, пайшла-б я даў кар-*

*- чо-ма-чку, ды мой му - жык не вя - ліць.*

## 113. Я ЎЧОРА Ў ПІРУ БЫЛА

**Павольна.**

*Я ўчора ў піру бы - ла, п'яненька дамоў пры - шла,*

*ой, ё - ё - ёй, бо - жа мой, п'яненька дамоў прышла.*

## 114. ОХ ВЫ, ДЗЕВАЧКІ, ПАДРУЖАЧКІ МАЕ

**Павольна.**

*Ох вы, дзе-ва - чкі, па - дру...у - жачкі ма-*

*- е, прыха-дзі - ця на —— вя-чорачкі ка мне.*

### 115. ДЫ П'ЯНА Я, ОЙ, ВАЛЮСЯ

**Павольна.**




### 116. ЗАПРАЖЭЦЕ, ЗАПРАЖЭЦЕ

**Павольна.**




### 117. Я — КАЛГАСНІЦА

**Умерана.**



# 6. ПЕСНІ БАЛАДНЫЯ

## 118. УЗЫШОЎ МЕСЯЦ І ЗАРА

**Скора.**

Ўзышоў месяц і за-ра, там ха-дзі-ла у-да-ва,
Ду-най, Ду-най, Ду-на-ё - - чык,
Ду-най, Ду-най, Ду-на-ё - - чык.

## 119. А Ў БАРУ САСНА КАЛЫХАЛАСЯ

**Умерана.**

А ў ба-ру са - сна калы-ха-ла-ся,
ой, лю-лі, лю - лі, калыха-ла-ся.

## 120. ОЙ, ЦЁМНА НОЧКА, ДЫ НЯВІДНА БЫЛА




## 121. СЯРОД ДВАРА СТАІЦЬ КРЫЛЬЦО



122. ОЙ, У ПОЛІ, ПОЛІ НЕ ДЫМ, НЕ ТУМАН




123. ЕХАЛІ САЛДАЦІКІ




124. АЖАНІЛА МАЦІ



## 125. МЕЛА МАТУЛЯ АДНАГО СЫНА

**Умерана.**






## 7. ЖАРТОЎНЫЯ

### 126. АХ ТЫ, ДУЙ, АХ ТЫ, ДУЙ

**Скора.**

*Ах ты, дуй, ах ты, дуй, ма-я мі-ла, не бя-*
*дуй, па ма-ёй гала-ве аста-нецца ўсё та-бе.*

### 127. ПАЙШЛА УЛЛЯНА

**Скора**

*Пайшла Улля-на на яр-марку п'я-на,— ай,*
*лю-лі, па-лю-лі, на яр-марку п'я-на.*

5—299.

## 128. ТЫ НАШТО, МАЦІ, ПА СЕНЕЧКАХ ХАДЗІЛА?

**Умерана.**

*Ты на - што, ма - ці, па се - нечках ха -*
*- дзі - ла, ты на - што мяне пра - сі - ву - ю ра -*
*- дзі - ла? Мне не можна аж да цэркві да - ха -*
*- дзіць, мне не можна сва - іх пацер га - ва - рыць.*

## 129. НЕ ЙДЗІ МАСТОМ, БЯРЭЗІНКАЮ

**Скора.**

*Не йдзі — мастом, бя - рэ - зін - ка - ю,*
*не лю - бі ка - за - ка — із дружын - ка - ю.*

## 130. ЦЕРАЗ ЛЯСОЧАК, ЛЯСОЧАК

**Вельмі скора.**

*Цераз лясо - чак, лясо - чак, це - раз рэчаньку, масточак,*

*ка - лі - на - вы мост, — ка - лі - на - вы мост.*

## 131. СЕЮ РЭДЗЬКУ

**Умерана.**

*Се - ю рэдзьку, се - ю рэдзьку, се - ю, па - ся - ва - ю;*

*расці, рэдзька, расці, рэдзька, на зі - му сха - ва - ю.*

## 132. ХЛОПЕЦ ПАШАНЬКУ ПАХАЕ

**Умерана.**

*Хлопец пашаньку па - ха - е, божа - ж мой! У я - го*

*со - шанька крыва - я, бо - - жа - ж мой!*

## 133. МАМАЧКА, ЖЫВАТОК БАЛІЦЬ

**Умерана.**

*Мамачка, жы-ва-ток баліць. Дачушка, лезь на палок.*
*Мамачка, на пал-ку дзі-ця. До-ня, дзеж я-го ўзя-ла?*

## 134. У ГАРОДЗЕ ЗА МЛЫНОМ

**Не вельмі скора.**

*У га-ро-дзе за млыном — ка-пусту ссяка-ла,*
*мусіць мяне бог скараў, што пе-ра-бі-ра-ла.*

## 135. А СКАЗАЛІ ПРА МЯНЕ, МАЛАДЗІЦУ

**Бадзёра.**

*А ска-за-лі пра мя-не, мала-дзі-цу, —*
*а ска-за-лі пра мя-не небы-лі-цу, —*
*што я, мо-ла-да, не ткаха, не пра-ха, —*
*што я, мо-ла-да, не ткаха, не пра-ха. —*

## 136. ЗАМУЖ ПАЙСЦІ, ТРЭБА ЗНАЦІ

**Не вельмі скора.**




## 137. КАБ Я СВАЮ ДОЛЮ ЗНАЛА

**Павольна.**




## 138. ЯК ПАШОЎ ХАЛІМОН

**Скора.**



## 139. А ПАД ЛЕСАМ КУРЫЦЬ, КУРЫЦЬ

**Умерана.**

А пад ле-сам ку-рыць, ку-рыць, а дзед ба-бу жу-рыць, жу-рыць: „Ідзі, ба--ба, да-мой, да-мой, напя-кі — мне блі-ноў, блі-ноў."

## 140. У ГАРОДЗЕ ПШАНІЧАНЬКА, ДЫ НЕ КУКУРУЗА

**Умерана.**

У га-ро-дзе пша-нічанька, ды не кукуруза, раз-гне-ва-ла-ся жона-чка на му--жа, раз-гне-ва-ла-ся жо-на-чка на му-жа.

## 141. ЗАХАЦЕЛА БАБУСІНЬКА ДЫ РАЗБАГАЦЕЦІ

**Умерана.**

За - ха - це - ла ба - бу - сінька ды разба - га -
- це - ці, цып, цып, — цы-рура, цып, цып, —
— цы - ру - ра, ды раз - ба - га - це - ці.

## 142. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДЫНЬКА МАЯ!

**Не вельмі скора.**

Добры вечар, гаспа - дынь - ка ма - я,
ці зда - ро - ва ды ся - меюш - ка тва - я?

## 143. А ДЗЕ БЫЎ ТЫ, ДЗЯДУЛЬКА МОЙ?

**Не вельмі скора.**

А дзе быў ты, дзя - дуль - ка мой, —
а дзе быў ты, мі - лень - кі мой? На кірмашы, бабка,
на кір-машы, любка, на кірмашы, сі-ва-я галубка.

## 144. ЗАСТУЧЫ, МАЯ ДУБІНКА

**Скора.**

За - сту - чы, ма-я ду - бін - ка, за - ду -
- дзі, ма-я ва - лынка, лю - ба, лю-ба, лю-ба,
лю - ба, за - ду - дзі, ма-я ва - лынка.

# 1. КАРАГОДНЫЯ І ГУЛЬНЁВЫЯ ПЕСНІ

## 145. ДЗЯВОЧКІ, ПРАЛЕСАЧКІ («Ц я р э ш к а»)

**Жвава.**

*Дзя - вочкі, пра - ле - сачкі, не йдзіце ў а - рэ - ша-*

*- чкі, а - бо вы за - блу - дзіце, а - рэшач - кі пагу - біце.*

## 146. ЗЯЗЮЛЯ

**Не спяшаючыся, вадзёра.**

*Ты, зязюля, не кукуй, не кукуй, ты, шэрая, не кукуй, не кукуй,*

*калі будзіш кукаваць, кукаваць, негдзі будзець начаваць, начаваць, ку -*

*- ку, ку - ку, ку - ку, ——— ку - ку!*

## 147. ПАСЕЯЛІ ДЗЕЎКІ ЛЁН

**Скора.**




## 148. ЯК НА ГАРЫ КАЛІНА

**Бадзёра.**




## 149. ПА ЛУЖКАМ, ЛУЖКАМ

**Не скора.**



## 150. ТАМ ЗА ЛЕСАМ, ТАМ ЗА ПЕРАВАЛАМ

**Умерана.**



*Там за ле - сам, там за пе-ра - ва - лам,*



*ду-мала, ду-ма-ла, ду-мала, па-ду-мала.*

## 151. УСЕ ЛЮДЗІ СІДЗЯЦЬ. ГАВАРАЦЬ

**Не вельмі скора.**



*У-се лю-дзі сі - дзяць, га-ва - раць, што я*



*мі-ла - га пад-люблі - ва - ю, ай, ды лю-шанькі,*



*лю-шан(і)-кі, што я мі-ла - га пад-люблі-ва - ю.*

## 152. ЗАІНЬКА, ТЫ ШЭРЫ МОЙ

**Умерана.**



*За-інь-ка, ты шэ-ры мой, дзе-ж ты быў да прабываў?*



*Быў я, быў я, ма-мачка, ды па падвалам, за-інь-ка.*

## 153. Я МАЛЁШАНЬКІ

**Не скора.**

*Я малё - шань-кі — ў маменькі ўра - дзіў - ся,*

*лю-лі, — палю-лі, — ў маменькі ўра - дзіў - ся.*

## 154. СТАРЭНЬКІ ДЗЕДКА ПА ГАРОДЗЕ ХОДЗІЦЬ

**Павольна.**

*Старэнькі дзед-ка па га-ро-дзе — хо-дзіць,*

*па га-родзе хо-дзіць, кана-пельку — се - е.*

**Скора.**

*Лю-шачкі, лю-шачкі, лю-лі, лю-лі, — лю - лі.*

## 155. ЯК ПУШЧУ СТРАЛУ

(„Страла").

**Умерана.**

*Як пу - шчу стралу да па ўсём — ся-лу, вох-і,*

*вой, лё - лі, да па ўсём — ся - (лу).*

## 156. У МАЙГО ТАТАЧКІ
(„Страла“)









## 2. ТАНЦЫ

### 157. ЛЯВОНІХА

Ігрыва.

Ай, Ля - во - ні - ха, Ля - во - ні - ха ма - я,
Ай, Ля - во - ні - ха, Ля - во - ні - ха ма - я,

ніхай цябе чорт(і) любіць, да не я. Ай, гдзе-ж тыя кава -
ніхай цябе чорт(і) любіць, да не я. Куюць, куюць да пад -

- лён - кі жывуць, што но-вы-я тапа-рон - кі куюць?
- ва - ры-ваюць, нашых дзева-чак падма - нюваюць.

### 158. ШАСТАК

Павольна, потым усё больш шпарчэй.

Шэсць дзён мала - ці - ла, шастак за - ра - бі - ла,

са - ма сабе дзі-ва-ва-ла, што так мала заробля-(ла).

## 159. ВЕРАБЕЙ

Не вельмі скора.




Скора.




## 160. КОЛА

Скора.









## 161. КРУЖАЧОК

Жвава.

## 162. ТАУКАЧЫКІ

Жвава.



## 163. ЮРАЧКА

**Скора.**

*Ах ты, Ю - ра - чка, што не жэ - ніс -*
*Што ты, Ю - ра - чка, а - зі - ра - іс -*

*- ся, прыдзе зі - ма - чка, ку - ды дзе - ніс - ся?*
*- ся, палю - біць ка - го са - бі - ра - іс - ся?*

*Ты на - прасна не ха - дзі, доўга дарма не гля -*

*- дзі. Ах ты, Ю - ра - чка, што не жэ - ніс - ся?*

## 164. ПАДУШАЧКА

**Павольна.**

*Па-душачка, па-душачка, ма-я пуха - ва - я,*

*мало-дачка, мало-дачка, ма-я мала - да - я.*

## 165. ГАЛУБЕЦ

**Шпарка.**

## 166. ЖУРАВЕЛЬ




## 167. ТРАСУХА





## 168. ПОЛЬКА




## 169. АНТОН МАЛАДЗЕНЬКІ

**Павольна.**

Ан-тон ма-ла-дзенькі піў мёд са-ла-дзенькі,

Антоні-жа прыбя-га-ла сваймумужу падсабля-(ла).

## 170. КАДРЫЛЬ

І калена

**Павольна.**

Я па жэр – – дачкі й – шла, ———

я й па но – – ві – н(і) – – кай, я й па

но – ві – н(і) – кай, па ця – со – ві – н(і) – кай.

II калена




III калена



**Бадзёра.**



*Трэ-ба дзеж - ку мя-сіць, па ця-ля - так і-ціць,*



*а йдзе мі-не, ма-ла-дой, Ва-сі-ля — найціць?*

**Прыпеў:**



*Ва-сіль, Ва-сі - лёк, ба-ра-во - я зел-ля,*



*а хто любя Ва-сі - ля, то са-ма-я шэльма.*

V калена (лявоніха)

**Жвава.**







VI. «Галоп»

**Вельмі скора.**



171. КАДРЫЛЬ (казачковая)

**Досыць скора.**




172. МІКІТА («Кадрыль Петкевіча»)

**Грацыёзна.**



## 3. ПРЫПЕЎКІ

### 173. ВА САДОЧКУ, ВА ЗЯЛЁНЫМ

Жвава.

Ва са - до - чку, ва зя - лё - ным траву -
- шка па-мята - я; не ра - бо - та мяне
з'е - ла, а лю - боў — праклята - я.

### 174. ЯК ПАЙШОЎ МІЛЫ КАСІЦЬ

Умерана.

Як пайшоў мілы касіць ды папрасіў кальцо насіць. Мілы
косіць, кальцо носіць, а мне совес - на спра - сіць.

## 175. А БОЖА МОЙ, ТОЛЬКІ

**Не скора.**







## 176. МОЙ МІЛЕНЬКІ ПАМЕР, ПАМЕР

**Скора, жартоўна.**









## 177. А ПАЙШОЎ АПАНАС

**Бадзёра**



*А пайшоў А-па-нас па га-рэ-лачку для нас,*



*за-ча-піў-ся за пень, і стаяў там цэ-лы дзень.*



*Пайшла жонка, адча-пі-ла, за гарэл-ку заплаціла.*

# *1. КАЛЕНДАРНА-АБРАДАВЫЯ*

## 1. ІШЛА-ПАЙШЛА СІВАЯ СВІННЯ...

1. Ішла-пайшла сівая свіння,
   Кугі, кугі, сівая свіння.
2. Аж пад дубы, у жалуды,
   Кугі, кугі, у жалуды.
3. Спаткалася з шэдзінькім ваўком,
   Кугі, кугі, з шэдзінькім ваўком.
4. — Куды ідзеш, сівая свіння?
   Кугі, кугі, сівая свіння.
5. — Іду пад дубы, у жалуды,
   Кугі, кугі, у жалуды.
6. — І я-ж табе за таварыша,
   Кугі, кугі, за таварыша.
7. — А божа-ж мой, не хочацца,
   Кугі, кугі, не хочацца.
8. Быць маёй шэрсці рассыпанай,
   Кугі, кугі, рассыпанай.
9. Быць маёй крыві разлітаю,
   Кугі, кугі, разлітаю.
10. Быць маім дзеткам сіротачкамі,
    Кугі, кугі, сіротачкамі.

## 2. ВЯСНА ПРЫШЛА...

1. Дзякуй богу,
   Што вясна прышла[1].
2. Я, млада,
   Каля жыта пайшла.
3. — Расці, жыта,
   Караністае.
4. Караністае,
   Лапушыстае.
5. Каб у трубы
   Пакачалася,
6. Каб я, малада,
   Нажалася
7. І снапочкаў
   Нанасілася.

## 3. ВЯСНА КРАСНА...

1. Вясна красна,
   Што-ж ты нам прынясла?[1]
2. З пунькі сянцо
   Вынесла, вынесла.
3. З току саломку
   Вытрасла, вытрасла.
4. З клеці зярно
   Вымела, вымела.
5. На гары бабкі
   Сядзелі, сядзелі,

[1] Кожная страфа паўтараецца.

6. Кулаком зямлю
Калацілі, калацілі
7. Да нявехначак
Судзілі, судзілі:
8. — Ой, мая-ж нявехна
Дурмі-дурак, дурмі-дурак,—
9. Зімку прала,
Ўсё спала, ўсё спала,
10. Кросны ткала,—
Драмала, драмала.
11. Вось мая дачушка
Разумна, разумна,—
12. Зімку прала,—
Не спала, не спала,
13. Кросны ткала,—
Ляшчала, ляшчала.

## 4. КРУТОЕ КАЛЯСО КРУЦІЦЦА ХАРАШО...

1. Крутое калясо
Круціцца харашо,
Круціцца харашо,
Пакачу я яго.

2. Пакачу-ж я яго
З гары на даліну,
З гары на даліну,
На падол-даліну.

3. Дзе-ж я перайму?
У Васількі на дварэ,
У Васількі на дварэ,
У Тэклічкі на касе,

4. На руцвяным цвяточку,
На шоўкавым платочку,
Што-б галоўка зіяла,
Як золата блістала.

5. — Ой, руцвяны вяночак,
Чаго скоранька завяў,
Чаго скоранька завяў,
Чаго борздзенька зліняў?

6. — Ой, мяне-ж Тэклічка
Да не шанавала,
Да не шанавала,
Па дыму насіла.

7. Па дыму насіла,
Вяршок затыкала,
Вяршок затыкала,
Да на стоўпе клала.

## 5. ОЙ, ЧАМУ ТЫ, ЯЛІНАЧКА?..

1. — Ой, чаму ты, яліначка,
Не зялёна,
Не зялёна, не зялёна,
Не зялёна?

2. — А як-жа мне, яліначцы,
Зялёнай быць,
Зялёнай быць (3)?

3. Пада мною тры купчыкі
Начавалі,
Начавалі (3).

4. Яны маё карэннійка
Патапталі,
Патапталі (3).

5. Яны-ж маё вецційка
Паламалі,
Паламалі (3).

6. — А чаму ты, дзяўчынінька,
Не вясёла,
Не вясёла (3)?

7. — А як-жа мне, маладзенькай,
Вясёлай быць,
Вясёлай быць (3),

8. Калі ў мяне тры малойцы
Прабывалі,
Прабывалі (3).

9. Яны мяне, маладую,
Забаўлялі,
Забаўлялі (3).

10. Яны-ж маю русу косу
Растрапалі,
Растрапалі (3).

11. Яны-ж мяне, маладую,
Асмяялі,
Асмяялі (3).

## 6. ОЙ, ПАД ДУБАМ, ДУБАМ...

1. Ой, пад дубам, дубам
Там зязюля,
А пад другім дубам—
Там другая.

2. Да збяромся, сёстры,
Ў адно мейсца,
Да як загукаем
Мы жалосна.

3. Да хто-ж нас пачуіць,
Той ўздыхнецца,
Хто мамкі не маіць,
Той заплачыць.

4. Была наша мамка
Гаротная,
Іна нас маленькіх
Гадавала.

5. Іна нашу долю
Праклінала,
А як-жа казала,
Так і стала.

## 7. ХАДЗІЎ, ПАХАДЗІЎ...

1. Хадзіў, пахадзіў
Ясь па полю,
Сеіў-рассяваў
Васілёчкі.

2. А рассеіўшы,
Проч паехаў.
Ад'ехаўшыся,
Аглянуўся.

3. А ад'ехаўшы,
Аглянуўся,
Сіні васілёк
Скалыхнуўся.

4. — Васілі-ж мае,
Васілёчкі,
А хто-ж вас будзе
Паліваці?

5. А хто-ж будзе вас
Паліваці,
Ад злых марозаў
Укрываці?

6. — Мамка стара,
Сястра мала,
А жана малада
На Дунай пашла.

7. Да ці іна там
Утанула,
Да ці яе там
Звяры з'елі?

8. — Каб іна там
Утанула,
Сіняя мора
Ўскалыхнулась.

9. Да каб летам
Звяры з'елі,
Крывавыя-б рэчкі
Ды пабеглі.

## 8. ВОЛ БУШУЕ...

1. Вол бушуе,
Вясну чуе[1],
Баран блеіць,
Ў поле хочыць.

2. Баран блеіць,
Ў поле хочыць,
Курка сакочыць,
Нясціся хочыць.

3. Курка сакочыць,
Нясціся хочыць,
Дзеўка плачыць,
Замуж хочыць.

4. Дзеўка плачыць,
Замуж хочыць,
Стары крэхчыць,
Пажыць хочыць.

[1] Першыя два радкі паўтараюцца.

## 9. ДА ЛЯЦЕЛА СОЙКА...

1. Да ляцела сойка
Цераз Навасёлка,
Вясна красна
На ўвесь свет.[1]

2. Да яна схапіла
Іванаву жонку,
Вясна красна...

3. Да Іванька бяжыць,
Галоўку задраўшы,
Вясна красна...

4. — Сойка, сойка, сойка,
Аддай маю жонку,
Вясна красна...

5. Мая жонка рана,
Рана уставала,
Вясна красна...

6. Рана, рана ўстала,
Тонка, тонка прала,
Вясна красна...

## 10. ДА Ў ЛУЗІ КАСЕЦ КОСІЦЬ...

1. Да ў лузі касец косіць, (2)
Да, прылёгшы, галосіць:
2. — Чы мая каса тупа, (2)
Чы мая жана скупа?
3. Дала хлеба скарыначку, (2)
Бацвіння ў адлівачку,
4. Бацвіння ў адлівачку.
І хлеба скарыначку,
І солі драбіначку.

## 11. САЛАВЕЙКУ МАЛЕНЬКІ...

1. Салавейку маленькі,
Твой галасок тоненькі. (2)
2. Не шчабячы на зарэ,
Не заўдавай жалю мне. (2)
3. Не заўдавай жалю мне,
Што я ў чужой старане. (2)
4. Ой, пайду я, гукаючы,
Свайго роду шукаючы. (2)
5. Па край сонца абайшла,
Свайго роду не знайшла. (2)

## 12. ШТО Ў ПОЛІ ДАЛЁКА...

1. Што ў полі далёка
Дзеўка лянок поля.
Гэй, гэй, палола, палола,
Гугаль выбірала, гэй!

2. Палола, палола,
Гугаль выбірала,
Гэй, гэй, вараному коніку
Пад ногі кідала, гэй!

3. — Поўна табе, дзеўка,
Гугаль выбіраці,
Гэй, гэй, вараному коніку
Пад ногі кідаці, гэй!

4. Вараному коню
Пад ногі кідаці,
Гэй, гэй, паспяшай дахаты
І кладзіся спаці, гэй!

---

[1] Прыпеў паўтараецца.

## 13. ОЙ, РАНА НА ЙВАНА...

1. Ой, рана на Йвана́, (2)
Проці Йвана ночка мала,
Ой, рана на Йвана́. (2)

2. Ой, рана на Йвана, (2)
Гдзе, Купала, начавала,
Ой, рана на Йвана? (2)

3. Ой, рана на Йвана, (2)
Начавала ў чыстым полі,
Ой, рана на Йвана. (2)

4. Ой, рана на Йвана, (2)
Ў чыстым полі, сярод жыта,
Ой, рана на Йвана. (2)

5. Ой, рана на Йвана, (2),
Чым, Купала, вячэра̀ла,
Ой, рана на Йвана? (2)

6. Ой, рана на Йвана, (2)
Варэнічкі вячэра̀ла,
Ой, рана на Йвана. (2)

7. Ой, рана на Йвана, (2)
Чым, Купала, запівала,
Ой, рана на Йвана? (2)

8. Ой, рана на Йвана, (2)
Гарэлачкай запівала,
Ой, рана на Йвана. (2)

## 14. ЯК ПОЙДЗЕМ МЫ, ДЗЕЎКІ...

1. Як пойдзем мы, дзеўкі,
Па вулкі шырокі. (2)

2. Як зайдзем мы, дзеўкі,
К Іваньку на дворкі. (2)

3. Ай, дась нам Іванька
Нам сваёй кулагі. (2)

4. — А ў тваёй кулагі
Пчоланькі бруя̀лі. (2)

5. Іванька не чуіць,
Ў пяры́ні начуіць. (2)

6. — Спасіба, Іванька,
За тваю кулагу. (2)

7. А ў тваёй кулагі
Пчоланькі бруялі. (2)

8. Пчоланькі бруялі,
А ў палёт літалі. (2)

9. А ў палёт літалі,
Мяды сабіралі. (2)

10. Мяды сабіралі,
Кулагу сладзілі. (2)

## 15. НА ІВАНА НОЧ МАЛЕНЬКА...

1. На Івана ноч
Маленька,—
Не выспалася
Панен(ы)ка.

2. Пашла ў ягадкі,
Заснула,
Прыехаў панічак—
Не ўчула.

3. Прыехаў панічак—
Не ўчула,
Махнуў хустаю—
Не ўстала.

4. Махнуў хустаю—
Не ўстала,
Відна, дзевачка
Заспала.

5. — Прачнісь, дзеванька,
Ўстрэпяніся,
Кругом, ўсё кругом
Агляніся.

6. Стаіць конічак
Вараны,
Што на коніку—
Суджаны.

## 16. ВАСІЛЯ МОЙ, ВАСІЛЁЧЫК...

1. Васіля мой,[1]
Васілёчык,

2. Бровенькі
Твой цвяточык.

3. Часам цябе
Я садзіла,

4. Другім часам
Палівала.

5. Трэцем часу
Я сарвала,

6. І ў тым часу
Вянок звіла.

7. Звіўшы вянок,—
Дзеўка ў танок,

8. Дзеўка ў танок,
Іржа ў вянок.

9. Дзеўка з танка̀,
Іржа з вянка́.

10. Дзеўкін вянок
Вяніць, вяніць,

11. У мальца сэрца
Прагніць, прагніць.

12. Дзеўкін вянок
Зілянеіць,

13. У мальца сэрца
Вісялеіць.

## 17. ОЙ, ЧАБОР МОЙ ЗЯЛЁНЫ...

— Ой, чабор мой зялёны,
Дзе цябе пасадзіці,
Ці ў гародзе на лясѐ,
Ці ў капуснай баразне?
— Дзе хочацця, пасадзіцця,
Толькі веццця не ‘бламіцця,
Ды лісточку не патрыцця.

— Маладая Мар‘яначка,
Дзе-ж цябе пасадзіці,
Ці ў татульці на куце,
Ці ў мальчака на руцэ?
— Дзе хочаце, пасадзіцца,
Толькі сукні не патрыцца,
Ды вяночка не скраніцца.

## 18. ОЙ, БОРУ МОЙ...

1. Ой, бору мой, бору мой,
Чаму, бору, ні шумён?

2. — Як мне, бору, шумён быць?
Ў мяне, бо́ру, пташак нет.

3. Адна была зязюля,
Адна была й шэрая.

4. Адна была й шэрая,
Тую арлы задралі.

5. Арол сабе на пер‘я,
Сакол сабе на мяса.

6. Ой, двору мой, двору мой,
Чаму, двору, й не мяцён?

7. — Як мне, двору, мяцён быць?
Ў мяне, двору, дзевак нет.

8. Адна была Марусiчка,
Адна была й молада,

9. Адна была й молада,
Тую сваты павязлі.

10. Сваты сабе на гульню,
Міколка сабе за жану.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 19. ДЫ Я ЖАЛА ДА ВЕЧАРА...

1. Ды я жала да вечара, божа-ж мой!
Ды я жала да вечара, божа-ж мой!
Баліць мая сярэдзіна,
Божа-ж мой! (2)

2. Каб я мела дзіцятачка, божа-ж мой!
Каб у мяне маленькае, божа-ж мой!
Можа-б яно заплакала,
Божа-ж мой! (2)

3. Можа-б яно заплакала, божа-ж мой!
Дык я-б яго скалыхнула, божа-ж мой!
Сярэдзіна-б адпачнула,
Божа-ж мой! (2)

## 20. ПАРА, ЖОНКІ, ДАМОЎ ІСЦІ...

1. Пара, жонкі, дамоўісці,
дамоўісці,
2. А ўцярала зара ключы,
зара ключы,
3. Каля постаці ідучы,
ідучы.
4. А хто тыя ключы найдзе,
найдзе,
5. Той увосень замуж зайдзе,
зайдзе.
6. — А ты, кароль-каралевіч,
каралевіч,
7. Хадзі ка мне на вячэру,
на вячэру,
8. На рыбку ды на шутрынку,
на шутрынку,
9. На мяккую на пярынку,
на пярынку.

## 21. ДА З ЗЯЛЁНАГА ГАЮ...

1. Да з зялёнага гаю (2)
Салавей вылітаіць.

2. Салавей вылітаіць, (2)
Зязюлю вызываіць:

3. — Ты, зязюля шэрая, (2)
Ці паляціш із намі?

4. Ці паляціш із намі (2)
З вясёлымі салаўямі?

5. — Рада-б была паляцеці, (2)
Жаль гаю зялёнага.

6. Жаль гаю зялёнага, (2)
Салаўя вясёлага.

7. Да з вясёлага двору (2)
Міколка выізжаіць,

8. Міколка выізжаіць, (2)
Юзютку вызываіць:

9. — Юзютка маладая, (2)
Ці паедзіш ты з намі?

10. Ці паедзіш ты з намі, (2)
З вясёлымі малайцамі?

11. — Рада-б была паехаці, (2)
Жаль двору вясёлага.

12. Жаль двору вясёлага, (2)
Татулькі раджонага.

## 22. ШТО-Ж ТЫ, СОНЦА...

1. — Што-ж ты, сонца,
Каля лесу ходзіш,
Ды за лес не заходзіш? (2)

2. — Як пара прыдзе,
Позны вечарочак,
Пайду за лясочак. (2)

3. — Што-ж ты, татка,
Каля мяне ходзіш,
А ка мне не заходзіш? (2)

4. — Як ты будзеш
Сама сабой жыці,
Буду захадзіці. (2)

5. Скажы зяцю,
Няхай дажыдае,
Буду навяшчаці. (2)

6. Я-ж прыеду
Зімой на саначках,
Летам на калёсах. (2)

## 23. НЕ ПАЙДУ ДАМОЙ...

1. Не пайду дамой,
Я тут заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамой.

2. У мяне дома
Не топлена хатка,
Не родная матка
У мяне дома.

3. Лягу я спаці,
Пад каліндю,
Пад маліною
Лягу я спаць.

4. Буду праклінаці
Свёкра й свякруху,
Дзевера й залоўку
Буду праклінаць.

5. Убі, божа,
Свёкарку на печы.
Калодай у плечы
Убі, божа!

6. Убі, божа,
Свякроўку ў парозя,
Качаргамі, памідамі
Убі, божа!

7. Спалі, божа,
Залоўку у клеці,
Яснай бліскавіцай
Спалі, божа!

8. Утапі, божа,
Дзеверку ў дарозя,
На бальшым піравозя
Ўтапі, божа!

9. Удаві, божа,
Нелюбога на месці,
Мяккімі пірагамі
Ўдаві, божа!

## 24. А Ў ПОЛІ ЖЫТА НЕ ЯРЫЦЦА...

1. А ў полі жыта не ярыцца,
Казалі, мой муж не п'яніца.
Ой, доля, долюшка горкая,
Казалі, мой муж не п'яніца.

2. Ў карчме не быў,—ён каня прапіў,
Прапіў каня ды й абротачку.
Ой, доля, долюшка горкая,
Прапіў каня ды й абротачку.

3. Ў карчме не быў, ён каня прапіў,
Прышоўшы дамоў, жану пабіў.
Ой, доля, долюшка горкая,
Прышоўшы дамоў, жану пабіў.

4. —Ты, жоначка, мая любая,
Прадай трубачку й намётачку,
Ой, доля, долюшка горкая,
Прадай трубачку й намётачку.

5. Прадай трубачку й намётачку,
Выкуп коніка й абротачку,
Ой, доля, долюшка горкая,
Выкуп коніка й абротачку.

## 25. ВЕТРЫЧЫК ПЫШЫЦЬ...

1. Вох! Ветрычык пышыць,
Былінку калышыць,
Татухна к дачухні
Ліст па лісту піша:

2. Вох! Чаму, дзіцятка,
Ў гасцёх не бываеш,
Ці каня не маеш,
Дарожкі не знаеш?

3. Вох! Я й коніка маю,
Я й дарожку знаю,
А ў сваім дамочку
Горку долю маю.

## 26. ЧЫЯ-Ж ТО ПШАНІЦА?..

1. Чыя-ж то пшаніца,
Што колас пахіліўся?
То-ж таго казака,
Што 'шчэ не жаніўся.[1]

2. Да чыя-ж то пшаніца,
Што доўгі загоны?
То-ж таго казака,
Што чорныя бровы.

3. Да чыі-ж то волы
Па гары хадзілі?
То-ж таго казака,
Што мы ўдзвёх любілі.

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца.

4. Адна я любіла,
Друга зашлюбіла,
Адна я любіла,
Сястра разлучыла.

5. Бадай цябе, сѐстро,
Вада утапіла,
Як ты мяне, сѐстро,
З мілым разлучыла.

## 27. ОЙ, Я Ў ПОЛІ ЛЯНОК БРАЛА...

1. Ой, я ў полі лянок брала,
Сама сябе забаўляла.

2. Вечарочак прастаяла,
Снапы лёну расстаўляла.

3. Хоць я ночку рабатàла.
Зато ў доме ліха стала.

4. Свякроў мая ў гарод пашла
Травы шукаць,—бяду нашла:

5. Крапівушку патаптала,
На печ легла,—захварала.

6. Не жалка мне свякровушкі,
А жалка мне крапівушкі.

7. Свякровушка здыхаць будзе,
Крапівушка ляжаць будзе.

8. Свякровушку ў пяскі звязуць,
Крапівушку свінні з‘ядуць.

## 28. КАЦІЎСЯ ВЯНОЧАК З ПОЛЯ...

1. Каціўся вяночак з поля,
Ой, з поля.

2. Ой, прасіўся да пакоя,
Да пакоя:

3. — Не хавайсь, пане, пад лаву,
Пад лаву,

4. Да выйдзь да нас на расправу,
На расправу,

5. Да мы будзем распраўляцца,
Распраўляцца,

6. За вяночак таргавацца,
Таргавацца.

7. Мы будзем рубля браці,
Ой, браці,

8. Бо нам было цяжка жаці,
Ой, жаці.

(Варыянт тэкста)

1. Каціўся вяночак з поля,
Ой, з поля.

2. Да прасіўся ён да пакоя,
Да пакоя:

3. — Пусці, пане, да пакоя,
Да пакоя,

4. Я ўжэ ў полі настаяўся,
Настаяўся,

5. Буйным ветрам намахаўся,
Намахаўся,

6. Дробным дажджом намачыўся,
Намачыўся,

7. Пакуль да пана дапрасіўся,
Дапрасіўся.

## 29. КРУГЛО, МАЛО...

1. Кругло, мало,
Кругло, мало балоцічка.
Да хоць яно,
Да хоць яно кругло, мало.

2. Да хоць яно,
Да хоць яно кругло, мало,
Калі яно,
Калі яно ўрадлівае.

3. Наляцела,
Наляцела гусей многа,
Ня 'дны гусі
Ня 'дны гусі, ёсць лебедзі.

4. Нізка, мала,
Нізка, мала Анютачка.
Да хоць іна,
Да хоць іна нізка, мала,

5. Да хоць іна,
Да хоць іна нізка, мала,
Калі яна,
Калі яна шчаслівая.

6. Наехала,
Наехала сватоў многа,
Ня 'дны сваты,
Ня 'дны сваты,—ёсць сваціцы.

## 30. ПАЙДУ Я, МОЛАДА, КАЛЯ ДУНАЮ...

1. Пайду я, молада, каля Дунаю,
Я свайго коніка ці не пазнаю.

2. Да хоць пазнаю,—лавіць ня ўмею,
Прасіла-б хлопчыкаў, прасіць ня смею.

3. — Хлопчыкі, брацікі, злавіце каня,—
Пастаўлю гарэліцы, поўгарца віна.

## 31. ЦІКЛА РЭЧКА ПРАЗ МЯСЦЕЧКА...

1. Ціклá рэчка праз мясцечка
З вішнёвага саду,
Клікаў казак дзяўчыніньку
К сабе на параду.

2. — Парàй, парай, дзяўчыніпька,
Як родная маці,—
Ці мне цяпер жаніціся,
Ой, ці цябе ждаці?

3. — Ой, я табе, мальчышачка,
Раю і не раю,
Я з табой вечар стàю,
Й а другога маю.

4. — Бадай-жа ты, дзяўчыніпька,
Тагды замуж зайшла,
Як у лесі на верасі
Пшанічанька ўзыйшла.

5. — Бадай-жа ты, мальчышачка,
Тагды ажаніўся,
Як у млыні на камені
Кукаль урадзіўся.

———— ————

## 2. СЯМЕЙНА-АБРАДАВЫЯ

### 32. Я ЎЧОРА, МАЛАДА...

1. Я ўчора, малада,
П'яна была, п'яна была,[1]
Сягодня малада
Не буду піць, не буду піць.

2. Маіліся ў мяне
Госцікі быць, госцікі быць,
А ды што за госці,—
Брат да сястра, брат да сястра.

3. А ды што за госці,
Брат да сястра, брат да сястра.
Ой, любыя госці—
Кум ды кума, кум ды кума.

### 33. У МАЙГО БРАЦІТКІ БЯСЕДАЧКА...

1. У майго бращіткі бяседачка,
У майго браціткі вясёлая.

2. У майго браціткі вясёлая,
А я й молада ня ведала.

3. А я й молада ня ведала,
Сабраўшы сямейку, па'бедала.

4. Сабраўшы сямейку, па'бедала,
К брату ў госці паехала.

5. К брату ў госці паехала,
А брат сястрыцы улякнуўся.

6. А брат сястрыцы улякнуўся,
Да з хлебам-соллю схамянуўся.

7. Да з хлебам-соллю схамянуўся,
— Прымай, жана, ты хлеб з стала.

---

[1] Кожныя два радкі паўтараюцца.

8. Прымай, жана, ты хлеб з стала,
А там ідзець нялюбая сястра.

9. А там ідзець нялюбая сястра,
Няхай іна сама ідзець.

10. Няхай іна сама ідзець,
А то сваіх дзетак вядзець.

11. — І ты, брацітка, не пужайся,
Ты, родненькі, не пужайся.

12. Ты, родненькі, не пужайся,
А з хлебам-соллю не хавайся.

13. А з хлебам-соллю не хавайся,
А я-ж учора вячэрала.

14. А я-ж учора вячэрала,
А сягоння паабедала.

15. А сягоння паабедала,
Я к табе, брацітка, не ў госці йшла.

16. Я к табе, брацітка, не ў госці йшла,
Цябе, брацітка, адведаці.

17. Цябе, брацітка, адведаці,
Сваіх дзетачак не маючы.

## 34. НА ЗАБОР САСНА ПАХІЛІЛАСЯ...

1. На забор сасна пахілілася,
А кума з кумом пасварылася:
— А ні ты ка мне, а ні я к табе!

2. А ні ты ка мне, а ні я к табе...
Паміж тых кумаў цякла рэчанька,
Цякла рэчанька, рэчка быстрая.

3. Цякла рэчанька, рэчка быстрая,
Цякла рэчанька беражыстая,
А па той рацэ плывець вутачка.

4. А па той рацэ плывець вутачка,
Плывець вутачка з вуцянятамі,
Плывець вутачка ды з сялезнічкам.

5. Плывець вутачка ды з сялезнічкам...
Шэра вутачка ўсё Ганулечка,
Селязенечка ўсё Якімачка.

6. Шэра вутачка ўсё Ганулечка,
Селязенечка ўсё Якімачка,
Вуцянятачкі ўсё й іх дзетачкі.

## 35. ДА БЫЛО Ў БАБКІ...

1. Да было у бабкі,
Да было у любкі
Ды дванаццаць валоў. (2)

2. — Каторага, бабка,
Каторага, любка,
Ты вала прадасі? (2)

3. — Ёсць у мяне рабы,
Што робіць грáбы,
Я таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

4. Ёсць у мяне лысы,
Што робіць місы,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

5. Ёсць у мяне крутарог,
Тэй ляціць з усіх ног,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

6. Ёсць у мяне буры,
Што круціць дзюры,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

7. Ёсць у мяне чорны,
Ды што робіць жорны,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

8. Ёсць у мяне палавы,
Да што ходзіць да вады,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

9. Ёсць у мяне белы,
Ды што робіць дзверы,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

10. Ёсць у мяне белавокі,
Ён лі мяне ходзіць бокам,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

11. Ёсць у мяне крỳты,
Ён пільнуіць руты,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

12. Ёсць у мяне сівы,
Ён пашыць нівы,
Я й таго не прадам.
Да душы-ж, не прадам.

13. Ёсць у мяне красны,
Ён да дзетак ласы,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

14. Ёсць у мяне мышàты,
На ём ездзіць у сваты,
Я й таго не прадам,
Да душы-ж, не прадам.

## 36. У СТРАСЕ КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЯ...

1. У страсé кукавала зязюля, у страсе,
Плакала дзеванька па касе. (2)

2. Хадзіла да дзевачка па полю, хадзіла,
Да віла вяночак з куколю. (2)

3. Прасіла у матачкі дзянёчка, прасіла,
Панасіць з куколю вяночка. (2)

4. Прасі сабе, Мар'ічка, не прасі, ой, прасі,
Усё й сабе дзянёчак панасі. (2)

5. Усё й сабе дзянёчак панасі, усё й сабе,
Ўвечары дзевачкам аддасі. (2)

## 37. ДЫ У НЯДЗЕЛЮ РАНЕНЬКА...

1. Ды ў нядзелю раненька
Сіня мора трапяталася,
Сіня мора трапяталася,
Сонейка купалася.

2. Сонейка купалася,
Ды дзевачка ратавалася,
Ды й, ратуючысь, гукала,
Сама ў мора упала.

3. — Ойчанька мой, родненькі,
Выратуй-жа мяне з мора,
Выратуй-жа мяне з мора,
Да з вялікага гора.

4. — Дзіцятка маё, роднае,
Чаму ўпярод не казала,
Як белых ручак не вязала,
Жоўтых пярсцёнкаў не мяняла?

## 38. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСАЧКІ ЦЕРАЗ САД...

1. Ой, ляцелі гусачкі цераз сад,
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад.

2. Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад:
— Час табе, дзяўчынанька, на пасад.

3. Час табе, дзяўчынанька, на пасад,
Ды клапаціцца на хатні лад.

4. — А што-жа вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне татачка для таго.

5. А ён скажа сесці, дак сяду я,
А скажа устаці, дак ўстану я.

6. А скажа устаці, дак ўстану я,
Звяжуць ручанькі, і звяну я.

## 39. ДА ДУБУ, ЗЯЗЮЛЯ, ДА ДУБУ..

1. Да дубу, зязюля, да дубу,
Ой, рана-раненька, да дубу.

2. Час табе, Маруська, да шлюбу.
Ой, рана-раненька, да шлюбу.

3. Што табе, зязюля, да таго,
Ой, рана-раненька, да таго.

4. Ёсць у мяне матулька длі таго,
Ой, рана-раненька, длі таго.

5. Скажыць мне сесці, я сяду,
Ой, рана-раненька, я сяду.

6. Скажыць мне устаці, я ўстану,
Ой, рана-раненька, я ўстану.

7. Скажыць мне пайсці,—я пайду,
Ой, рана-раненька, я пайду.

## 40. ХВАЛІЛАСЯ КАЛІНАЧКА ЗА РАКОЙ...

1. Хвалілася калінанчка за ракой:
   — Ніхто-ж мяне не высячэць за вадой.

2. Абазваўся буен ветрык на яе:
   — Ды я-ж цябе хоць ня высеку, дак зламлю!

3. Ды я-ж цябе хоць ня высеку, дак зламлю,
   Ды я-ж тваё веццейка паламлю.

4. Хвалілася малада Маруська за скам'ёй:
   — Ніхто-ж мяне не дастаніць за сталом.

5. Абазваўся малады Міколка на яе:
   — Ды я-ж цябе, хоць не вазьму, заручу.

6. Ды я-ж цябе, хоць не вазьму, заручу,
   Ды я-ж цябе ад дзевачак адлучу.

7. Ды я-ж цябе ад дзевачак адлучу,
   Ды я-ж цябе і к жоначкам прылучу.

## 41. ЧАМУ, ЗЯЗЮЛЯ, НЕ КУКАВАЛА?..

1. — Чаму, зязюля, не кукавала,
   Як садочкі зацвіталі?
   — Як сады цвілі, я млада была,
   Не умела кукаваці.

2. — Чаму, дзевачка, ты не плакала,
   Як цябе, ой, заручалі?
   — А я-ж думала, я-ж разумела,
   Што сваты, ой, жартавалі...

## 42. А Й ЗЯЛЁНАЯ ЛІПА...

1. А й зялёная ліпа,
   Да й зялёная ліпа
   Да ўсю восянь шумел[а.
   Шумела...
   Да ўсю восянь шумела,
   З ліcцейкам да й гаварыл[а.

2. Да й гаварыла...
   З ліcцейкам да й гаварыла,
   Аставайся ты, ліп[а.
   Ты, ліпа...
   Аставайся ты, ліпа,
   З голлейкам да з карэннейк[ам.

3. Да з карэннейкам...
   З голлейкам да з карэннейкам,
   А я палячу да дом[у.
   Да дому...
   А я палячу да дому,
   Сыру землю й укрываць буд[у,

4. Укрываць буду...
   Сыру землю й укрываць буду,
   Маладая да ты Мар'ячк[а.
   Да ты Мар'ячка...
   Маладая да ты Мар'ячка,
   Да ўсю ночку не спал[а.

5. Не спала...
Да ўсю ночку не спала,
З мамкай да гаварыл[а.
Да й гаварыла...
З мамкай да й гаварыла:
—Аставайся, да й мая мамачк[а.

6. Мая мамачка...
Аставайся, мая мамачка,
Да з меншаю дачкой.
Дачкою...
Да з меншаю дачкою,
А з маёю сястрой.

7. Сястрою...
Да з маёю сястрою,
А я пайду у чужыя людз[і.
У чужыя людзі...
А я пайду й у чужыя людзі,
Чужым людзя̀м наравіць буд[у.

8. Наравіць буду...
Чужым людзя̀м наравіць буду,
А старому й малом[у.
Малому...
Да й старому, малому,
Да й Яна̀чку маладом[у.

## 43. А ХВАЛІЎСЯ СВАТ...

1. А хваліўся сват,
Што багат,
А й на тры гумны̀
Малаціць.

2. А й на тры гумны̀
Малаціць,
Што ў пѐрвам гумнѐ
Стук да грук.

3. Што ў пѐрвам гумнѐ
Стук да грук,
А ў другом гумне
Чорнай мак.

4. А ў другом гумне
Чорнай мак,
А ў трэця̀м гумне
Ніхай так.

## 44. АДДАЛІ МЯНЕ, ЗАБЫЛІ МЯНЕ...

1. Аддалі мяне, забылі мяне,
Як-жа вам не жаль будзіць?[1]

2. Як-жа я буду ў чужой старонцы
Цяжынька тужыці?

3. Як-жа я буду ў чужой старонцы
Свякроўцы наравіці?

4. Будуць-жа мяне раненька будзіць,
Позпінька спаць класці.

5. А там вулачкі невядомыя,
Блудзіць-жа я буду.

6. А там суседкі нізнаёмыя,
Судзіць мяне будуць.

7. Аддалі мяне, забылі мяне,
Як-жа вам ні жаль будзіць?

8. Прыедзь, мамачка, прыедзь, родная,
Мяне адведаці.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца.

## 45. УЛАЖЫ, КАЛІНА, ЖОЎТЫ ЦВЕТ...

1. Улажы, каліна, жоўты цвет;
Тамка наша Ганначка вянкі ўець.

2. Тамка наша Ганначка вянкі ўець,
А за ею мамачка паслы шлець.

3. —А кідай, Ганначка, вянкі віць,
Бо табе нядоўга ўжо ў дзеўках быць.

4. У лазы каліна стаяла,
Тамака дарожанька ляжала.

5. Ехаў там Піліпка на кані,
Ён усёк каліньку пад карні.

6. — Пашто рубіш мяне, не саджаў,
Пашто губіш мяне, не ты гадаваў.

7. — А ня бойсь, Ганначка, не згублю,
Цябе, мая Ганначка, ў дом бяру.

## 46. ДА ВЫЙДЗІМ МЫ, ДА ПАСЛУХАІМ...

Да выйдзім мы, да паслухаім,[1]
Ці ня едуць, ці ня гойкаюць,
На конікаў ці ня нокаюць?
Да ўжэ едуць, да ўжэ гойкаюць,
На конікаў, да ўжэ й нокаюць.
Ай, равуць коні, равуць,
Ой, ды багатырачку вязуць,
З скрынямі, з пярынамі,
З добрай гаспадыняю.
А ні так-ба яны раўлі-б,
Каб худобачку-б вязлі-б,
А ні скрыні, ні пярыны,
А ні добрай гаспадыні.

## 47. АДЧЫНІ, МАТУЛЬКА, ВАРОТА...

1. — Адчыні, матулька, варотà,
Вязём табе нявестку, як злотà!

2. Адчыні, матулька, ваконцà,
Вязём табе нявестку, як сонцà.

3. Падымі, матулька, карытцà,
Вязём табе нявестку сварыццà.

4. — А я вароцячкі адчыню,
Я нявестачцы дагаджу.

5. Праз ваконца буду глядзеці,
Як мая нявестачка прадзеці.

6. Нашто нам з нявесткай сварыцца,—
Будзіць мне нявестачка карыцца.

7. Іна-ж будзіць ў каморы спаці,
А я буду дзіця калыхаці.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## *1. ПРА ПРЫГНЁТ, БЕДНАСЦЬ І БАРАЦЬБУ З ПАНАМІ*

### 48. ОЙ ТЫ, ДУБ-ДУБІНА...

1. Ой, ты, дуб-дубіна,
Сенажаць куміна,
На адным берагу
Сем вазоў мурагу.

2. Трэба сена касіць,
Пану копы вазіць,
Сенакос убіраць,
Жыта-хлеб дажынаць.

3. Трэба дзень работаць,
Да й начы пакідаць,
Ўсё на паншчыну,
На дарэмшчыну.

4. Толькі знай—рабатай,
Мазалі нажывай,
На работах цяжкіх,
Да ўсё гаспадарскіх.

5. Пойдзе войт з бічуком,
За ім пан з бізуном,
Аканом за скарбам,
Паня за падаркам.

6. Не баюся пана,
Войта-аканома,—
Шэсць дзён на прыгоне,
А ў нядзельку дома.

7. На загады пані,
Пані гаспадыні,
Аднясу падаркі—
Тонкай кужаліны...

### 49. ОЙ, ЗАПЕЙ, СІРАТА...

1. —Ой, запей, сірата,
З гора песен(і)ку,
З гора песен(і)ку,
З гора новую.

2. Ты запей, сірата,
З гора песеньку,
Да ўсё новую,
Развясёлую.

3. — Ой, вы, людзі добры,
Вы, насмешнікі,
Вы, насмешнікі,
Перасмешнікі.

4. Вам-бы песню ўсё пець,
Падабедаўшы,
А як мне, сіраце,
Не паснедаўшы?

5. — Раскажы, сірата,
Дзе ты ночанькі
Усё праводжываў,
Да начлежанькі.

6. З кім ты ноч каратаў,
Ночку цёмную,
Ночку цёмную,
Да халодную?

7. Начаваў я ў лясу,
Там за рэчанькай,
Пад кудраванькай
Густой елачкай.

8. Пелі песенькі мне
Совы старыя,
Да пугачыкі
Пучаглазыя.

## 50. ОЙ, НА МОРЫ ДА Й НА СІНЯНЬКІМ...

1. Ой, на моры да й на сінянькім,
Ой, люлі-люлі, да й на сінянькім.

2. Там купаліся да два брàцяткі,
Ой, люлі-люлі, да два брацяткі.

3. Ой, прышоў да іх чужаземнячык.
Прыпеў.

4. Вой, адзін кажа:—Загубіць яго.
Прыпеў.

5. А другі кажа:—Папытаемся.
Прыпеў.

6. О, ці ёсць ў яго айцец, мамачка.
Прыпеў.

7. Айцец, мамачка, сёстры, брàцеткі.
Прыпеў.

8. Сёстры, брацеткі, ўся радзімачка.
Прыпеў.

9. —У мяне айцец—сіняе мора.
Прыпеў.

10. У мяне мамка—сырая зямля.
Прыпеў.

11. У мяне братка—салавеечка.
Прыпеў.

12. У мяне сястрыца—шэра зязюля.
Прыпеў.

13. Ўся радзімачка—дробны пташачкі.
Прыпеў.

14. Сіняе мора, ўскалыхні мяне.
Прыпеў.

15. Сырая зямля, прыхіні мяне.
Прыпеў.

16. Салавеечка, ты папей па мне.
Прыпеў.

17. Шэра зязюля, пакукуй па мне.
Прыпеў.

18. Дробны пташачкі, шчэбячыце па мне.
Прыпеў.

## 51. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК НА ЕЛЬ ПАХІЛІЎСЯ...

1. Зялёны дубочак
На ель пахіліўся,
Малады малойчык,
Чаго засмуціўся?

2. Ці валы прысталі,
Ці з дарогі збіўся,
Ці ў карчомцы п'яны
З суседзьмі пабіўся?

3. Ні валы прысталі,
Ні з дарогі збіўся,
Малады малойчык
Без долі ўрадзіўся.

4. Толькі усёй долі,
Што чорныя бровы,
Што чорныя бровы
Ды карыя вочы.

5. Ой, пайшоў я з гора
Ды ў чыстае поле,
У чыстае поле—
Шукаць сваёй долі.

6. Як пайшоў я долам,
Долам-далінаю,
Не знайшоў я долі,
Толькі быстру рэчку.

7. А каля тэй рэчкі
Стаяла карчомка,
А пры тэй карчомцы
Ды тры рыбалоўцы.

8. — Ой вы, рыбалоўцы,
Удалы малойцы,
Закіньце вы сетку
У быструю рэчку.

9. Закіньце вы сетку
У быструю рэчку,
Ды мне, маладому,
Вылавіце долю.

## 52. ДА Ў РОДНАГА БРАТАЧКІ...

1. Да ў роднага братачкі
Тры сястры было, эй!
Сама старша сёстрачка
Качала бяллё.

2. Сяродальша сёстрачка
Варыла, пякла, эй!
А меншая сёстрачка
Сядлала каня.

3. Сястрыцы сабраліся,
Брата выпраўляць, эй!
Ў паход за казакамі,—
Волю здабываць.

4. Падняліся з поўначы
Буйныя вятры, эй!
Збіралісь ватагамі,
На падбор ямцы (байцы).

5. Сабраліся ўдалыя,
Што цвет, малайцы, эй!
На конях асёдланых,
Быстры сакалы.

6. Старшыны паперадзі
Гарачаць каней, эй!
За імі казачэнькі
Строюцца бадрэй.

7. Паднялісь магучыя,
Сілы дужыя, эй!
Пайшлі з казачэнькамі
Сябры дружныя.

8. Бывайце здаровенькі,
Вы, малойчыкі, эй!
Бывайце жывенькія,
Вы, казачанькі.

## 53. ЯК СЯДУ-Ж Я ПАД ВАКОШАЧКАМ ПРАСЦІ...

1. Як сяду-ж я
Пад вакошач(ы)кам прас[ці, (2)

2. Ой, кіну-ж я
Валаконца ў вакон[ца. (2)

3. Ой, гляну-ж я
Да пад ясную зорку, (2)

4. Ой, там мілы
На коніку раз'язджа[е. (2)

5. Пад ім конік,
Як сокал, лятае, (2)

6. А на ём сукны,
Як жар, разгараюць. (2)

7. Да на ём шапка,
Да што мак расцвітае, (2)

8. Ой, на ём зброя
Да ўсё залатая. (2)

9. Ён ворагаў
Да мячом разганяе, (2)

10. Ватагаю
На паноў наступае. (2)

## 54. ПРЫВЫКАЙЦЕ, ЧОРНЫ ВОЧЫ...

1. Прывыкайце, чорны вочы,
Адны начаваці:
Німа майго міленькага,
Не з кім размаўляці.

2. Німа майго міленькага,
Німа гаспадара,
Каму-бы я пасцелечку
Пухаву заслала.

3. Даўно свайго міленькага
Ў паход выпраўляла,
З тых пор свае чорны вочы
Слязьмі выцірала.

4. Пасляпіла свае вочы
Горкімі слязамі,
Няма жысці, няма рады
Ўсё за варагàмі.

5. Паны дзяруць, паны скубуць,
А багач за імі,—
Паследнія манатачкі
Мы паізнасілі.

6. Выхадзіла на дарогу,
Выхадзіла ў поле,
Нідзе следу не відала
Там свайго мілога.

7. — Навярніся, мой міленькі,
Да з таварышамі,—
Калатніце міраедаў,
Штоб яны не ўсталі.

## 55. КУКАВАЛА ДЫ КУКУЛЕЧКА...

1. Кукавала ды кукулечка
На белай бярозе, (2)

2. Заплакала да міленькая,
Што мілы ў дарозе. (2)

3. — Не плач, не плач, да міленькая,
Не плач, не гаруйся, (2)

4. Дарожанькай недалёкаю
Я не забаўлюся. (2)

5. Падняліся да казачэнькі
Ў паход на ватагі, (2)

6. А за імі да маёнтачкі
Агнём запылалі. (2)

7. Кукавала да зязюленька
На стройным дубочку, (2)

8. Сустракала да дзяўчонанька
Казака ў садочку... (2)

## 56. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСКІ...

1. Ой, ляцелі гускі
З далёкага краю,
Пачакайце, гусі,
Я вас папытаю.

2. Пачакайце, гусі,
Я вас запытаю:
Ці не з той краіны,
Дзе я мужа маю.

3. Туды-ж ён запратан
З брытай галавою,
Пакінуўшы дзетак,
А мяне ўдавою.

4. За паноў-зладзеяў
Яго катувалі,
Ў калодкі забілі
Да ў Сібір паслалі...

5. Падняліся гускі
Дай загагаталі:
— Многа там ў Сібіры
Ў калодках відалі.

6. Катаржан таўпою
З краю ў край ганялі,
А хто спатыкнецца,
Ў зямлю зарывалі...

# *2. РЭКРУЦКІЯ І САЛДАЦКІЯ*

## 57. УСТАНЬ, УСТАНЬ, МАЯ МАТУШКА...

1. Устань, устань, мая матушка,
Паранюсенькаму,
Гэй, паранюсенькаму,

2. Ды запалі ты лучынушку
Паяснюсенькаму,
Гэй, паяснюсенькаму.

3. Пазасцілай усе столікі
Усё цясовенькія,
Гэй, усё цясовенькія,

4. Паналівай усе чарачкі
Крышталёвенькія,
Гэй, крышталёвенькія,

5. Прыедуць госці да нас, сірот,
Невясёленькія,
Гэй, невясёленькія.

6. А як будуць мяне, матуля,
Ва салдатушкі браць,
Гэй, ва салдатушкі браць,

7. Тады па мне, матулька,
Не тужы і не плач,
Гэй, не тужы і не плач.

8. Вось, як будуць мне, матуля,
Назад рукі вязаць,
Гэй, назад рукі вязаць,

9. Тады ты, мая матуля,
Не тужы і не плач,
Гэй, не тужы і не плач.

10. Вось, як будуць мяне, матуля,
На фурманку саджаць,
Гэй, на фурманку саджаць,

11. Тады ты, мая матуля,
Не тужы і не плач,
Гэй, не тужы і не плач.

12. Вось, як будуць твае, матулька,
Сенажаткі стаяць,
Гэй, ўсе някошаныя,—

13. Тады ты, мая матуля,
Затужы і заплач,
Гэй, ты па мне, удалым.

## 58. ЧУЛА, ЧУЛА МАЯ ДОЛЯ...

1. Чула, чула мая доля, (2)
Што не буду я у доме.

2. Мае браццы не сказалі, (2)
Што ў ракруты запісалі.

3. Вядуць мяне да прыёму, (2)
А я думаў, што дадому.

4. Вядуць мяне да святліцы, (2)
А я думаў,—да сястрыцы.

5. Пасадзілі на столачку, (2)
Брыці маю галовачку.

6. Ох, падбрылі, падгалілі, (2)
На прастніцу пасадзілі.

## 59. А Ў ЛУЗІ, ЛУЗІ...

1. А у лузі, лузі
Чырвона каліна стаяла.[1]

2. А на тэй каліне
Шэрая зязюля кувала,

3. Ой, ды маці сына
Ды ў набор выпраўляла:

4. — Ой ідзеш ты, сынку,
У царскую службу,

5. Ой, пазнаеш, сынку,
Усяляку пячаль-нужду.

## 60. ЗАШУМЕЛА ДУБРОВАЧКА ЗЯЛЁНАЯ...

1. Зашумела дубровачка зялёная,
Заплакала малодачка маладая.

2. — Ня шум, ня шум, дубровачка зялёная,
Не плач, не плач, малодачка маладая.

3. — Ой, як-жа мне, малодзенькай, не плакаць,
Наехалі казачанькі рэкрутаў браць.

4. Калоцяць ў барабаны, песенькі пяюць,
Малодзенькіх рэкруцікаў набіраюць.

5. Каторыя ахвотнікі, тыя самі йдуць,
Каторыя нявольнікі,—сілай бяруць.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца.

6. Малойчыкі вяселяцца, пяюць, скачуць,
Толькі адны жанатыя сільна плачуць:

7. — Застаюцца нашы жоны удавамі,
Застаюцца нашы дзеці сіратамі.

### 61. ЗАШУМЕЛА ДУБРОВУШКА ЗЯЛЁНАЯ...

1. Зашумела дубровушка зялёная,
Заплакала удовушка маладая.

2. — Ох, не шумі, дубровушка зялёная,
Не журыся, удовушка маладая.

3. Тагды будзеш, ўдовушка, журыціся,
Як паедзе казак Даська жаніціся,

4. Недалёка, блізюсенька да Чэрнява,
А ў Чэрняве малойчыкі гуляюць.

5. П'юць-гуляюць, барабанюць,
Барабанюць, набор набіраюць.

6. Халастыя малойчыкі весяляцца,
Толькі адны жанатыя сільна плачуць:

7. — Застануцца нашы жоны удавамі,
Застануцца нашы дзеці сіратамі.

8. — Забылася ў мілога запытаці,
Ці пазволіць мне мой міленькі гуляці.

9. — Гуляй сабе, мая міла, як гуляла,
Наймай сабе скрыпкі, дудкі, як наймала.

10. Наймай сабе скрыпкі, дудкі, як наймала,
Гадуй дробны дзеці, як гадавала.

### 62. ДЫ НА НАШЫМ ГАРОДЗЕ...

1. Ды на нашым гародзе,
Гэй, гэй, ды на нашым гародзе

2. Ды стаяла бяроза,
Гэй, гэй, ды стаяла бяроза.

3. Яна тонка, высока,
Гэй, гэй, яна тонка, высока

4. І ў карэнні глыбока,
Гэй, гэй, і ў карэнні глыбока,

5. І на лісця шырока,
Гэй, гэй, і на лісця шырока,

6. І на суччa бахмата,
Гэй, гэй, і на сучча бахмата.

7. А на тэй-жа бярозе,
Гэй, гэй, а на тэй-жа бярозе

8. Дробны пташкі шчабечуць,
Гэй, гэй, дробны пташкі шчабечуць,

9. Шчыру праўдачку кажуць,
Гэй, гэй, шчыру праўдачку кажуць,

10. Што малойчака звяжуць,
Гэй, гэй, што малойчака звяжуць.

11. А ў нядзельку паранку,
Гэй, гэй, а ў нядзельку паранку

12. Загадалі ў хурманку,
Гэй, гэй, загадалі ў хурманку.

13. І коніка варанога,
Ай, ай, і коніка варанога,

14. Ізвозчыка маладога,
Гэй, гэй, ізвозчыка маладога.

15. А як селі, запелі,
Гэй, гэй, а як селі, запелі,

16. Бел малойчык заплакаў,
Гэй, гэй, бел малойчык заплакаў:

17. — Старана мая, старонка,
Гэй, гэй, старана мая, старонка.

18. Не магу цябе забыці,
Гэй, гэй, не магу цябе забыці.

19. Ні матулькі старэнькай,
Гэй, гэй, ні матулькі старэнькай,

20. Ні жаны маладзенькай,
Гэй, гэй, ні жаны маладзенькай,

21. А ні дзетак маленькіх,
Гэй, гэй, а ні дзетак маленькіх,

## 63. РАЗВІВАЙСЯ, СЫРЫ ДУБЕ...

1. Развівайся, сыры дубе,
Зараз мароз будзе,
Прыбірайся, сын удовін,
Зараз паход будзе.

2. Я марозу не баюся,
Зараз разаўюся,
Я паходу не баюся,
Зараз прыбяруся.

3. Ой, сеў сабе на коніка,
Нізенька скланіўся:
— Выбачайце мне, суседзі,
Можа з кім сварыўся.

4. Матка ў яго запытала:
— Калі будзеш госцем?
— Як у сенях на памосце
Травіца выросце.

5. Расла траўка, расла траўка
Ды пачала сохнуць,
Ой, чакала матка сына
Ды пачала плакаць.

6. Пакрапляйце дарожачку,
Каб не так пыліла,
Развражайце айца-матку,
Каб не так тужылі.

7. Пакраплялі дарожачку,
Дарожачка пыліць,
Разважалі айца-матку,
Матулечка тужыць.

8. Ой, ляцела зязюленька,
Кукуючы „ку-ку“,
— Чакай мяне, мая мамка,
Чакай хоць да веку.

## 64. У КАНЦЫ САДЗІКУ ЗЯЛЁНАГА...

1. У канцы садзіку зялёнага,
Зелянога, ўсё й вішнё... о-вага.

2. Пралягала там дарожанька,
Дарожанька запушчо... о-ная.

3. Шлях-дарожанька не торная,
Не тарная, не прае... э-зжая.

4. Ўся калодамі завалена,
Калодамі ўсё рэкру... у-цкімі.

5. Той дарожанькай рэкрут вядуць
З калодамі да замкнё... о-нымі,

6. А за імі ўслед—жанок табун,
Жанок табун да з дзіця... а-ткамі.

7. Стогнуць рэкруты з калодамі
Дубовымі закава... а-ныя,

8. Плачуць гоманам дарожанькай
Рэкруцкаю праважа... а-тыя.

## 65. ОЙ, ВА САДЗЕ, САДЗЕ...

1. Ой, ва садзе, садзе,
Вінаградзе,
Да стаяў сівы конік
На парадзе.

2. Ой, ніхто канёчка
Не зварожыць,
Да ніхто цаночкі
Не паложыць.

3. Ішлі тры казакі
З Украіны,
Яны-ж каню цэну
Налажылі.

4. Вось адзін казачак
Выбраў косю,
Асядлаў сядзельцам,
Сеў, паехаў.

5. — Ой, ляці, мой косю,
Не ляніся,
Да з пуці-дарогі
Ты не збіся.

6. Ой, ляці, мой косю,
К майму дому,
На варотах стрэпем
Маю жону.

7. Да не вышла жонка,
Вышла маці,
Вось пачаў казача
Шурмаваці:

8. — Дзе мая там жонка
Завалілась,
Дзе мая суджона
Правалілась?

9. — Мой-жа ты сыночак,
Не валнуйся,
На сваю ты жонку
Не шурмуйся.

10. Ўся твая худобка
Замарнела,
Даўно наша хатка
Запусцела.

11. Ой, твая малодка
Палажона,
Жаўценькім пясочкам
Прысыплёна.

12. На магіле дрэўца
Пасадзілі
Ды зялёным дзёрнам
Аблажылі.

## 66. НЕ ПЫЛІЦЕ, ВЕТРЫКІ...

1. Не пыліце, ветрыкі, па буйным шляху,
Бела-ж маё лічыка запылілася.

2. Бела-ж маё лічыка запылілася,
Я па свайму міламу зажурылася.

3. Правяла я мілага аж да Кіева,
Ад горада Кіева аж да Піцера.

4. У горадзе Піцеры станавіліся,
Уся наша армія падзівілася.

5. Уся наша армія падзівілася,
А што гэта парачка разлучылася.

6. А ці гэта муж з жаной, а ці брат з сястрой,
А ці гэта горкія палюбоўнічкі.

## 67. СІЗЕНЬКОЙ ГАЛУБЧЫК...

1. Сізенькой галубчык
Садзіўся на дубчык;
Вочы яго ясны, бровы яго чорны
Да перэйка яго бяленька. [1]

2. Прыляцела пава,
Сярод двара пала,
Яна пра то знала, яна пра то ведала,
Што мой міленькі да і робіць.

3. Коніка сядлаіць,
Каня варанога,
Засядлаўшы коня, коня варанога,
Сам з двара выязджае.

4. Засядлаўшы коня,
Коня варанога,
З двара выязджаіць, з двара выязджаіць,
Ой, ды на царскую службу.

5. Вой, яго мілая
Плакала, рыдала,
Плакала, рыдала, слёзкі уцірала
Сваёю праваю рукою.

6. Плакала, рыдала,
Слёзы уцірала,
Слёзы уцірала лентай галубою,
Сваёю русаю касою.

7. Шыла, вышывала,
Шыла, вышывала,
Шыла, вышывала дарагія ўзоры,
Тонку белую рубашку.

8. — Калі, мой міленькі,
Ка мне ў госці будзеш?
— Дажыдай, мілая, душа дарагая,
Ой, да роўна ў тры гады.

9. Ўжо ўрэмя праходзе,
Мілы не прыходзе,
Пасылала пісьмы ў чужыя землі,
Ой, ды к сваяму мілому.

---

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца.

## 68. ОЙ, ВЯРБА МАЯ, ТЫ ЗЯЛЁНАЯ...

1. Ой, вярба мая, ты зялёная,
Не стой над ракой, над быстрай вадой.

2. Быстрая вада не разальецца,
Калодзесь вады не папоўніцца.

3. Салдат маладой прасіўся дамой,
Прасіўся дамой, к мамачцы радной.

4. — Мамачка родна, не жалей мяне,
Не жалей мяне, не сушы сябе.

5. З вайны вярнуся, я й ажанюся,
Ой, вазьму жонку, салдацку доньку.

6. Салдацкая донька вумная была,
Вумная была, рана ўставала.

7. Рана ўставала,—ўсіх абуджала:
— Ужо свет зара, уставаць пара.

8. Ужо ўсе палкі ў паход пашлі,
Толькі адзін полк прызастаецца.

9. З айцом, з маменькай распрашчаецца,
З маладой жаной не расстанецца.

## 69. ТЫ КАЛІНА, МАЛІНА...

1. — Ты каліна, маліна,
А што-ж цябе зваліла?
— Звалілі мяне буйныя вятры } 2
З сухімі маразамі.

2. — Дзіця маё мілае,
Што ходзіш невясёла?
— Маці мая мілая, } 2
Як быць вясёламу?

3. Чужая старонушка
Без ветру сушыць,
Нашы камандзерыкі } 2
Шумяць-грымяць.

## 70. УДОЛЬ ПА ВУЛКІ ХОДЗІЦЬ ВАНЯ...

1. Ўдоль па вулкі ходзіць Ваня,
Ён шчаўкаіць гарэхі. [1]

2. За ім дзеўкі чарадою,
Гаварылі пра любоў.

3. Дазволь, бацюшка, жаніцца,
На каторай я люблю.

4. Ацец сыну не паверыў,
Што на свеце ёсць любоў.

5. Завярнуўся сын, заплакаў,
Не пярэчыў ён атцу.

6. Пайшоў вуліцай шырокай
Ён дарогай стаўбавой...

---

[1] Кожная страфа паўтараецца.

## 71. ПАДАЙ, ПАДАЙ, БЕЛЕНЬКІ МАЛОЙЧЫК...

1. — Падай, падай, беленькі малойчык,
Ды свой галасочак, ды свой галасок,

2. Прыбудзь, прыбудзь, беленькі малойчык,
Ды хоць на часочак, ды хоць на часок.

3. Ай, учора беленькі малойчык
І піў і гуляў, і піў і гуляў,

4. А сягодня беленькі малойчык
Богу душу ‘ддаў, богу душу ‘ддаў...

## 72. ОЙ ТЫ, ПОЛЕ МАЕ...

1. Ой ты, поле маё
Нерадзімае,
Да нішто ў полі тым
Ніколі не расце.

2. Толькі вырас адзін
Куст ракітавы,
Без вады, без расы
Ён пакінуты.

3. Там ляжыць пад кустом
Цела белае,
Цела белае
То салдацкае.

4. Маладзенькі салдат
Увесь паранены,
Перад смерцю ляжыць
Як пласт беленькі.

5. А над ім ў галавах
Стаіць конічак,
Галавою панік
Над салдацікам.

6. — Ой ты, конь вараны,
Друг-таварыш мой,
Не пакінуў мяне
У чужой старане.

7. Ой, бяжы ты, мой конь,
На староначку,
Дзе жывуць ацец-маць,
Да усе родныя.

8. Накажы ты, мой конь,
Атцу-мацеры,
Да славечка скажы
Маладой жане,

9. Што я ранен ў баю
Стрэлай каленай,
Паміраю ў сцяпу
Пад ракітаю.

10. Памяніце мяне
Добрым словечкам,
Падгадуйце маіх
Дробных дзетачак.

## 73. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ ЯЛІНАЧКА...

1. Ў чыстым полі ялінaчка,
Над ялінкай магілачка. (2)

2. У магілцы казак ляжыць,
Над казакам конік стаіць. (2)

3. — Не стой, косю, нада мною,
Над маёю галавою. (2)

4. Бяжы, косю, дарогаю,
Бяжы, косю, шырокаю. (2)

5. К майму сялу, к майму двару,
К вароцікам цясовенькім. (2)

6. Стукні, грукні капыточкам,
Заржы дробным галасочкам. (2)

7. Выйдзець цябе пераймаці
Мая жонка й стара маці. (2)

8. Будуць цябе ды пытаці,
Умей, косю, адказаці. (2)

9. — Ах, мой косю вараненькі,
Дзе-ж мой сынок маладзенькі? (2)

10. Ці ты яго ў вайне забіў,
Ці ты яго з вайны згубіў? (2)

11. — Ні я яго ў вайне забіў,
Ні я яго з вайны згубіў. (2)

12. Ой, згубілі цёмны ночы,
Шынкарачкі чорны вочы. (2)

13. Мяне ўвяжаць да сасонкі,
А сам пойдзець да карчомкі. (2)

14. Абабіў я капыточкі
Аб сасновы каранёчкі. (2)

15. Ў цёмным лесе ваўкі выюць,
А пада мной ножкі ныюць. (2)

16. Ў цёмным лесе звяр'ё скогліць,
А пада мной зямля стогнець. (2)

## 74. ПАМЕР, ПАМЁР САЛДАЦІКУ...

1. Памёр, памёр салдаціку
Ў нядзелячку рана,
Палажылі салдаціка
Ў святліцы на лаве.

2. Ой вы, добрыя малойцы,
Учыніце волю:
Вы пусціце сівы коні
За целам, за мною.

3. Няхай заржуць сівы коні,
Ідучы за мною,
Няхай чуюць ацец-маці
Са ўсёю раднёю.

4. Як пачула матуленька,—
Залілась слязамі,
Ўзгаласіла родна маці
Горкімі славамі:

5. — Каб я была зязюленькай
Да ўмела лятаці,
Паляцела-б я па свету
Сыночка шукаці.

6. Прыляцела-б на магілу,
Да сказала-б „ку-ку“,
Падай, падай, мой сыночак,
Мне правую руку...

7. — Ой, рад-бы я, матуленька,
Абедзве падаці,
Сырой зямлёй засыпалі,
Не магу падняці.

8. Памяніце добрым словам
Ў магіле салдата,
Памажыце жане маёй
Дзяцей гадаваці.

## 75. ОЙ, ЯК І ЕХАЎ КАЗАК НА ДАЛІНУ...

1. Ой, як і ехаў ка̀зак на даліну
На сваім быстрым ва̀раным кані,
Ох, ён паехаў, ра̀дзіму пакінуў,
Ў дом не вярнуўся, ў край свой радны.

2. Ох, яго казачка, жана маладая,
З вутра да вечара на север глядзіць,
Яна паглядае на север далёкі,
Мужа паджыдае, ці скора прыляціць.

3. Вот падняўся вецер з поўначы на поўдзень,
Ён прынёс атвет свой казацкай жане:
— Малодка, малодачка, не плач, не рыдай,
Да свайго казачаньку старцам памінай.

4. Пагіб ён далёка ў чужой старане,
Злажыў там галовушку на царскай вайне,
Патлелі там костачкі многіх казакоў
Без провадаў-памінаў, магіл-курганоў.

5. Малада малодачка, ляці на даліну,
Насып над казачынькам высоку магілу,
Пастаў на магілу камень цясовы,
А на тым на камні памін напішы.

6. Хто пройдзе, праедзе,—курган не міне,
Памін прачытае, дабром памяне:
„Пагіб тут казачэнька, злажыў галаву,
Пакінуў на горушка маладу жану“.

## 3. ДЗІЦЯЧЫЯ

### 76. ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, ЛЮЛІ...

1. Люлі, люлі, люлі!
Прыляцелі гулі,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях.

2. Сталі шчэбятаці,
Ды што каму даці:
А Іваньку сапажкі,
А Грыгорку рожначкі.

### 77. НЕ ХАДЗІ, КОЦІК, ПА ЛАЎЦЫ...

1. Не хадзі, коцік, па лаўцы,
Будзем біці па лапцы.

2. Не хадзі, коцік, па скрыні,
Будзем біці па спіне.

3. Не хадзі, коцік, па масту,
Будзем біці па хвасту.

4. Не хадзі, коцік, па печы,
Будзем біці у плечы.

5. Не хадзі, коцік, па хаці,
Не будзі, коцік, дзіцяці.

6. Няхай кату ўсё ліха,
Наш Андрушка, спі ціха.

### 78. ЛАДКІ-ЛАДУШКІ...

1. Ладкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.

2. Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
Нечага ім даці.

3. Насыплю гарошку,
Каб пад'елі трошку,
Да падсыплю грэчкі,
Каб неслі яечкі.

4. Сталі сакатаці,
Нечага ім даці;
Грэчкі не ядуць,
Яек не нясуць.

### 79. СЯДЗІЦЬ КАМАР НА ДУБОЧКУ...

1. Сядзіць камар на дубочку,
На зялёненькім лісточку,
Ай, люлі, люлі, люлі,
На зялёненькім лісточку.

2. Сядзіць камар, напяваіць,
Чорных мушак забаўляіць,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Чорных мушак забаўляіць.

3. Наляцела шура-бура,
Камарочка з ліста здула,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Камарочка з ліста здула.

4. Падляцелі тут дзве мушкі,
Ўзялі камара пад ручкі,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Ўзялі камара пад ручкі.

5. Ўзялі камара пад ручкі,
Сунулі яго ў падушкі,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Сунулі яго ў падушкі.

6. Як прыехаў цар-палкоўнік:
— Што у вас тут за пакойнік?
Ай, люлі, люлі, люлі,
Што у вас тут за пакойнік?

7. Як спалохаліся мушкі,
Задрыжэлі ручкі, ножкі,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Задрыжэлі ручкі, ножкі.

8. — Гэта зусім не пакойнік,
А там мухін палюбоўнік,
Ай, люлі, люлі, люлі,
А там мухін палюбоўнік.

## 80. КАМАР ЛАЗНЮ ТАПІЎ...

1. Камар лазню тапіў,
Блыха парылася,
Блыха парылася,
З палкў ўдарылася.

2. Ай, бяжыце да папа,
Па запечнага клапа,
Няхай поп прыбяжыць,
Няхай поп пагадзіць.

3. Няхай поп прыбяжыць
Вугалём пачадзіць,
Запісачку прачытае,
Нябожчыка адпявае.

4. Жучкі ямку капаюць,
Яны блошку хаваюць,
Ай, ду-ду, ду-ду, ду,
Трубіць жораў на дубу.

## 81. САЎКА ДЫ ГРЫШКА ЛАДЗІЛІ ДУДУ...

1. Саўка ды Грышка ладзілі дуду,
Павесяліцца, каб прагнаць нуду,
Дуду, дуду, дуду, дуду,
Каб прагнаць нуду.[1]

2. Як разыйшліся музыкі, гуга!
Згінула гора, згінула туга,
Гугагага, гугагага,
Згінула туга.

3. Дзядок старэнькі, ёмкі ўзяўшы скрут,
Кіем на дзверы паказаў ім тут,
Тутутуту, тутутуту,
Паказаў ім тут.

4. — Вы сабе дуйце сваё гоцаца,
Толькі не страшце малога хлапца.
Гоцацаца, гоцацаца,
Малога хлапца.

---

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца.

## 4. ЛЮБОЎНЫЯ

### 82. ВОЙ, Я ХАДЖУ, ПАХАДЖАЮ...

1. Вой, я хаджу, пахаджаю
   Па чыстаму полю,
   Сею, сею, рассяваю
   Сваю горку долю.

2. Ўзыйдзі, мая горка доля,
   Густымі ўсхадамі,
   Цвіці, мая горка доля,
   Сінімі цвятамі!

3. Нішто, нішто так не сіне,
   Як сінь васілёчак,
   Ніхто, ніхто так не верны,
   Як мой міл дружочак...

### 83. ОЙ, РАЗВІЛАСЯ ЗЯЛЁНА ДУБРОВА...

1. Ой, развілася зялёна дуброва
   На той круценькай гарэ;
   Ой, разышлася варожа забава
   Аб маёй дзявочай красе.

2. Вецер павее, сонейка прыгрэе,
   Рана раса ападзе,
   Так мая доля, краса маладая,
   На век марна, эх, прападзе.

3. А ў тэй дуброве птушачка спявае,
   Сэрцу жалю надае,
   Дзевачка плача, долю праклінае:
   А хто любіць, не прыдзе...

### 84. ОЙ, СТАЯЛА ЯЛІНАЧКА...

1. Ой, стаяла яліначка
   На заходзе сонца,
   Ой, плакала дзяўчыначка,
   Гледзячы ў ваконца.[1]

2. Німа майго міленькага,
   Німа маёй душкі,
   Каму-ж усе дастануцца
   Пуховы падушкі?..

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца.

## 85. ДУБРОВАЧКА, ОЙ ЗЕЛЯНАЯ...

Дубровачка, ой зялянàя, зялянàя,
А божа-ж мой![1]
Я-ж па табе, ай, пахадзіла, пахадзіла,
Ў тваім шумè я й заблудзіла, заблудзіла.
Ай, татка клікаў, я й ня чула, я ня чула,
Па голасу я й не спазнала, не спазнала,
Родным таткам я й не назвала, не назвала.
А мілы клічыць, я пачула, я пачула,
Па голасу яго спазнала, ой, спазнала,
Ай, міленькім яго назвала, ой, назвала.

## 86. УЖО Я ЎСТАНУ РАНЕНЬКА...

1. Ўжо я ўстану раненька,
Умыюся бялюсен(і)ка,
Эх, умыюся бялюсен(і)ка,
Прыбяруся харашэн(і)ка.

2. Умыюся бялюсен(і)ка,
Прыбяруся харашэн(і)ка,
Эх, сяду, сяду у акен(ы)ца,
Проці жар(ы)кага слон(ы)ца.

3. Сяду я ў акенца,
Проці жар(ы)кага слон(ы)ца,
Эх, проці жар(ы)кага слон(ы)ца,
Паджыдаю чорнамор(ы)ца.

4. Чорнаморац едзе, едзе,
Семярых коней ведзе,
Эх, да васьмога варанога,
Ды, як ворана, чар(ы)нога.

## 87. А Ў ПОЛІ ВЯРБА...

1. А ў полі вярба,
Пад вярбой вада,
Там хадзіла, ваду брала
Дзеўка малада.[2]

2. Дзеўка ад вады,
Хлопец да вады:
— Пастой, пастой, дзяўчынанька,
Дай каню вады.

3. —Рада-б пастаяць,
Каню вады даць,—
Няма ў мяне роднай маткі—
Ў доме зажураць.

## 88. А БЕЛАЯ ЛЯБЁДАЧКА...

А белая лябёдачка
Ваду замуціла,
А ты, красна дзяўчыначка,
Чаму засмуцілась?..

---

[1] Прыпеў пасля кожнага радка.
[2] Апошнія два радкі паўтараюцца.

## 89. А ЯК ЗАРАДЗІЛА...

1. А як зарадзіла
Многа ягад у бару,
А як заблудзіла
Красна дзѐвіца ў лясу.

2. Іна прыблудзіла
К быстрай рэчанькі-ракѐ,
Іна разаслала
Гранатовенькі платок.

3. Йна пастанавіла
Горкай водачкі штахвок,
Іна палажыла
Сладкіх яблычкаў з пяток.

4. Іна палажыла
Красных яблычкаў з пяток,
А як заклікнула
Піравозьнічка к сабе.

5. —Ах ты, піравозьнік,
Ах ты, парань маладой,
Піравязі мяне
На ту сторану дамой...

## 90. А Ў ПОЛІ ДУБ, ДУБ...

1. А ў полі дуб, дуб,
А пад дубам ёлка,
Там дзяўчына жыта жала,
Сама чорнаброўка.[1]

2. Ехаў казачэнька,
„Памагай бог„ дае,
Дзеўка стала, адказала,
Сэрданькам назвала.

3. Там за гаем, гаем
Дзевер ваду носіць,
Ой, там маці свайго сына
Вячэраці просіць.

4. —Ой, вячэрай, маці,
Калі наварыла,
А я сяду ды паеду
Да дзяўчыны-любы.

## 91. ПАЗВОЛЬ, ПАЗВОЛЬ, МАЦІ...

1. Пазволь, пазволь, маці,
Крыніцу капаці,
Ці не прыдуць дзеўкі
Рана ваду браці.[1]

2. Вось дзяўчаткі прышлі,
Ваду зачарпнулі,
А маю міленьку
Мама не пусціла.

3. Пазволь, пазволь, маці,
Карчму будаваці,
Ці не прыдуць дзеўкі
Туды пагуляці.

4. Вось дзяўчаткі прышлі,
Прышлі, пагулялі,
А маю міленьку
Мама не пускае.

5. Пазволь, пазволь, маці,
На луг пахадзіці,
Ці не прыдуць дзеўкі
Карагод вадзіці.

6. Вось дзяўчаткі прышлі,
Карагод вадзілі,
А маю міленьку
Мама не пусціла.

---

1 Апошнія два радкі паўтараюцца.

## 92. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

1. Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак,
Куды вецер вее,
Туды галлё гнецца.[1]

2. Сягоння субота,
А заўтра нядзеля;
— Чаму ў цябе, хлопчык,
Кашуля ня бела?

3. — А як-жа ж будзя бела,
Хоць заўтра нядзеля,
Матка ў мяне стара,
Сястра ў мяне мала.

4. Матка ў мяне стара,
Сястра ў мяне мала,
Дзяўчына кахана
Любіць перастала.

5. Пераплыву рэчку,
Сяду на масточку,
Ці ня прыдзе міла
Памыць мне сарочку.

## 93. ЦІ ЎСЕ ЛУГІ ПАКОШАНЫ...

1. Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці;
Пытаецца сын у мацеры,
Каторую ўзяці.[1]

2. Ці тую багатую,
Што хараша ходзіць,
Ой, ці тую бедненькую,
Што возьмецць, усё зробіць?

3. Ці тую багатую,
Што валы, каровы,
Ці тую да сіраціначку,
Што чорныя бровы?

4. У багатай, нехарошай
Валы паздыхаюць,
А ў беднай сіраціначкі
Бровы не зліняюць.

## 94. НЕ АГОНЬ ГАРЫЦЬ, НЕ ВАДА КІПІЦЬ...

1. Не агонь гарыць, не вада кіпіць,
Маладзецкае сэрцайка баліць.

2. Ой, баліць, баліць, не знаю па кім,
Ці па бацюшку, ці па матулі.

3. Ні па бацюшку, ні па матулі,
А па здрадніцы, краснай дзевіцы...

## 95. АЙ, БОЖА МОЙ, БОЖА...

1. Ай, божа мой, божа, без долі ўрадзіўся:
Які свет вялікі, а я не жаніўся.

А што-ж я думаю,
Красну дзевіцу кахаю,
Паклічу я мілу
К сабе на параду.

---

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца.

2. Ай, божа-ж мой, божа, які я ўрадзіўся,
Плыў я цераз рэчку, да і не умыўся.

Плыў я цераз рэку,
Плыў я ды цераз быстру,
Пераплыў я рэку,
Ды не ўціраўся.

3. —Дай-жа я вярнуся, дай-жа я утруся,
На сваю на мілу дай-жа падзіўлюся.

Ох, ты конь мой мілы,
Конь мой мілы, сівагрывы,
Бяжы, сівагрывы,
Аж да маёй мілай.

4. Стань пад варотамі, удар капытамі,
Ці не выйдзе міла з чорнымі брывамі.

А што-ж я думаю,
Красну дзевіцу кахаю,
Ці не выйдзе міла
Ка мне на параду.

## 96. ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА...

1. —Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму-ж ты ня поўная,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Чаму-ж ты ня поўная?

2. Чаму-ж ты ня поўная,
З беражком ня роўная,
Ай, люлі люлі, люлі,
З беражком ня роўная?

3. —А як-жа мне поўнай быць,
Ясь млады каня паіць,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Ясь млады каня паіць.

4. Ясь млады каня паіць,
Кася воду чэрпаіць,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Кася воду чэрпаіць.

5. —Ах, Ясенька, Ясенька,
Чаму ты не жэнісся?
Ай, люлі, люлі, люлі,
Чаму ты не жэнісся?

6. Чаму ты не жэнісся,
На каго надзеісся?
Ай, люлі, люлі, люлі,
На каго надзеісся?

## 97. ПАШОЎ ЯСЬ НАШ НА ЛУЖОК...

1. Пашоў Ясь наш на лужок,[1]
Накасіў атавачкі ён стажок.

2. Пашоў Ясь наш аддыхаць
І сваю Настулічку стаў чакаць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

3. А Настулька не прышла,
Маці дома работачку ёй знайшла.

4. —Чакай, Яська, да пары,
Аж да самай ночанькі, да зары.

## 98. ПАЦЯРАЛА Я КАЛЕЧКА...

1. Пацярала я калечка,
Пацярала я любоў, і верна,
Пацярала я любоў.

2. Я па гэтым па калечку
Буду плакаць дзень і ноч, і верна,
Буду плакаць дзень і ноч.

3. Дзе схаваўся той цвяточак,
Што даліну ўкрашаў, і верна,
Што даліну ўкрашаў?

4. Дзе дзяваўся той міленькі,
Што размовай заўлякаў, і верна,
Што размовай заўлякаў?..

## 99. ВЕЧАРКОМ ЗА РЭЧКАЮ...

1. Вечарком за рэчкаю, эх!
Вечарком за рэчкаю
Песенька гучыць,
Эх, ды выйду,
Выйду я на ганачак,(2)
Маці, не крычы,
Эх, ды, маці, не крычы!

2. Мілага прыгожага, эх!
Мілага прыгожага
Ўспамінаю я,
Эх, ды пра яго і
Пра яго і складзена (2)
Песенька мая,
Эх, ды песенька мая.

3. Дзяўчыну не кінуў ён, эх!
Дзяўчыну не кінуў ён,
Хоць і сам бядняк,
Эх, ды ён паехаў,
Ён паехаў восенню (2)
Ў горад на рабфак,
Эх, у горад на рабфак.

4. А ўчора з горада, эх!
А ўчора з горада
Ліст ён мне прыслаў,
Эх, пры развітанні,
Што пры развітанні (2)
Мілай абяцаў,
Эх, ды мілай абяцаў.

---

## 5. ЖАНОЧЫЯ

### 100. ДА ЎЖО СОНЕЙКА...

1. Да ўжо сонейка
За лес коціцца,
Мне да матулі
Ў госці хочацца.

2. Дзе мяне маці
Спатыкаць будзе,
Чым мяне маці
Частаваць будзе?

3. Частуе мяне
Мёдам ды вінам;
— Як было табе
За чужым сталом?

4. — Ці ела, мама,
Рэдзьку з палыном?
Так было-жа мне
За чужым сталом.

5. Я ў канцы стала
Настаялася,
Лічаных кускоў
Нахваталася.

6. Цераз хату йду,
Думку думаю,
Цераз сені йду,
Слёзанькі лію.

### 101. ПРЫЛЯЦЕЛА ГАЛКА...

1. Прыляцела галка,
Чужая зямлячка,
Села яна, пала
На сухой сасне.

2. Села яна, пала
На сухой сасонцы,
Ой, на сухой сосне,
Спявае галос(на).

3. — Ня хіліся, сосна,
Бо мне вельмі тошна,
Што я ў чужым краю
Дарма прапада(ю).

4. Што я ў чужым краю
Дарма прападаю,
Без айца, без маткі,
Без роднага дзядзь(кі).

5. — Прыедзь, прыедзь, дзядзю,
Прыедзь, галубочак,
Прыедзь, галубочак,
Хоць раз у гадоч(ак).

6. Прыедзь, галубочак,
Хоць раз у гадочак,
На адзін дзянёчак,
На адзін часоч(ак).

### 102. А ХТО ЎДВАЁХ, ХТО ЎТРАЁХ...

1. А хто ўдваёх, хто ўтраёх,
А я ўсё адна,
Ой, вып'ю я чарачку
Да самага дна.

2. Вясёла бяседачка,
Дзе муж з жонкай п'ець:
Бо ён-жа ёй чарачку
Поўнаю нальець.

3. Просіць выпіць мілую
Чарачку адну,
Каб забыць пра родную
Сваю старану.

4. — Не буду я, міленькі,
Поўнай выпіваць,
Не буду староначкі
Роднай забываць.

5. У роднай старонацы
Птушачкі пяюць,
А ў чужой старонацы
Толькі слёзы льюць.

## 103. САЛАВЕЙКА ЛУГАВЫ

1. Салавейка лугавы,
Не шчабячы з-пад зары,
Не жур маёй галавы.

2. Ў мяне татулькі німа,
А матулька не радна—
Будзіць мяне ўсё да дня.

3. Шле мяне маладзіцу
Па халодную вадзіцу,
У зялён бор у крыніцу.

4. Ой, пайду я, гукаючы,
Ох, пайду я, блукаючы,
Свайго роду шукаючы.

5. Па край слонца абайшла,
Па край слонца абайшла,
Свайго роду не знайшла.

## 104. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНІЦА ЎВЕСЬ СВЕТ АКРАСІЛА...

1. Чырвоная калініца
Ўвесь свет акрасіла,
Бяздольна дзяўчынанька
Ўвесь род аслязіла.

2. Чырвоная калініца
На воду схілілась,
Журылася дзяўчыначка,
Ад роду адбілась...

## 105. БОЖА-Ж МОЙ, СПАЦІ ХАЧУ...

1. Божа-ж мой, спаці хачу.
Гаманяць ўсё да паўночы,
Пабуджаюць да зараньki,
Галоўка баліць. (2)
Камары гудуць, мне спаць не даюць,
Пайду я у камору,
Укрыюсь ад гамону,
І там я засну. (2)

2. Божа-ж мой, спаці хачу.
Палажу я галаваньку
На таткавай пасцелечкі
І там я засну. (2)
Татачка ідзець, глядзіць на мяне:
— Дзіця маё дарагое,
Замуж пайшло маладое,
Не выспалася. (2)

3. Божа-ж мой, спаці хачу.
Палажу я галаваньку
На свякровай пасцелечкі
Ї там я засну. (2)
Свёкратка ідзе, глядзіць на мяне:
— Санлівая, драмлівая,
Да работкі лянівая
Нявестка мая. (2)

4. Божа-ж мой, спаці хачу.
Палажу я галаваньку
На матчынай пасцелечкі,
Ї там я засну. (2)
Мамачка ідзе, глядзіць на мяне:
— Дзіця маё дарагое,
Замуж пайшло маладое,
Не выспалася. (2)

5. Божа-ж мой, спаці хачу.
Палажу я галаваньку
На свякроўкавай пасцелечкі
Ї там я засну. (2)
Свёкарка ідзе, глядзіць на мяне:
— Санлівая, драмлівая,
Да працы нерадзівая
Нявестка мая. (2).

6. Божа-ж мой, спаці хачу.
Палажу я галаваньку
А на мілага пасцелечкі
Ї там я засну. (2)
Міленькі ідзе, глядзіць на мяне:
— Вазьму я ды катаначку,
Прыкрыю я каханачку—
Няхай яна спіць. (2)

## 106. БЯРОЗКА МАЯ КУДРАВІСТАЯ..

1. Бярозка мая кудравістая,
Ай, люлі, палюлі, кудравістая.

2. Свякроўка мая наравістая,
Ай люлі, палюлі, наравістая.

3. Пакуль нораў яе пераведала,
Ай, люлі, палюлі, пераведала,

4. Не раз слёзкамі паабедала,
Ай, люлі, палюлі, паабедала.

5. Сама спаць ляжа, мне рабіць кажа,
Ай, люлі, палюлі, мне рабіць кажа.

6. А цёмнай начы па ваду ісці,
Ай, люлі, палюлі, па ваду ісці.

7. Зачуў міленькі, каней пасучы,
Ай, люлі, палюлі, каней пасучы.

8. — Не плач, мілая, каня напасу,
Ай, люлі, палюлі, каня напасу.

9. Каня напасу, вады прынясу,
Ай, люлі, палюлі, вады прынясу.

10. Вады прынясу, свякроў напаю,
Ай, люлі, палюлі, свякроў напаю.

11. — Пі ваду, свякроў, з поўнага вядра,
Ай, люлі, палюлі, з поўнага вядра.

12. Ў цябе, матуля, нявестка адна,
Ай, люлі, палюлі, нявестка адна.

13. А будзе друга, ды ўсё не така,
Ай, люлі, палюлі, ды ўсё не така.

14. Сярэдольшая—яшчэ горшая,
Ай, люлі, палюлі, яшчэ горшая.

## 107. ЯК У ПОЛІ БУЕН ВЕЦЕР ВЕЕ...

1. Як у полі (2) буен вецер вее,
Там удава пшанічаньку сее.

2. Ой, сеяла (2) аж да познай ночы,
Выплакала свае кары вочы.

3. Ой, сеяла (2) ды не валачыла,
Усё поле слёзкамі заліла.

4. Яшчэ ўдава (2) дадому не дайшла,
А ўдовіна пшанічанька ўзыйшла.

5. А як ўдава (2) вячэраці села,
Ўдовіна пшан'ца паспела.

6. Пайшла ўдава (2) пшаніцу глядзеці,
Аж вывела зязюлечка дзеці.

7. Пайшла ўдава (2) пшанічаньку жаці,
А ў зязюлечак ўжо няма маці.

8. Ой, большыя (2) ў вырай паляцелі,
А меншыя ды й пасірацелі.

## 108. ПАЙДУ Я, МАЛАДА, ПА ВАДУ...

1. Пайду я, малада, па ваду,
Кіну я вёдрыцы на ляду,
А каромыселкі пад гару;
— Станьце вы, вёдзеркі, каменем,
А пачопачкі ланцугом,
А каромыселкі яваром,
А я, маладзенька, вярбою
Над быстрай ракою.

2. Наехалі купцы-таргаўцы,
Наехалі купцы-таргаўцы,
Сталі тую вербу сеч-рубаць,
Сталі ды на дошчачкі шчапаць.
Сталі на дошчачкі шчапаць,
Звонкія гуслі дзелаці,
Іграйце вы, гуслі, галосна,
Кабы была дзеўкам жалосна.

## 109. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ...

1. Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы гарэ плугам. (2)

2. Ён арэць поле валамі,
А я плачу ўсё слязамі. (2)

3. Занясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.(2)

4. Занясу я яму піці,
Ці не стане гаварыці. (2)

5. І наеўся і напіўся,
Сеў на плуг ды засмуціўся. (2)

6. — Што-ж ты, мілы мой, думаеш,
Што са мной не размаўляеш? (2)

7. — А я сіджу ды думаю,
Што благую жонку маю. (2)

8. — Браў мяне ты ўдзень, не ўночы,
Дзе-ж тады свае меў вочы? (2)

## 110. ОЙ, ХАДЗІЎ-ЖА ЎСЁ МАЛОЙЧЫЧАК...

1. Ой, хадзіў-жа ўсё малойчычак
Па гары крутой,
Ды часаў ён русы валасы
Праваю рукой.

2. Ой, абрыдла, надакучыла,
Завіваючы,
На чужыя, на харошыя
Пазіраючы.

3. Бо чужыя—ўсё харошыя,
Як ружовы цвет,
Мая-ж жонка—неудаліца,
Завязала свет...

## 111. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЧЭРАЗ БЫСТРУЮ...

1. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць,
Ах, па тэй, па тэй гібкай кладачцы
Сам Іванічка бяжыць.

2. Ах, па тэй, па тэй гібкай кладачцы
Сам Іванічка бяжыць,
За сабой вядзець мілу жоначку,
Ён Алёначку сваю.

3. Ах ты, кладачка, ты цісовая,
Ты не гніся пада мной,
Ах, Алёначка, ты душа мая,
Ты не гневайся за мной.

4. Ай, ні півушкам, ні гарэліцай
Не ўпівайся, малада,
Дзеля дзетачак, дзеля дробненькіх
Не старэйся, малада.

5. Ах, Іванічка, ты душа мая,
Ўсё не праўдычка твая,
Піўшы півушка ды гарэліцу,
Я ўвап'юся, малада.

6. Піўшы півушка ды гарэліцу,
Я ўвап'юся малада,
Дзеля дзетачак, дзеля дробненькіх
Састарэю, малада.

## 112. ОЙ, ПРАЛА-Б Я КУДЗЕЛЬКУ...

1. Ой, прала-б я кудзельку,
Ды галоўка баліць,
Пайшла-б я да ў карчомачку,
Ды мой мужык не вяліць.

2. Прала, прала я кудзелічку
Ды аб землю—бразь!
Сама пайшла ў карчомачку
Ды п'яна напілась.

3. Прыехаў мой міленькі
А і з поля дамоў,
Пытаецца ў дзетачак:
— А і дзе ваша маць?

4. — Ціха, ціха, татачка,
А ніхай маці спіць.
А як прыдзе шынкарачка,
Дык трэба заплаціць.

5. — Устань, устань, мая міла,
Устань, прабудзіся,
Вазьмі сабе сараковачку
Да йдзі пахмяліся.

6. Устань, устань, мая міла,
Устань, прабудзіся,
Вазьмі сабе карбованец
Да йдзі расплаціся.

7. — Не паможыць твой карбованец,
Не памогуць й два,
Ўчора піла на карову,
А сягонні на вала.

8. — Бадай-жа ты, мая міла,
Ды здарова была,
Як ты маю ды маёмасць
Ды навекі звяла.

## 113. Я ЎЧОРА Ў ПІРУ БЫЛА...

1. Я ўчора ў піру была,
П'яненька дамоў прышла,
Ой-ё-ё-ёй, божа мой,
П'яненька дамоў прышла.

2. Ў варота пастукала,
Ў вакенца паслухала,
Ой-ё...

3. Ой, свёкар па хаце ходзіць,
У руках бізун носіць,
Ой-ё...

4. Ён ў руках бізун носіць,
Залоўку набіць вяліць,
Ой-ё...

5. Мой міленькі ходзіць, ходзіць,
У руках кісет носіць,
Ой-ё...

6. — Татанька мой, раднюсенькі,
Не бі жонку хмельнюсеньку,
Ой-ё...

7. Бі жану цвярозаю
Белаю бярозаю,
Ой-ё...

8. Бяроза-жа бяленька,
А жонка мне міленька,
Ой-ё...

9. Бярозанька з веткамі,
Мая жонка з дзеткамі,
Ой-ё...

## 114. ОХ ВЫ, ДЗЕВАЧКІ, ПАДРУЖАЧКІ МАЕ...

1. Ох вы, дзевачкі, падру... ўжачкі мае,
Прыхадзіця на вячорачкі ка мне.

2. Прыхадзіця на вячо... орачкі ка мне,
Вы паслушайця прыказіку майго.

3. Вы паслушайця прыка... азіку майго,
Вы не йдзіця за старых мужэй замуж.

4. Вы не йдзіця за стары... іх мужэй замуж'
Што стары муж нараўлівай, ўражай сын.

5. Што стары муж нараўлі... івай, ўражай сын,
Не пуская на вуліцу пагуляць.

6. Не пуская на вулі.. іцу пагуляць,
А хоць пусця, на ядынай на часок.

7. А хоць пусця на яды... інай на часок,
А сам сядзя у святліцы пад акном.

8. А сам сядзя у святлі... іцы пад акном.
Прастаяла з халастым парням часок.

9. Прастаяла з халасты... ім парням часок,
Нараняла горкіх слёзачак платок.

10. Нараняла горкіх слё... озачак платок,
Ты ўзайдзі-ка, жарка соняйка, ў вакно.

11. Ты ўзайдзі-ка, жарка со... оняйка, ў вакно,
Растапі-ка крышталёвая сцякло.

12. Растапі-ка крышталё... овая сцякло,
Ты залей-ка стараму мужу глаза.

13. Ты залей-ка стараму... ў мужу глаза,
Штоб не відзіў, куда я пайду, млада.

## 115. ДЫ П'ЯНА Я, ОЙ, ВАЛЮСЯ...

1. Ды п'яна я, ой, валюся, (2)
Йду дадому ды баюся.

2. Каб за добрым мужам была, (2)
Дык-ба хорамы нажыла,

3. А з табою, такім шэльмам, (2)
Гады горкія пражыла...

## 116. ЗАПРАЖЭЦЕ, ЗАПРАЖЭЦЕ...

1. Запражэце, запражэце
Пару коней вараненькіх;
Вось я сяду ды паеду
К свайму татку на параду.[1]

2. Я раскошы а ні знаю,
Бяды-гора не забуду,
Толькі-ж маладыя леты
Свае ўспамінаці буду.

3. Запражэце, запражэце
Пару коней вараненькіх;
Я паеду даганяці
Свае леты маладыя.

4. Як дагнаў я свае леты
Ды на ліпавым на мосці:
— Ой, вярнецесь, маладыя
Мае леты, ка мне ў госці...

## 117. Я—КАЛГАСНІЦА...

Я—калгасніца
Маладая,
Жыву весела,
Ані дбаю.

Мае дзетачкі
Позна-рана
І накормлены,
І прыбраны.

Сваю Настачку—
Дзіцё тое—
Нясу ў яслі я
Раніцою.

А Данілачка
Важным хлопцам
Рады бегае
На пляцоўцы.

А як выйду я—
Іхня маці—
Ды калгаснае
Жыта жаці,—

Густа сцелюцца
Ўслед снапочкі,
Пяю песенькі
Аж да ночкі.

Супакойна я
Ўжо за дзетак,
Сваіх родненькіх
Малалетак.

Я—калгасніца
Маладая,
Жыву весела,
Ані дбаю.

---

1 Апошнія два радкі паўтараюцца.

# 6. ПЕСНІ БАЛАДНЫЯ

## 118. ЎЗЫШОЎ МЕСЯЦ І ЗАРА...

1. Узышоў месяц і зара,
Там хадзіла удава,
Дунай, Дунай, Дунаёчык. (2)

2. Там хадзіла удава,
Хараша і малада,
Дунай...

3. Хараша і малада,
Спарадзіла два сына̀,
Дунай...

4. Спарадзіла два сына̀,
У кітайку спавіла̀,
Дунай...

5. У карэбчык ўлажыла,
На чыст Дунай пусціла,
Дунай...

6. Ах ты, ціхінькі Дунай,
Маіх дзетак калыхай,
Дунай...

7. Ах ты, жоўценькі пясок,
Пакармі маіх сыноў,
Дунай...

8. Ох ты, дробна рыбачка,
Забаўляй маіх сыноў,
Дунай...

9. На дваццатым на гаду
Пашла ўдоўка па ваду,
Дунай...

10. Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карэбчык прыплуваць,
Дунай...

11. А на тым-жа караблі
Ды два браціткі радны̀,
Дунай...

12. Адзін сядзіць на насу,
Чэшыць русую касу,
Дунай...

13. Другі сядзіць на далу,
Паглядаіць на ўдаву,
Дунай...

14. Цінай рыбу ганяіць
Із удоўкай гукаіць,
Дунай...

15. — Ах ты, ўдоўка, удава,
Харошая, малада,
Дунай...

16. Чаму, ўдоўка, ты стаіш,
Чаму вады не бярэш?
Дунай...

17. — Я і вадзіцу бяру,
Я й на молайцаў сматру,
Дунай...

18. — Ах ты, ўдоўка, удава,
Харошая, малада,
Дунай...

19. А ці любіш ты нас,
А й ці пойдзіш за нас?
Дунай...

20. — За старшага сама пайду,
За меншага дачку аддам,
Дунай...

## 119. А Ў БАРУ САСНА КАЛЫХАЛАСЯ...

1. А ў бару сасна калыхалася,
   Ой, люлі, люлі, калыхалася.[1]
2. Я да матулі выбіралася,
3. Трыма мыдламі умывалася,
4. Цёмнаю ночкай выбіралася:
5. Праз першы пакой памалюсеньку,
6. Праз другі пакой паціхусеньку.
7. Ішла, ішла я, аглянулася,
8. І з смертухнаю спатыкнулася.
9. — Смертухна мая, адкуль ты ідзеш?
10. Не бяры майго, хоць нелюбага,
11. Бо людзі скажуць, што не любіла,
12. Суседзі скажуць, што атруціла.

## 120. ОЙ, ЦЁМНА НОЧКА, ДЫ НЯ ВІДНА БЫЛА...

1. Ой, цёмна ночка, ды ня відна была;
   Свайго мужа ды й забіла жана.

2. Палажыла у каморы пад вакном,
   Ды пакрыла тонкім белым платком.

3. Прыехалі ды два брацікі яго,
   Пытаюцца яны брацiка свайго.

4. — Вось вы вазьміце, ой, ды востранькі меч,
   Ды зніміце мне галаваньку з плеч.

## 121. СЯРОД ДВАРА СТАІЦЬ КРЫЛЬЦО...

1. Сярод двара стаіць крыльцо
   Размалёвана,
   З таго крыльца вядуць к вянцу
   Красну дзевіцу.

2. Адзін вядзе за ручаньку,
   Другі за другу,
   Трэцей стаіць, слёзы роніць:
   Любіў ды не ўзяў.

3. — Красавіца-забаўніца,
   Зірні хоць глазком.
   — Я рада-бы, ўзглянула-бы,—
   Закрыта ліцо.

4. — Красавіца-забаўніца,
   Махні хоць рукой.
   — Я рада-бы, махнула-бы,—
   Рукі заняты.

---

[1] Прыпеў пасля кожнага радка.

## 122. ОЙ, У ПОЛІ, ПОЛІ НЕ ДЫМ, НЕ ТУМАН...

1. Ой, у полі, полі не дым, не туман,
Гэй, гэй, не дым, не туман.

2. Ой, у полі, полі тры палкі стаяць,
Гэй, гэй, тры палкі стаяць.

3. У першым палку коні зарзалі,
Гэй, гэй, коні зарзалі,

4. У другім палку шаблі заззялі,
Гэй, гэй, шаблі заззялі,

5. А ў трэцім палку навіны сталі,
Гэй, гэй, навіны сталі.

6. Навіны сталі, брат брата забіў,
Гэй, гэй, брат брата забіў.

7. Брат брата забіў, галоўку зрубіў,
Гэй, гэй, галоўку зрубіў.

8. А сам-жа ён сеў пісьма пісаці,
Гэй, гэй, сеў пісьма пісаці.

9. Пісьма пісаці, да мамкі слаці,
Гэй, гэй, да мамкі слаці:

10. — Во прыедзь ты, мамка, прыедзь ты сама,
Гэй, гэй, прыедзь ты сама.

11. Аднаго хаваці, другога караці,
Гэй, гэй, другога караці.

12. Во я табе, мамка, ўсю праўду скажу,
Гэй, гэй, ўсю праўду скажу.

13. Служылі мы, мамка, у адным палку,
Гэй, гэй, у адным палку.

14. Палюбілі, мамка, мы адну дзеўку,
Гэй, гэй, мы адну дзеўку.

15. Вот ён-жа мне, мамка, правоў не ўступіў,
Гэй, гэй, правоў не ўступіў.

16. Вот я яму, мамка, галоўку зрубіў,
Гэй, гэй, галоўку зрубіў.

## 123. ЕХАЛІ САЛДАЦІКІ...

1. Ехалі салдацікі
Са службы дамоў, [1]

2. На плечах пагончыкі,
На грудзях красты.

3. Выехаў на коніку
Добры маладзец,

4. Задумаў радзіменькі
Сям'ю паглядзець.

5. Торнаю дарожанькай
Едзе маладзец,

6. А тут на сустрэчаньку
Родненькі ацец.

7. — Ой ты, мой сыночанька,
Ці жыў, ці здароў?

8. Ці скора вароцішся,
Сыночак, дамоў?

9. —Здароў, здароў, баценька,
Ці жыва сям'я?

10. Ці жыва радзімая,
Дзе мая жана?

11. — Сям'я наша родная
Пакуль-што жыва,

12. Но твая жанушанька
Сына прыжыла.

13. Сын атцу ні словачка,
Сам сеў на каня,

14. Толькі пакацілася
Горкая сляза.

15. Сын пад'ехаў к варатам,—
Вышла маць з жаной.

16. Маць стаіць з улыбкаю,
Жана са слязой.

17. Стала маць сынка прасіць:
— Прасці, сын, жане...

18. — Стараніся, маць радна,
Не скрывай віну,

19. А жане ізменніцы
Галаву зніму.

20. Заблішчэла шабелька
З-пад левай рукі,

21. Пакацілась галава
З нявернай жаны.

22. Ой, жану схаранілі
Ў сырую зямлю,

23. Мужа пасадзілі
Ў гнілую турму.

## 124. АЖАНІЛА МАЦІ...

1. Ажаніла маці
Маладога сына,
Маладой нявесткі
Не ўзлюбіла[2].

2. Выправіла сына
Ў далёку дарогу,
Маладу нявестку,
Ды лён палоці.

3. — Не праполеш лёну—
Не ідзі дадому,
Стань у чыстым полі
Ты каліною.

4. Не спалола лёну,—
Не пайшла дадому,
Стала ў чыстым полі,
Ой, каліною.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца.
[2] Апошнія два радкі паўтараюцца.

5. Як прыехаў сынку
З далёкай дарогі,
Расказаў матулі
Свае навіны:

6. — Матуля, матуля,
Па свеце бадзяўся,
Ды такой калінкі
Нідзе не бачыў.

7. — Ой, бяры ты, сынку,
Востру сякеру,
Пасячы ты, сынку,
Тую калінку.

8. Секануў адзін раз,
Секануў другі раз,—
А за трэцім разам
Адазвалася:

9. — Ой, не сячы мяне,
Каханы мой мужу!..
А хто разлучыў нас?
Твая матуля...

## 125. МЕЛА МАТУЛЯ АДНАГО СЫНА...

1. Мела матуля аднаго сына,
Ўзяла ды ажаніла маладзенькага.

2. Паслала сына ў вяліку дарогу,
А маладую нявестку лянок палоць:

3. — Не споліш лёну, не йдзі дадому,
Стань у чыстым полі хоць былінаю.

4. Прыехаў сын з вялікай дарогі,
Прыехаў, упаў ён матулі у ногі:

5. — Матуля мая, увесь свет звандраваў,
Такое былінкі нідзе не страчаў.

6. Былінкі такой нідзе не страчаў,—
Без ветру хіліцца, без сонца свяціцца.

7. — Ой, вазьмі, сынку, гостру сякеру
І ссячы ты, сынку, ой, тую былінку.

8. Секануў ён раз,—пахілілася,
Ой, секануў другі раз,—запрасілася:

9. — Не сячы мяне, не рубай мяне,
Ой, скажу ўсю праўду: я жонка табе.

10. Скажу ўсю праўду: я жонка твая,
Нарабіла ўсё ліха матуля твая...

## 7. *ЖАРТОЎНЫЯ*

### 126. АХ ТЫ, ДУЙ, АХ ТЫ, ДУЙ...

1. Ах ты, дуй, ах ты, дуй,
Мая міла, не бядуй,
Па маёй галаве
Астанецца ўсё табе.

2. Ах ты, дуй, ах ты, дуй,
Мая міла, не бядуй,—
І таўкач, і мялён,
І старожа, і прыгон.

3. Ах ты, дуй, ах ты, дуй,
Мая міла, не бядуй,
Астанецца ўсё табе,—
І сарочка з мяне.

4. Ах ты, дуй, ах ты, дуй,
Мая міла, не бядуй,—
І хамут, і дуга,
І я табе не слуга.

5. Ах ты, дуй, ах ты, дуй,
Мая міла, не бядуй,
Не бядуй, не бядуй,
Мая міла, не бядуй.

### 127. ПАЙШЛА УЛЛЯНА...

1. Пайшла Улляна
На ярмарку п'яна,
Ай, люлі, палюлі,
На ярмарку п'яна.

2. Сустрэлі Улляну
Чатыры салдаты,
Ай, люлі, палюлі,
Чатыры салдаты.

3. — Пайдзём, Улляна,
Да нашага пана,
Ай, люлі, палюлі,
Да нашага пана.

4. У нашага пана
Ўвесь двор на памосце,
Ай, люлі, палюлі,
Ўвесь двор на памосце.

5. Ўвесь двор на памосце,
Прыйшла свіння ў госці,
Ай, люлі, палюлі,
Прыйшла свіння ў госці.

6. Свіння ў сарафане,
Вяпрук у каптане,
Ай, люлі, палюлі,
Вяпрук у каптане.

7. Сучка ў чаравічках
Бяжыць па палічках,
Ай, люлі, палюлі,
Бяжыць па палічках...

## 128. ТЫ НАШТО, МАЦІ, ПА СЕНЕЧКАХ ХАДЗІЛА?..

1. Ты нашто, маці, па сенечках хадзіла,
Ты нашто мяне красівую радзіла?
Мне не можна аж да цэркві дахадзіць,
Мне не можна сваіх пацер гаварыць.

2. Ўсе папы, ўсе дзякі заглядаюцца,
Ўсе яны, усе чытаць забываюцца,
Палюбіў мяне малодзенькі папок,
Дараваў мне, ой, шаўковенькі платок.

3. Ой, палюбіў мяне малодзенькі папок,
Дараваў мне ўсё шаўковенькі платок.
Мне платочак той насіць ўсё хочацца,
А папа любіць зусім не хочацца.

4. А папа мне любіць зусім не хочацца,
Ой, ды што па цэркві ён валочыцца,
Ой, ды што ён рызай надзяваецца,
Ой, ды што папом ён называецца.

## 129. НЕ ЙДЗІ МАСТОМ, БЯРЭЗІНКАЮ...

1. Не йдзі мастом, бярэзінкаю,
Не любі казака із дружынкаю. (2)

2. Не йдзі мастом, бо увалішся;
— Ці ты мяне верна любіш, ці ты хвалішся? (2)

3. — Ой, я цябе люблю, скарай мяне божа,
Цалаваў, мілаваў, пакуль сам не зможа. (2)

4. Я й нацалаваўся, я й намілаваўся,
Як ў саду салавей нашчабятаўся. (2)

5. Салавей шчабеча, зязюля кувала,
Бадай яго чорт узяў, як я любавала. (2)

6. Бадай цябе чорт узяў, да ў доміну кінуў,
Як зімою любіў, на лета пакінуў. (2)

7. — Не стой, дурню, пад акном, ні саромайся,
Вайдзі ў хату, знімі шапку, паздаровайся. (2)

8. А ты думаў, дурню, што я цябе люблю,
А я цябе, дурню, навекі згублю. (2)

9. А ты думаў, дурню, што я цябе клічу,
А я табе, дурню, пад нос фігі тычу. (2)

10. А ты думаў, дурню, што я цябе прошу,
А я цябе, дурню, пад падошвай ношу. (2)

## 130. ЦЕРАЗ ЛЯСОЧАК, ЛЯСОЧАК...

1. Цераз лясочак, лясочак,
Цераз рэчаньку, масточак,
Калінавы мост. (2)

2. Калін-мосцік уламіўся,
Бедны малойчык утапіўся,
Там бяда яго. (2)

3. Дзяўчынанька прыбяжала,
За ручаньку прыдзяржала,
Пазвала ў лясок. (2)

4. У лясочак пад кусточак,
Пад зялёненькі лісточак,
Паляжаць часок. (2)

5. — Пакуль сонейка угрэе,
Наша плацейка абвее,
Мы тады пайдзём. (2)

6. Ішла дзеўка да дварца,
Цалуючы малайца,—
Малойчык харош. (2)

7. — Ой ты, Ванечка харошы,
Скінь ты боты, ідзі босы,
Ой, я малада. (2)

8. Каб боцікі не стучалі,
Каб падкоўкі не бражджалі,
Ой, я малада. (2)

9. Каб матуля не слыхала,
Што я з Ваней начавала,
Ой, я малада... (2)

## 131. СЕЮ РЭДЗЬКУ...

1. Сею рэдзьку, сею рэдзьку,
Сею, пасяваю;
Расці, рэдзька, расці, рэдзька,
На зіму схаваю.

2. Не з кім сесці рэдзьку есці,
Кажуць людзі—горка;
Ой, не буду жаніціся,
Што-б не біла жонка.

3. Вот пайду я да суседа
Праўдай пагукаці:
— Пасаветуй мне, суседзе,
Жонку выбіраці.

4. Я-ж пасеяў мерку рэдзькі,
Людзі кажуць—горка;
А задумаў жаніціся,
Кажуць—б'ецца жонка...

5. — Ой ты, браце, дурнаваты,
Выбірай любую,
Што-б не біла, да любіла
За жысць праўдалую...

## 132. ХЛОПЕЦ ПАШАНЬКУ ПАХАЕ...

1. Хлопец пашаньку пахае,
Божа-ж мой!
Ў яго сошанька крывая,
Божа-ж мой!

2. Прышла к яму кудравая,
Божа-ж мой!
— Вазьмі мяне, хлопец, замуж,
Божа-ж мой!

3. Хлопец здуру ажаніўся,
Божа-ж мой!
Навек бабай падавіўся,
Божа-ж мой!

4. А ні міскі, а ні лыжкі,
Божа-ж мой!
Павесілі тры калыскі,
Божа-ж мой!

## 133. МАМАЧКА, ЖЫВАТОК БАЛІЦЬ...

1. — Мамачка, жыватоk баліць.
— Дачушка, лезь на палок.
— Мамачка, на палку дзіця.
— Доня, дзе-ж яго ўзяла?

2. — Мамачка, ў бару знайшла.
— Дачушка, на што брала?
— Мамачка, мне шкада стала.
— Доня, чым карміць будзем?..

## 134. У ГАРОДЗЕ ЗА МЛЫНОМ...

1. У гародзе за млыном
Капусту ссякала,
Мусіць мяне бог скараў,
Што перабірала.

2. Запрагу я барану,
Па лучыну еду,
Валачыла, валачу,
Села, адпачыла.

3. — Дзякуй, мая міла,
Што памалу біла,
Ні на ліха,—на дабро
Ты мяне вучыла.

4. Я на рыначку быў,
Я расады не купіў,
Я на рыначку была,
Я й расады купіла.

5. Я сваёго мужыка
Навучыла казачка,
Няхай, шэльма, знае,
Што за жонку мае.

## 135. А СКАЗАЛІ ПРА МЯНЕ, МАЛАДЗІЦУ...

1. А сказалі пра мяне, маладзіцу,
А сказалі пра мяне небыліцу,
Што я, молада, не ткаха, не праха. (2)

2. Я ў нядзельку на таржочак хадзіла,
За рубель я верацён старгавала,
На капеечку кудзелькі купіла. (2)

3. Як устала ў панядзелак раненька,
Як вывела ды тры ніткі таненька,
Ды нацёрла тры крывавы мазалі. (2)

4. А ў сераду я ў лазню хадзіла,
А ў чацвер я з угару ляжала,
А ў пятніцу ўсе людзі не пралі,
А ў суботу радзіначку паміналі.

5. А ў нядзелю на вяселле пазвалі,—
А нямашака ў мяне ні сарочкі,
А нямашака ў мяне ні наметкі. (2)

6. Як пайду я, молада, ў чыста поле,
Укручуся, увярнуся ў лапушынку,
Ды пайду я да суседа на бяседу. (2)

7. А дзе бралася ды чарка мядовая,
Ды я стала молада ўпівацца—
Стала на мне лапушынка разлязацца. (2)

8. Як пачалі з мяне людзі смяяцца,
Ды ад сораму дамоў разбягацца,
Адзін толькі гаспадар прызастаўся,
І той ад мяне за ступу схаваўся.

## 136. ЗАМУЖ ПАЙСЦІ, ТРЭБА ЗНАЦІ...

1. Замуж пайсці, трэба знаці,
Позна легчы, рана ўстаці,
Ох, я, бедна-ж я,
Бедна галоўка мая.

2. Мужычок мой муку сее,
А я рада, што умее,
Ох, я, бедна-ж я,
Бедна галоўка мая.

3. Пакуль хлеб я замясіла,
Свіння дзверы заваліла,
Ох, я, бедна-ж я,
Бедна галоўка мая.

4. Пакуль дзверы уставіла,
Дык і мужа угнявіла,
Ох, я, бедна-ж я,
Бедна галоўка мая.

5. Пакуль мужу дагадзіла,
Свіння ўсе гаршкі пабіла,
Ох, я, бедна-ж я,
Бедна галоўка мая.

## 137. КАБ Я СВАЮ ДОЛЮ ЗНАЛА...

1. Каб я сваю долю знала,
Замуж не йшла, ды й гуляла,
Гуляй, гуляй, галовушка бедная мая.

2. Замуж ісці, трэба знаці:
Позна легчы, рана ўстаці,
Гуляй, гуляй, галовушка бедная мая.

3. Хату таплю, дзяжу мяшу,
Дзіця плачыць, я й калышу,
Гуляй...

4. Хату, сені трэба месці,
У луг есці трэба несці,
Гуляй...

5. Хату, сені я й памяла,
У луг есці я й занясла,
Гуляй...

6. Вот я адтуль драла, драла,
Да карчомкі чуць дабрала,
Гуляй...

7. Ад паходкі ножкі баляць,
А ў карчомцы добра гуляць,
Гуляй...

8. Ад работкі ручкі баляць,
А кялішак добра дзяржаць,
Гуляй...

9. Ад пякоты вусны смагнуць,
А з кялішка добра цягнуць,
Гуляй...

## 138. ЯК ПАШОЎ ХАЛІМОН...

1. Як пашоў Халімон
Ды ў поле араць, гэй!
І забыўся Халімон
Хлеба, солі ўзяць,
Чырында!

2. Як арэць, так арэць,
Усё пасвіствае, гэй!
А чужыя жонкі
Мужам есці нясуць,
Чырында!

3. Ўжо чужыя жонкі
Мужам есці нясуць, гэй!
А маей Чапялінкі
Не чуваць, не відаць,
Чырында!

4. Ды пашоў Халімон
На палудзень дамоў, гэй!
Халімон на парог,
Чапялінка да ног,
Чырында!

5. — Ой, не бі-ж ты мяне,
Не свары на мяне, гэй!
Я на рынку была,
Па тры чаркі піла,
Чырында!

6. Я на рынку была,
Па тры чаркі піла, гэй!
За цябе, за сябе,
За здароўе свае,
Чырында!

## 139. А ПАД ЛЕСАМ КУРЫЦЬ, КУРЫЦЬ...

1. А пад лесам курыць, курыць,
А дзед бабу журыць, журыць:
— Ідзі, баба, дамоў, дамоў,
Напякі мне бліноў, бліноў.

2. А бабусі не хочыцца,
Каля печы варочацца,—
На ёй тоненька сарочачка,
Кужэльная намётачка.

3. Ды саянік зялёненькі,
Хвартушочак чырвоненькі,
А саянік лушчыць, лушчыць
Хвартушочак блішчыць, блішчыць.

## 140. У ГАРОДЗЕ ПШАНІЧАНЬКА, ДЫ НЕ КУКУРУЗА.

1. У гародзе пшанічанька, ды не кукуруза,
Разгневалася жоначка на мужа. (2)

2. Ой, разгневалася жоначка, ой, ды на мужа,
Залезла на печ, казала нядужа. (2)

3. А міленькі ходзіць, ходзіць ды мілую просіць:
— Устань-жа ты, міла, прынёс табе піва. (2)

4. На печку палезла, ой, шубкаю ўкрылась:
— Не хачу я піва, баліць мая спіна. (2)

5. А міленькі ходзіць, ходзіць ды міленькую просіць:
— Устань-жа, міла, я прынёс гарэлкі. (2)

6. Ой, устань, мая міла, я прынёс-жа гарэлкі.
— Не лезь мне ў вочы, не хачу гарэлкі. (2)

7. Ой, не лезь мне ў вочы, ой, не хачу гарэлкі,
Не хачу гарэлкі, шукай сабе дзеўкі. (2)

8. А міленькі ходзіць, ходзіць ды міленькую просіць:
— Устань-жа, міла, прынёс табе мёду. (2)

9. Ой, устань, мая міла, прынёс табе мёду.
— Не лезь мне ў вочы, не хачу я мёду. (2)

10. Ой, не лезь мне ў вочы, ой, не хачу я мёду,
Не хачу мёду, не выжыву й году. (2)

11. А міленькі ходзіць, ходзіць ды міленькую просіць:
— Устань ты, гультайка, прынёс я дубінку. (2)

12. Ой, устань ты, гультайка, ой, прынёс я дубінку,
Прынёс дубінку на тваю спінку. (2)

13. Ой, мілая ўсхапілась, ды за шыю абшчапілась,
Ля боку села, кусок хлеба з'ела. (2)

14. — Ой, не балела спіна, ды не балелі й косці,
Узлезла я на печ ад свае злосці. (2)

## 141. ЗАХАЦЕЛА БАБУСІНЬКА ДЫ РАЗБАГАЦЕЦІ...

1. Захацела бабусінька
Ды разбагацеці,
Цып, цып, цырура, (2)
Ды разбагацеці.

2. Пасадзіла курапатку,
Каб вывела дзеці,
Цып, цып...

3. Выпусціла бабусінька
На падвор'е пасці,
Цып, цып...

4. Сама села на улачку
Кудзелечку прасці,
Цып, цып...

5. Шура-бура наступае,
Дождждык накрапляе,
Цып, цып...

6. Пара, пара, бабуленька,
Курчат забіраці,
Цып, цып...

7. Яшчэ курчат не сабрала,—
Двое растаптала,
Цып, цып...

8. Сюды, туды павярнула,—
На трэцяе ступнула,
Цып, цып...

9. Ой, да божа, божа, божа,
Ды што-ж мне рабіці?
Цып, цып...

10. Ёсць у мяне стары дзедка,
Будзе мяне біці,
Цып, цып...

11. А як прышоў стары дзедка
Із лесу да хаты,
Цып, цып...

12. — Чаму, чаму, бабуленька,
Курчат не чуваці?
Цып, цып...

13. — Выпусціла на падвор'е,
Празарылі людзі,
Цып, цып...

14. Ой, як узяў, як узяў дзедка
Сырую дубінку,
Цып, цып...

15. Набіў бабе, накалаціў
Галаву і спінку.
Цып, цып...

16. — Бадай табе, стары дзедку,
Барада аблезла,
Цып, цып...

17. Забіў, забіў, закалаціў,
Аж на печ ня ўзлезу,
Цып, цып...

## 142. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДЫНЬКА МАЯ!..

1. — Добры вечар, гаспадынька мая,[1]
Ці здарова ды сямеюшка твая?

2. — Не пытай ты сямеюшкі маёй,
Папытай ты ліхога мужыка.

3. А я-ж яму вячэру гатую,
А ён мяне журыць маладую.

[1] Кожны радок паўтараецца.

4. А я-ж яму вячэрацi паднашу,
А ён мяне палоўнiкам па насу.

5. А я-ж яму кашкi з маслам,
А ён мяне палоўнiкам ляпнуў.

6. А я-ж яму кашулiцу шыю,
А ён мяне кулаком у шыю.

7. Я-ж яму нi слова, нi поўслова,
А ён мяне кулаком узнова.

## 143. А ДЗЕ БЫЎ ТЫ, ДЗЯДУЛЬКА МОЙ?..

1. — А дзе быў ты, дзядулька мой,
А дзе быў ты, мiленькi мой?
— На кiрмашы, бабка, на кiрмашы, любка,
На кiрмашы, сiвая галубка[1].

2. — З кiм гуляў ты, дзядулька мой,
З кiм гуляў ты, мiленькi мой?
— З мужыкамi, бабка, з мужыкамi, любка,
З мужыкамi, сiвая галубка.

3. — Цi не трэба, дзядулька мой,
Табе доктара, мiленькi мой?
— Трэба, трэба, бабка, трэба, трэба, любка,
Трэба, трэба, сiвая галубка.

4. — Цi памрэш ты, дзядулька мой,
Цi памрэш ты, мiленькi мой?
— У нядзелю, бабка, у нядзелю, любка,
У нядзелю, сiвая галубка.

5. — У што званiць, ты, дзядулька мой,
У што званiць, ты, мiленькi мой?
— У заслонку, бабка, у заслонку, любка,
У заслонку, сiвая галубка.

## 144. ЗАСТУЧЫ, МАЯ ДУБIНКА...

1. Застучы, мая дубiнка,
Задудзi, мая валынка,
Люба, люба, люба, люба,
Задудзi, мая валынка.

2. Баба стара напiлася
Ды па вулiцы прайшлася,
Люба...

[1] Апошнiя два радкi паўтараюцца.

3. Усю траўку прытаптала,
Трое чобат патаптала,
Люба...

4. У нас дома нездароўе,
Свёкар з печы ізваліўся,
Люба...

5. Свёкар з печы ізваліўся,
За калоду заваліўся,
Люба...

6. За калоду заваліўся,
Каўбасою падавіўся,
Люба...

7. Калі-б я зараней знала,
Я-б павышай печ узняла,
Люба...

# 1. КАРАГОДНЫЯ І ГУЛЬНЁВЫЯ ПЕСНІ

## 145. ДЗЯВОЧКІ, ПРАЛЕСАЧКІ...

(„Цярэшка“)

1. Дзявочкі, пралесачкі,
Не ідзіце ў арэшачкі,
Або вы заблудзіце,
Арэшачкі пагубіце.

2. Цярэшка валочыцца,
Жаніціся хочыцца,
Ходзіць ды выглядаіць,
Каго ён ды спаймаіць.

3. Цярэшка, Цярэшынька,
Цiраз бор дарожынька,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.

4. Ні ўцікай, дзедзя-лябедзя,
Нап'емся мы піва па абедзі,
Ні ўцікай, дзядулячка,
Я-ж твая бабулічка.

5. На небі зорачка ясна,
У суседа дзяўчына красна.
Хоць-жа я ў бяду ўпаду,
Суседа дзяўчыну ўкраду.

6. Ты мой дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка,
Шануй мяне, цалуй мяне,
Каб я была гладка.

## 146. ЗЯЗЮЛЯ

1. Ты, зязюля, не кукуй, не кукуй,
Ты, шэрая, не кукуй, не кукуй,
Калі будзеш кукаваць, кукаваць,
Негдзі будзець начаваць, начаваць.
Ку-ку! Ку-ку! (2)

2. Ходзіць пятух па вуліцы,
Скукарэчыўся,
— Ці ты ножку зламіў,
Ці скалечыўся!
Ку-ку! Ку-ку! (2)

3. На вуліцы пітушок
Кукарэчку пяець,
А курачка-рабушычка
Яму есці нясець.
Ку-ку! Ку-ку! (2)

4. На вуліцы пітушок
І рабая курка,

— Я за цябе не пайду,—
Благая натурка.
Ку-ку! Ку-ку! (2)

5. Ходзіць пятух па вуліцы—
Як кудàк, дык кудак!
Пытаіцца ў курачкі:
— А ці так, а ці так?
Ку-ку! Ку-ку! (2)

## 147. ПАСЕЯЛІ ДЗЕЎКІ ЛЁН...

1. Пасеялі дзеўкі лён, (2)
Дзеўкі лён, (2)
Пасеялі дзеўкі лён.

2. Пасеяўшы, палолі, (2)
Палолі, (2)
Пасеяўшы, палолі.

3. Белы ручкі калолі, (2)
Калолі, (2)
Белы ручкі калолі.

4. Унадзіўся сівы конь, (2)
Сівы конь, (2)
Унадзіўся сівы конь.

5. Пацёр, памяў дзеўкін лён, (2)
Дзеўкін лён, (2)
Пацёр, памяў дзеўкін лён...

## 148. ЯК НА ГАРЫ КАЛІНА...

1. Як на гары каліна ды,
Пад гарою маліна ды,
А што-ж, каму шкада каліны ды,
Каму-ж якая ды шкада маліны.

2. Там дзяўчынка гуляла ды,
Там красуня гуляла ды,
А што-ж...

3. Калінушку ламала ды,
Малінушку ламала ды,
А што-ж...

4. Ва пучочкі вязала ды,
Ва пучочкі вязала ды,
А што-ж...

5. На дарожку брасала ды,
На дарожку брасала ды,
А што-ж...

6. Ехаў парань малады ды,
Ехаў парань малады ды,
А што-ж...

7. Гукнуў:—Дзяўчына, бывай ды,
Гукнуў:—Дзяўчына, бывай ды,
А што-ж...

## 149. ПА ЛУЖКАМ, ЛУЖКАМ...

1. Па лужкам, лужкам, лужкам
Разлівалася вада,
Эй-лі, эй, да люлі,
Разлівалася вада[1].

2. Разлівалася вада,
Рассцілалася трава,
Эй-лі...

[1] Апошнія два радкі—прыпеў паўтараецца.

3. Рассцілалася трава,
Расцвіталі ўсе цвіта,
Эй-лі...

4. Што па той-жа па траве
Дзеўкі водзюць карагод,
Эй-лі...

5. Усе дзеўкі харашы,
Красавіцы прыгажы,
Эй-лі...

6. Адна дзеўка крашы ўсіх,
Па прыбору луччы ўсіх,
Эй-лі...

7. Па прыбору луччы ўсіх,
Ў касе лента шыры ўсіх,
Эй-лі...

8. Падайду-ж я к карагоду,
Пакланюся я народу,
Эй-лі...

9. Падыйду я пабліжэй,
Пакланюся паніжэй,
Эй-лі...

10. — Раскажы-ка ты, дзяўчонка,
Як па бацюшку завуць?
Эй-лі...

## 150. ТАМ ЗА ЛЕСАМ, ТАМ ЗА ПЕРАВАЛАМ...

1. Там за лесам, там за перавалам[1],
Думала, думала, думала, падумала.

2. Там цыгане весела гулялі,
Думала...

3. Ліш адзін цыганчык не гуляіць,
Думала...

4. На цыганку скоса паглядаіць,
Думала...

5. — Дам табе я ключы залатыя,
Думала...

6. Атапры сундукі дубовыя,
Думала...

7. Даставай ты плацця шаўкавыя,
Думала...

8. Мы паедзем гуляць, танцаваці,
Думала...

9. Дзе баяры будуць любавацца,
Думала...

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 151. УСЕ ЛЮДЗІ СІДЗЯЦЬ, ГАВАРАЦЬ...

1. Усе людзі сідзяць, гавараць,
Што я мілага падлюбліваю,
Ай, ды люшанькі, люшанькі,
Што я мілага падлюбліваю.

2. Што я мілага падлюбліваю,
Што я міламу пірог іспякла,
Ай, ды люшанькі, люшанькі,
Што я міламу пірог іспякла.

3. Што я міламу пірог іспякла,
З аўсянай мукі, нясеянай,
Ай, ды люшанькі, люшанькі,
З аўсянай мукі, нясеянай.

4. З аўсянай мукі, нясеянай,
Ды мякінаю падмешанай,
Ай, ды люшанькі, люшанькі,
Ды мякінаю падмешанай.

## 152. ЗАІНЬКА, ТЫ ШЭРЫ МОЙ...

1. — Заінька, ты шэры мой,
Дзе-ж ты быў да прабываў?
— Быў я, быў я, мамачка,
Ды па падвалам, заінька,
Быў я, быў я, мамачка,
Ды па падвалам, заінька.

2. — Заінька, да шэры мой,
Што-ж ты там ды сам відаў?
— Відзеў, відзеў, мамачка,
Тры дзяўчынкі харашы,
Відзеў, відзеў, мамачка,
Тры дзяўчынкі харашы.

3. — Заінька, да шэры мой,
Хто там з іх да лепша ўсіх?
— Да Маруся удала,
А Кацюша хараша,
А Дуняша расцвяла.

4. — Заінька, да шэры мой,
Ці кармілі заіньку там?
— Ой, кармілі, мамачка,
Да Маруся ўсё блінцамі,
А Кацюша піражкамі,
А Дуняша тваражкамі.

5. — Заінька, да шэры мой,
Ці паілі заіньку там?
— Ой, паілі, мамачка,
Да Маруся ўсё піўцом,
А Кацюша ўсё вінцом,
А Дуняша ўсё мядком.

6. —Заінька, да шэры мой,
Раскажы, ці спаў ты там?
— Спаў я, спаў я, мамачка,
У Марусі ў палажку,
У Кацюшы на палу,
У Дуняшы на мяшку.

7. — Заінька, да шэры мой,
Як цябе правадзілі там?
— Правадзілі, мамачка,
Да Маруся памялом,
А Кацюша дзеркачом,
А Дуняша трапкачом.

## 153. Я МАЛЁШАНЬКІ...

1. Я малёшанькі
Ў маменькі ўрадзіўся,
Люлі, палюлі,
Ў маменькі ўрадзіўся,

2. Ой, няшчасны я,
Да я ажаніўся,
Люлі...

3. Як узяў я сабе
Жану маладую,
Люлі...

4. Як і вішаньку,
Ў саду зеляную,
Люлі ..

5. Як і яблычка,
Ў саду наліўное,
Люлі...

6. — То пайдзём, нягодны,
Ды к цесцю ў госці,
Люлі...

7. — Гасударыня жана,
Пойдзем хоць сягодні,
Люлі...

8. Не пашлі ў госці,—
Ў зялёную рошчу,
Люлі...

9. Прывязала негадзяя
Ка белай берозі,
Люлі...

10. А сама пашла
У пір піраваці,
Люлі...

11. Роўна дзевяць дзянёчкаў
Іна ні бывала,
Люлі...

12. На дзесяты дзянёчак
Іна прыхадзіла,
Люлі...

13. Негадзяем малодчыка
Менè называла,
Люлі...

14. — Харашо табе, нягодны,
Ў піру піраваці,
Люлі...

15. — Гасударыня жана,
Мéне не да піру,
Люлі...

16. Мне мурашачкі
Ножачкі стачылі,
Люлі...

17. Мне камарыкі
Плечыкі скусалі,
Люлі...

18. Мне салоўюшкі
Галоўку склювалі,
Люлі...

19. — Да ці будзіш, нягодны,
М'не хлебам карміці?
Люлі...

20. — Гасударыня жана,
Буду калачамі,
Люлі...

21. — Да ці будзеш, нягодны,
М'не квасам паіці?
Люлі...

22. — Гасударыня жана,
Я буду сытою,
Люлі...

23. — Да ці будзеш, нягодны,
М'не ў госці вадзіці?
Люлі...

24. — Гасударыня жана,
Ідзі, куды хочаш,
Люлі...

## 154. СТАРЭНЬКІ ДЗЕДКА ПА ГАРОДЗЕ ХОДЗІЦЬ...

1. Старэнькі дзедка
По гародзе ходзіць,
По гародзе ходзіць,
Канапельку сее.
Люшачкі, люшачкі, } 2
Люлі, люлі, люлі. }

2. Малада малодка
Ў варатах стаяла,
Ў варатах стаяла,
Галубоў зманяла.
Люшачкі...

3. — Шугі, галубы,
На каноплі к дзеду,
На дзедавы градкі,
Канапель кляваці.
Люшачкі...

4. Каб мне, младзенькай,
Канапель не браці,
Каб белых ручак
Да мне не мараці.
Люшачкі...

## 155. ЯК ПУШЧУ СТРАЛУ...

(„Страла“)

1. Як пушчу стралу
Да па ўсём сялу,
Вохі, вой, лёлі,
Да па ўсём ся[лу.

2. Ты ідзі, страла,
У канец сяла,
Вохі, вой, лёлі,
У канец сял[а.

3. А ты, ластаўка,
Ты касістая,
Вохі, вой, лёлі,
Ты касістая.

4. Ты касістая,
Грабяністая,
Вохі, вой, лёлі,
Грабяністая.

## 156. У МАЙГО ТАТАЧКІ...

(„Страла“)

1. Ў майго татачкі
Двор над гарою,
Вохі, вой (і),
Ой (і) да люлі, двор над гарой.

2. Двор над гарою,
Сад над вадою,
Вохі, вой (і),
Ой (і) да люлі, сад над вадой.

3. — Пусці, татачка,
Ў сад пагуляці,
Вохі, вой (і),
Ой (і) да люлі, ў сад пагуляць.

4. Я й ні буду тваіх
Вішаняк ламаць,
Вохі, вой (і),
Ой (і) да люлі, вішаняк ламаць.

5. Хоць і выламлю
Вінаградачку,
Вохі, вой (і),
Ой (і) да люлі, вінаградачку,

6. Свайму татачку
На парадачку,
Вохі, вой (і),
Ой (і) да люлі, на парадачку.

# 2. ТАНЦЫ

## 157. ЛЯВОНІХА

1\. Ай, Лявоніха, Лявоніха мая, } 2
Ніхай цябе чорт любіць, да ні я. }
Ай, гдзе-ж тыя кавалёнкі жывуць,
Што новыя тапаронкі куюць?
Куюць, куюць да падварываюць,
Нашых дзевачак падманюваюць.

2\. Ай, Лявоніха, Лявоніха мая, } 2
Нісалёная капуста твая. }
Ліха мачыха на пасынка была,
Нісалёную капусту дала.
А пасынка дык і чорт не бярэ,
Нісалёную капусту жарэ.

## 158. ШАСТАК

Шэсць дзён малаціла,
Шастак зарабіла,
Сама сабе дзівавала,
Што так мала зарабляла.

## 159. ВЕРАБЕЙ

1\. Чы-чы, чы-чы, верабей!
Не клюй маіх канапель!
А я-ж тому вераб'ю } 2
Колам ногі пераб'ю. }

2\. А на тоя цел(і)ца
Вытку палацен(ы)ца,
А на тую ножку } 2
Куплю я панчошку. }

3\. Пад згародку падкіну,
Чарапочкам накрыю.
А я-ж таму вераб'ю } 2
Колам ногі пераб'ю. }

4\. А на тоя цел(і)ца
Вытку палацен(ы)ца,
А на тую ножку } 2
Куплю я панчошку. }

## 160. КОЛА
## 161. КРУЖАЧОК
## 162. ТАЎКАЧЫКІ

1. Гэй, гэй, таўкачыкі!
Гэй, гэй, дубовыя!
Гэй, гэй, дубовыя,
На работу гатовыя!

2. Сем год бадзяліся,
Ў адну ступу сабраліся.
Гэй, гэй, таўкачыкі!
Гэй, гэй, дубовыя!

## 163. ЮРАЧКА

1. Ах ты, Юрачка,
Што ні жэнісся,
Прыдзе зімачка, —
Куды дзенісся?
Што ты, Юрачка,
Азіраісся,
Палюбіць каго
Сабіраісся?
Ты напрасна не хадзі,
Доўга дарма не глядзі,
Ах ты, Юрачка,
Што ні жэнісся?

2. Ах ты, Юрачка,
Што сутулісся,
У каго зімой
Ты прытулісся?
На каго-жа ты
Тут любуісся,
Ночкай цёмнаю
Ты цалуісся?
Ты напрасна не хадзі,
Доўга дарма не глядзі.
Ах ты, Юрачка,
Што сутулісся?

## 164. ПАДУШАЧКА

1. Падушачка, падушачка,
Мая пухавая,
Малодачка, малодачка,
Мая маладая.

2. Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалую,
Пухавую падушачку
Таму падарую.

3. Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі позна,
Параскідаў, параскідаў
Падушачкі розна.

4. Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі з места,
Паскладаў ён, паскладаў ён
Падушачкі ў места.

5. Я і рыбачку лавіла,
Я і шатравала;
Каго верненька любіла,
Таго цалавала.

6. У каго-жа чорны вусок,
Таму рыбкі кусок,
Ў каго рыжая барода
Таму рыбкі шкода.

## 165. ГАЛУБЕЦ
## 166. ЖУРАВЕЛЬ
## 167. ТРАСУХА

А ты, руды, хадзі сюды,
А ты, чорны, стоі там!
А я з рудай разбяруся, } 2
А да чорнай прыду сам. }

## 168. ПОЛЬКА

Дзяўчынонька,
Люблю цябе,
Ня еж хлеба—
Вазьму цябе.

Дзяўчына
Паслухала,
Тры дні хлеба
Не кушала...

## 169. АНТОН МАЛАДЗЕНЬКІ

1. Антон маладзенькі
Піў мёд саладзенькі,
Антоніха прыбягала,
Свайму мужу падсабляла.

2. Антон казу вядзець;
Тпру! Ну! Каза няйдзець,
Антоніха падсабляла,
Казу ззаду падпіхала.

3. А ты, каза, стой, стой!
А ты казу дой, дой!
А я казу кулаком,
Ідзі сабе з малаком.

## 170. КАДРЫЛЬ

### I калена

1. Я па жэрдачкі йшла,
Я й па новін(і)кай,
Я й па новін(і)кай,
Па цясовін(і)кай.

2. Пашла Дуня за вадой,
За халоднай, ключавой,
Пашла Дуня за вадой,
За халоднай ключавой.

### II калена

1. Чыѐ гэта гусі
Грэчку паелі,
На сіняе мора } 2
Піць паляцелі.

2. Ты, дзева̀чка-душка,
Параймі-ка гу́ска,
Параймy, параймy, } 2
Што каму за дзела?

3. Ты дзевачка-душка,
Пацалуй-ка, душка,
Тую, тую бародачку, } 2
Тую, тую залатую.

### III калена

Так, сяк мне да вечара дабыць,
Сы веча̀ра мой міленькі прыбяжыць.
Я-ж яго на калені пасаджу,
Я-ж яму ўсю праўду скажу.

### IV калена

1. Трэба дзежку мясіць,
Па цялятак ііціць,
А йдзе міне, маладой,
Васіля найціць?
Васіль, Васілёк,
Баравоя зелля,
А хто любя Васіля,
То самая шэльма.

2. Пад шубаю,
Пад белаю,
Прыду дамоў,
Раздзелаю.
Раздзелывала,
Раскамарывала,
З хлопцамі маладымі
Разгаварывала.

V калена (лявоніха)

VI. „Галоп“

### 171. КАДРЫЛЬ (казачковая)

1. А ці я ня дзеўка,
Ці я не паненка,—
Рукі, як бічоўкі,
Ногі, як начоўкі.

2. А ці я ня дзеўка,
Ці я не паненка,—
Спадніца ў кру́жкі,
Чатыры падушкі.

3. А ці я ня дзеўка,
Ці я не паненка,—
Хвартух у ёлкі,
У чатыры полкі.

4. А ці я ня дзеўка,
Ці я не паненка,—
І спаднічка ў ра̀дно,
Я з мордачкі ла̀дна.

### 172. МІКІТА

(„Кадрыль Петкевіча“)

1. А Мікіта жыта носіць,
Мікіціха дзяжу месіць.
Мікіта, Мікіта,
Клінам шуба сашыта. } 2

2. А Мікіта кучу веіць,
Мікіціха муку сеіць.
Мікіта, Мікіта,
Клінам шуба сашыта. } 2

3. А Мікіта дровы сячэць,
Мікіціха есці нясець.
Мікіта, Мікіта,
Клінам шуба сашыта. } 2

## 3. ПРЫПЕЎКІ

### 173. ВА САДОЧКУ, ВА ЗЯЛЁНЫМ...

1. Ва садочку, ва зялёным
Травушка памятая;
Не работа мяне з'ела,
А любоў праклятая.

2. Ка мне птушка прыляцела,
Пісьмяцо мне прынясла,—
Яна села на калені
І з паклонам аддала.

### 174. ЯК ПАЙШОЎ МІЛЫ КАСІЦЬ...

1. Як пайшоў мілы касіць ды
Папрасіў кальцо насіць.
Мілы косіць, кальцо носіць,
А мне совесна спрасіць.

2. — Ах ты, міленькі-сярдзечка,
Дзе падзеў маё калечка,—
Ці у моры, ці ў рацэ,
Ці ў дзяўчонкі на руцэ?

3. — А не ў моры, не ў рацэ,
А не ў дзеўкі на руцэ,
Ды не ў дзеўкі на руцэ,
А ў каваным сундуке.

### 175. А БОЖА МОЙ, ТОЛЬКІ...

1. А божа мой, толькі
Аборачкі тонкі;
Ніхто замуж не бярэць, } 2
Аборачак не псуець. }

2. Мой мужык Дамінік,
Яго розум невялік,
Як была я дзеўкай, } 2
Цяпер маладзічкай. }

3. Добра быць замужам,
Ды не за п'янічкай.
Сякі-такі абы быў, } 2
Солі, хлеба каб купіў. }

4. Такі-сякі мужчына,
За ім дровы, лучына,
Як за яго завалюсь, } 2
Я нікога не баюсь. }

## 176. МОЙ МІЛЕНЬКІ ПАМЁР, ПАМЁР...

1. Мой міленькі памёр, памёр,
У каморы дуды запёр.

Прыпеў:

Ах, дуды, мае дуды,
Я, млада, туды, сюды.

2. Ўсяго чатыры нядзелі,
Як мы на дуды глядзелі.

Прыпеў.

3. Пайшоў хлопец па каморы, —
То ў прысядкі, то ў ладоні.

Прыпеў.

4. Пайшла ў клець да муку браці,
Найшла дуды, стала граці.

Прыпеў.

5. Стала я ды муку сеяць,
Стаў на дуды вецер веяць.

Прыпеў.

6. Стала блінцы расчыняці,
Сталі мае дуды граці.

Прыпеў.

7. Пяку блінцы і пячонку
Маладзенькаму хлапчонку.

Прыпеў.

## 177. А ПАЙШОЎ АПАНАС...

1. А пайшоў Апанас
Па гарэлачку для нас,
Зачапіўся за пень
І стаяў там цэлы дзень.
Пайшла жонка, адчапіла,
За гарэлку заплаціла.

2. — Ідзі, дурню, дадому
І не кажы нікому,
Што ты пляшку разбіў
І гарэлку разліў.
Прышла жонка, мужа біла,
Апанасу гаварыла.

3. Ой, ты, жонка ліха,
Жонка мая міла,
За што-ж біла мяне
Па гарбу, па спіне?
Куплю табе гарнец мёду
І поўгарца піва з лёду.

---

## ЗАЎВАГІ

**1. Ішла-пайшла сівая свіння...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай. Калядная песня.

**2. Вясна прышла...**

Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

Веснавая песня.

**3. Вясна красна...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Калініна, Лёзненскага р., Віцебскай вобл., ад калгасніцы М. Рысаковай, 55 г.

Веснавая песня.

**4. Крутое калясо круціцца харашо...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Варашылава, Чэрвенскага р., Мінскай вобл., ад калгасніц М. Варанько, 50 г., Т. Паўловіч, 60 г., і інш.

Веснавая песня.

**5. Ой, чаму ты, яліначка?...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай. Веснавая песня.

**6. Ой, пад дубам, дубам...**

Гл. № 5.

**7. Хадзіў, пахадзіў...**

Гл. № 5. Спявалася ў перыяд сяўбы.

**8. Вол бушуе...**

Зап. у в. Каляніца, Мінскай вобл.

Веснавая, „юраўская“ песня. Выконвалася на Юр'я (23. IV, ст. ст.) у часе першага, абрадавага выгану скаціны.

Веснавая песня.

**9. Да ляцела сойка...**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1936 г. у к-се ім. Сталіна, Чэрвенскага р., Мінскай вобл., ад калгасніцы Надзеі Паскробка, 30 г.

**10. Да ў лузі касец косіць...**

Зап. у 1912 г. у м. Крывічы, Вілейскага пав., Віленскай губ.

Касарская песня. Найбольш пашыраны варыянт.

**11. Салавейку маленькі...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у с. Трасцяніцы, Бельскага пав., Гродненскай губ., ад селяніна І. Казёл.

Летняя песня. Спяваюць, як полюць грады.

**12. Што ў полі далёка...**
Зап. у Чырвонапольскім р., Магілеўскай вобл. Спяваюць, як полюць.

**13. Ой, рана на Йвана...**
Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад дзяўчыны 14 г.
Купальская песня.

**14. Як пойдзем мы, дзеўкі...**
Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1936 г. у гар. пас. Лёзна, Віцебскай вобл., ад М. Свірскай, 50 г.
Купальская песня.

**15. На Івана ноч маленька...**
Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Варашылава, Чэрвенскага р., Мінскай вобл., ад калгасніц Прузыны Лаўрык, 63 г., і Тэклі Паўловіч, 60 г.
Купальская песня.

**16. Васіля мой, васілёчык...**
Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1936 г. у гар. пас. Лёзна, Віцебскай вобл., ад М. Свірскай, 50 г.
Купальская песня, карагодная.

**17. Ой, чабор мой зялёны...**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.
Купальская песня.

**18. Ой, бору мой...**
Гл. № 17.

**19. Ды я жала да вечара...**
Зап. у Чэрвенскім р., Мінскай вобл.
Жніўная песня прыгоннай эпохі.

**20. Пара, жонкі, дамоў ісці...**
Зап. у г. Мсціслаўлі ад М. Васілеўскай.
Жніўная песня. Напеў нетыповы.

**21. Да з зялёнага гаю...**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.
Жніўная, „жытняя“ песня. Адзін з найбольш пашыраных жніўных напеваў.

**22. Што-ж ты, сонца?..**
Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Калініна, Лёзненскага р., Віцебскай вобл., ад калгасніцы М. Рысаковай, 55 г.
Жніўная песня.

**23. Не пайду дамой...**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.
Жніўная, „жытняя“ песня.

**24. А ў полі жыта не ярыцца...**
Зап. у Віленскай губ.
Жніўная песня.

**25. Ветрычык пышыць...**
Зап. у Магілеўскай вобл.
Жніўная песня.

**26. Чыя-ж то пшаніца?..**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у с. Трасцяніцы, Бельскага пав., Гродненскай губ., ад селяніна І. Казёл.
Жніўная, „ярная“ песня.

**27. Ой, я ў полі лянок брала...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Калініна, Лёзненскага р., Віцебскай вобл., ад калгасніцы М. Рысаковай, 55 г.

Ільняная песня, пяецца на ўборцы ільну.

**28. Каціўся вяночак з поля...**

Зап. у Рудзенскім р., Мінскай вобл., ад настаўніка В. С. Гарбацэвіча.

Дажынкавая песня.

**29. Кругло, мало...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Дажынкавая песня; спяваецца пасля заканчэння ўборкі азімых.

**30. Пайду я, молада, каля Дунаю...**

Зап. у 1912 г. у с. Гутора, Ластоўскай вол., Віленскай губ.

Талочная песня.

**31. Цікла рэчка праз мясцечка...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Талочная песня.

**32. Я ўчора, малада...**

Гл. № 31.

Хрэзбінская песня.

**33. У майго брацiткі бяседачка...**

Гл. № 31.

Хрэзбінская песня.

**34. На забор сасна пахілілася...**

Зап. у с. Машкова, Аршанскага р., Віцебскай вобл.

Хрэзбінская песня.

**35. Да было ў бабкі...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Хрэзбінская песня. Выконвалася пры раздачы „бабінай кашы".

**36. У страсе кукавала зязюля...**

Зап. у 1926 г. у в. Гарадзішча, Быхаўскага р., Магілеўскай вобл., ад Ф. Мельнікава, студэнта.

Вясельная песня; на заручыны.

**37. Цы ў нядзелю раненька...**

Зап. там-жа (гл. № 36) ад М. Казловай.

Вясельная песня; на заручыны.

**38. Ой, ляцелі гусачкі цераз сад...**

Зап. у 1929 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка Лукашэнкі А.

Вясельная песня; у часе абраду пасада нявесты.

**39. Да дубу, зязюля, да дубу...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Вясельная песня; у хаце бацькоў нявесты перад ад'ездам да вянца.

**40. Хвалілася каліначка за ракой...**

Гл. № 39.

Вясельная песня; пасля прыезду маладых ад вянца.

**41. Чаму, зязюля, не кукавала?..**

Зап. у г. Мсціслаўлі ад М. Васілеўскай.

Вясельная песня.

**42. А й зялёная ліпа...**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1947 г. ад калгасніцы Анастасіі Гулевіч, 40 г., з в. Рудня-Сталбунская, Свяцілавіцкага р., Гомельскай вобл.

Вясельная песня; пасля вянца.

**43. А хваліўся сват...**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат ад той-жа (гл. № 42).

Вясельная песня; да свата.

**44. Аддалі мяне, забылі мяне...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Вясельная песня; пры ад'ездзе маладой у дом мужа.

**45. Улажы, каліна, жоўты цвет...**

Зап. у г. Мсціслаўлі ад М. Васілеўскай.

Вясельная песня; пры ад'ездзе маладой у дом мужа.

**46. Да выйдзім мы, да паслухаім...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Вясельная песня; выконваецца дружынай маладога, калі ён прыбывае разам з маладой і з пасагам у свой дом.

**47. Адчыні, матулька, варота...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў там-жа (гл. № 46).

Вясельная песня; выконваецца дружынай маладой, прыбыўшы ў дом маладога, адказ на папярэднюю песню.

**48. Ой ты, дуб-дубіна...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Варашылава, Чэрвенскага р., Мінскай вобл., ад Прузыны Лаўрын, 63 г., і іншых старых калгасніц.

Песня прыгоннай эпохі.

**49. Ой, запей, сірата...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай вобл., ад А. Жаўнерчык, 50 г., і інш. калгасніц.

**50. Ой, на моры да й на сіняньскім...**

Зап. у 1908 г. у Радашковіцкай вол., Вілейскага пав., Віленскай губ.

Адносіцца да катэгорыі т. зв. „разбойніцкіх“ песень.

**51. Зялёны дубочак на ель пахіліўся...**

Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

Спявалася пераважна бурлакамі і чумакамі.

**52. Да ў роднага братачкі...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай вобл., ад Ліды Данільчык, 25 г., і інш. калгасніц.

**53. Як сяду-ж я пад вакошачкам прасці...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Калініна, Лёзненскага р., Віцебскай вобл., ад М. Рысаковай, 65 г., і інш. старых калгасніц.

**54. Прывыкайце, чорны вочы...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай вобл. ад Альжбеты Жаўнерчык, 55 г., і інш. старых калгасніц.

**55. Кукавала ды кукулечка...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Навасёлкі, Пухавіцкага р., Мінскай вобл., ад калгасніц Мар'і Андросік, 45 г., і Мар'і Юшкевіч, 56 г.

**56. Ой, ляцелі гускі...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай вобл., ад Альжбеты Жаўнерчык, 55 г., і інш. старых калгасніц.

**57. Устань, устань, мая матушка...**
Зап. у 1910 г. у г. Трокі, Віленскай губ.
Рэкруцкая песня.

**58. Чула, чула мая доля...**
Зап. у 1911 г. у Лідскім пав., Віленскай губ.
Рэкруцкая песня.

**59. А ў лузі, лузі...**
Зап. у 1911 г. у Ашмянскім пав., Віленскай губ.
Рэкруцкая песня.

**60. Зашумела дубровачка зялёная...**
Зап. у 1911 г. у Навагрудскім пав., Мінскай губ.
Рэкруцкая песня.

**61. Зашумела дубровушка зялёная...**
Зап. там-жа (гл. № 60).

**62. Ды на нашым гародзе...**
Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.
Рэкруцкая песня.

**63. Развівайся, сыры дубе...**
Зап. у 1909 г. у Ашмянскім пав., Віленскай губ.
Рэкруцкая песня.

**64. У канцы садзіку зялёнага...**
Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Навасёлкі, Чэрвенскага р., Мінскай вобл., ад Мар'і Андросік.
Рэкруцкая песня.

**65. Ой, ва садзе, садзе...**
Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай вобл., ад Прузыны Раманоўскай, 50 г., і інш. калгасніц.
Рэкруцкая песня.

**66. Не пыліце, ветрыкі...**
Зап. у 1923 г. у в. Гарадзішча, Быхаўскага р., Магілеўскай вобл., ад М. Казловай.
Салдацкая песня.

**67. Сізенькой галубчык...**
Зап. у 1911 г. у Лідскім пав., Віленскай губ.
Салдацкая песня.

**68. Ой, вярба мая, ты зялёная...**
Зап. у 1908 г. у Радашковіцкай вол., Вілейскага пав., Віленскай губ.
Салдацкая песня.

**69. Ты каліна, маліна...**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у в. Трасцяніцы, Бельскага пав., Гродненскай губ., ад селяніна І. Казёл.
Салдацкая песня.

**70. Удоль па вулкі ходзіць Ваня...**
Зап. у 1921 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобласці.
Салдацкая песня. Тэкст няпоўны.

**71. Падай, падай, беленькі малойчык...**
Зап. у 1925 г. у г. Магілеве ад настаўніцы А. Чамаданавай. Тэкст няпоўны.
Салдацкая песня.

**72. Ой ты, поле маё...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Сталіна, Чэрвенскага р., Мінскай вобласці, ад Лукер'і Пархомчык, 50 г., і інш. калгасніц.

Салдацкая песня.

**73. У чыстым полі яліначка...**

Зап. у 1917 г. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

Салдацкая песня.

**74. Памёр, памёр салдаціку...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у к-се ім. Сталіна, Чэрвенскага р., Мінскай вобл., ад Лукер'і Пархомчык, 50 г., і інш. калгасніц.

Салдацкая песня.

**75. Ой, як і ехаў казак на даліну...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у гар. пас. Лёзна, Віцебскай вобл., ад Арыны Селазнёвай, 25 г., і Матроны Свірскай, 50 г.

Пашыраная салдацкая песня літаратурнага паходжання. Першапачатковы тэкст належыць паэту Е. П. Грэбінка (1812—1848).

**76. Люлі, люлі, люлі...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Сенненскім пав., Магілеўскай губ.

Калыханка.

**77. Не хадзі, коцік, па лаўцы...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Гомельскім пав.

Калыханка.

**78. Ладкі-ладушкі...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл. ад дзеваўкі г. 14.

Забаўка для дзяцей.

**79. Сядзіць камар на дубочку...**

Зап. у 1926 г. у Аршанскім р., Віцебскай вобл., ад дзяўчыны.

Дзіцячая песня.

**80. Камар лазню тапіў...**

Зап. там-жа (гл. № 79)

**81. Саўка ды Грышка ладзілі дуду...**

Зап. у 1910 г. у Гродненскай губ.

Адносіцца да калядных песень, якая, аднак, адарвалася ад абраду іператварылася ў песню дзіцячую.

**82. Вой, я хаджу, пахаджаю...**

Зап. у 1912 г. у Лідскім пав., Віленскай губ.

Тэкст няпоўны.

**83. Ой, развілася зялёна дуброва...**

Зап. у с. Буйнічы, Магілеўскай вобл., ад Зінаіды Чэпікавай.

Напеў тыповы для катэгоры салдацкіх песень.

**84. Ой, стаяла яліначка...**

Зап. у 1912 г. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

Тэкст няпоўны.

**85. Дубровачка, ой, зеляная...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**86. Ужо я ўстану раненька...**

Зап. там-жа (гл. № 85).

**87. А ў полі вярба...**

Зап. у 1911 г. у Лідскім пав., Віленскай губ.

**88. А белая лябёдачка...**

Зап. у 1921 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад дзевачкі г. 14.

Тэкст няпоўны.

**89. А як зарадзіла...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у в. Заулкі, Дзісненскага пав., Віленскай губ., ад Анны Вікенцьевай.

Тэкст няпоўны.

**90. А ў полі дуб, дуб...**

Зап. у 1912 г. у Ашмянскім пав., Віленскай губ.

**91. Пазволь, пазволь, маці...**

Зап. у 1946 г. у г. Мінску, ад Галі Апанашчык, 27 г., з Старобінскага р., Бабруйскай вобл.

**92. Зялёны дубочак...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**93. Ці ўсе лугі пакошаны?..**

Зап. у 1908 г. у Гродненскім пав., ад селяніна.

**94. Не агонь гарыць, не вада кіпіць...**

Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

**95. Ай, божа мой, божа...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**96. Ой, рэчанька, рэчанька...**

Зап. у Ашмянскім пав., Віленскай губ.

**97. Пашоў Ясь наш на лужок...**

Зап. у Лідскім пав., Віленскай губ.

**98. Пацярала я калечка...**

Зап. у 1921 г. у в. Радзіёнаўка, Мсціслаўскага р., Магілёўскай вобл., ад селяніна Васіля Макарэвіча, 36 г.

Адносіцца да катэгорыі народных рамансаў літаратурнага паходжання. Першапачатковы тэкст належыць пяру рускага паэта XIX ст. М. Ожэгава. Песня ў розных варыянтах пашырана на Беларусі.

Тэкст няпоўны.

**99. Вечарком за рэчкаю...**

Зап. у 1926 г. у г. Магілеве ад студэнта Кірыла Ганчарова.

Пелася студэнтамі. Адзін з узораў савецкіх дзявочых лірычных песень 20-х гг.

**100. Да ўжо сонейка...**

Зап. у 1911 г. у Вілейскім пав., Віленскай губ.

**101. Прыляцела галка...**

Зап. там-жа (гл. № 100).

**102. А хто ўдваёх, а хто ўтраёх...**

Зап. у 1912 г. у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад пажылой сялянкі.

Бяседная песня.

**103. Салавейка лугавы...**

Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

**104. Чырвоная калініца ўвесь свет акрасіла...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**105. Божа-ж мой, спаці хачу...**

Зап. у 1909 г. у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад старой сялянкі.

**106. Бярозка мая кудравістая...**

Зап. там-жа (гл. № 105).

**107. Як у полі буен вецер вее...**

Зап. 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**108. Пайду я, малада, па ваду...**

Зап. у 1926 г. у гор. Копысь, Магілеўскай вобл.

**109. Ой, пайду я лугам, лугам...**

Зап. у 1910 г. у Ашмянскім пав., Віленскай губ.

**110. Ой, хадзіў-жа ўсё малойчык...**

Зап. у в. Дукора, Рудзенскага р., Мінскай вобл., ад Мар'і Жыдсвіч.

**111. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю...**

Зап. у м. Дуброўна, Аршанскага пав., Магілеўскай губ.

**112. Ой, прала-б я кудзельку...**

Зап. у 1925 г. у Быхаўскім р., Магілеўскай вобл.

**113. Я ўчора ў піру была...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.
Бяседная песня.

**114. Ох вы, дзевачкі, падружачкі мае...**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1947 г. ад калгасніцы Анастасіі Гулевіч, 40 г. з в. Рудня-Сталбунская, Свяцілавіцкага р., Гомельскай вобл.

**115. Ды п'яна я, ой, валюся...**

Зап. у 1912 г. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.
Бяседная песня. Тэкст няпоўны.

**116. Запражэце, запражэце...**

Зап. у 1929 г. у в. Верхнія Тошчыцы, Быхаўскага р., Магілеўскай вобл.

**117. Я—калгасніца маладая...**

Зап. у 1936 г. у к-се „Чырвоны маяк", Лёзненскага р., Віцебскай вобл., ад Мар'і Савіцкай і інш. калгасніц.

Папулярная калгасная песня. Узор фальклярызацыі песні лiтаратурнага паходжання: словы Я. Купалы, музыка Н. Н. Чуркіна.

**118. Узышоў месяц і зара...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Пілiпенкавай.

Тэкст запісаны не да канца. Як адзначае Раманаў, „далей следуе легенда аб паходжанні травы „Брат і сястра". („Бел. зб.", VII, с. 33). Мяркуючы па гэтаму, песня адносіцца да даўніх купальскіх. Страціўшы сувязь з абрадам, ператварылася ў бяседную.

**119. А ў бару сасна калыхалася...**

Зап. у 1909 г. у Навагрудскім пав., Мінскай губ.

**120. Ой, цёмна ночка, ды ня віднa была...**

Зап. у в. Дукоры, Рудзенскага р., Мінскай вобл., ад М. Жыдовіч.

**121. Сярод двара стаіць крыльцо...**

Зап. у 1904 г. у г. Каунасе ад пажылой сялянкі.

**122. Ой, у полі, полі не дым, не туман...**

Зап. у 1908 г. у Радашковіцкай вол., Вілейскага пав., Віленскай губ.
Шырока бытавала ў салдацкім песенным рэпертуары.

**123. Ехалі салдацікі...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у гар. пас. Лёзна, Віцебскай вобл., ад работніцы А. Селязнёвай, 25 г.

Салдацкая песня.

**124. Ажаніла маці...**

Зап. у 1925 г. у с. Буйнічы, Магілеўскай вобл.

**125. Мела матуля аднаго сына...**

Зап. у 1923 г. у Мсціслаўскім р., Магілеўскай вобл.

**126. Ах ты, дуй, ах ты, дуй...**

Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

**127. Пайшла Улляна...**

Зап. у 1946 г. у г. Мінску ад Галі Апанашка, 27 г., са Старобінскага р., Бабруйскай вобл.

**128. Ты нашто, маці, па сенечках хадзіла?...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**129. Не йдзі мастом, бярэзінкаю...**

Зап. у 1911 г. у Лідскім пав., Віленскай губ.

**130. Цераз лясочак, лясочак...**

Зап. там-жа (гл. № 129).

**131. Сею рэдзьку...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай вобл., ад калгасніцы Агаты Верамейчык, 60 г.

**132. Хлопец пашаньку пахае...**

Зап. у 1908 г. у Ашмянскім пав., Віленскай губ.

**133. Мамачка, жыватоқ баліць...**

Зап. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад М. Васілеўскай.

**134. У гародзе за млыном...**

Зап. у 1911 г. у Лідскім пав., Віленскай губ.

**135. А сказалі пра мяне, маладзіцу...**

Зап. у 1925 г. у Лепельскім р., Віцебскай вобл.

**136. Замуж пайсці, трэба знаці...**

Зап. у Мінскім пав.

**137. Каб я сваю долю знала...**

Зап. у 1912 г. у в. Рыбіна, Віленскага пав.

**138. Як пайшоў Халімон...**

Зап. 1909 г. у в. Гаішча, Радашковіцкай вол., Вілейскага пав., Віленскай губ.

**139. А пад лесам курыць, курыць...**

Зап. у 1921 г. у в. Радзіёнаўка, Мсціслаўскага р., Магілеўскай вобл., ад селяніна В. Макарэвіча.

**140. У гародзе пшанічанька, ды не кукуруза...**

Зап. ад таго-ж (гл. № 139).

**141. Захацела бабусінька ды разбагацеці...**

Зап. у 1926 г. у г. Магілеве.

**142. Добры вечар, гаспадынька мая!..**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

**143. А дзе быў ты, дзядулька мой?..**

Зап. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

**144. Застучы, мая дубінка...**
Зап. у 1923 г. у Мсціслаўскім р., Магілеўскай вобл.

**145. Дзявочкі, пралесачкі... („Цярэшка")**
Тэкст зап. і апісанне зрабіў Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ.
„Цярэшка" ці „Жаніцьба Цярэшкі"—гульня, якая праводзілася ў калядныя вечары ў хаце.

Падаем апісанне гульні згодна Е. Р. Раманава („Бел. зб.", VII, с. 41—42):

У адзін з калядных вечароў моладзь збіраецца да якога-небудзь гаспадара, у каторага пpасторная хата з падлогай. Дзяўчаты прыносяць закуску... а хлопцы ў складчыну купляюць гарэлку, піва і наймаюць музыку. Затым, з прысутных жанатых мужчын і замужніх жанчын выбіраюцца „бацька" і „матка". Дзяўчаты садзяцца асобна ад хлопцаў. „Матка" распытвае (сакрэтна), каго ім даць у мужы, а „бацька" ў той-жа час даведваецца ад хлопцаў, каму якую дзяўчыну пажадана ўзяць.

Моладзь вельмі энергічна адстойвае свае сімпатыі, і гэтыя папярэднія змовіны працягваюцца некалькі гадзін.

Пасля заканчэння перагавораў „бацька" з „маткай" танцуюць „крутуху". Затым „бацька" выводзіць хлопца на сярэдзіну хаты. „Матка" спявае (куплет 2-гі). Дзяўчаты адказваюць (куплет 3-ці).

„Матка" выбірае адну з дзяўчат і выводзіць да хлопца. Пры гэтым „матка" танцуе з дзяўчынай, а „бацька" з хлопцам. Потым дзяўчына ўручаецца хлопцу са словамі: „Глядзіце-ж, дзеткі, жывіце хораша, друг друга шануйце, не абіжайце" і г. д. Гэта жаніцьба: хлопец становіцца „дзедам", г. зн. мужам, а дзяўчына „бабай", г. зн. жонкай. Пратанцаваўшы „крутуху", новажоны садзяцца на лаву, а „бацька" з „маткай" жэняць наступную пару, і г. д., пакуль пераженяць усіх. Тады першая пара выходзіць на сярэдзіну хаты, хлопец і дзяўчына адзін супроць другога, хлопец спіной да дзвярэй, а дзяўчына—да пярэдняй сцяны. За імі, такім-жа чынам, становяцца і астатнія пары, дзяўчына за дзяўчынай, хлопец за хлопцам. Ролі „бацькі" і „маткі" скончаны. Дзяўчына апошняй пары выходзіць з раду ў левы бок, хлопец апошняй пары пачынае яе лавіць, выступаючы са свайго раду ў правы бок. Калі хлопец зловіць дзяўчыну, яны танцуюць вакол стаячых, а затым дзяўчына ловіць хлопца. У гэты час і спяваюцца паасобныя часткі песні. Напр., калі дзяўчына ловіць хлопца,—куплет 4-ты, калі хлопец ловіць дзяўчыну,—куплет 5-ты. Калі хлопец злавіў дзяўчыну і яны танцуюць, спяваюць куплет 6-ты.

Пацалаваўшыся, пара становіцца ў сярэдзіну раду; лавіць пачынае наступная пара і г. д. Астатнія пары ў гэты час прытоптваюць у такт і пляскаюць у далоні. Гульня аканчваецца, калі пераловяцца ўсе пары. Пасля гэтага вячэраюць і парамі разыходзяцца дадому.

**146. Зязюля...**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленск. губ., ад сялянкі Піліпенкавай.
Песня суправаджае зімнюю гульню „ў зязюльку".

Гуляючыя становяцца ў адзін рад, адзін супроць другога, хлопцы з аднаго канца раду, дзяўчаты—з другога. Калі пачынаецца песня, хлопец і дзяўчына, якімі канчаецца рад з супроцьлеглых канцоў, выходзяць з раду, адзін налева, другі направа, і пачынаюць лавіць адзін аднаго. Спачатку хлопцы ловяць дзяўчат, а пасля дзяўчаты—хлопцаў, прытанцоўваючы ў такт песні, а пры слове „Ку-ку!" пацаюць цераз рад адзін аднаму рукі. (Е. Р. Раманаў, „Бел. зб.", VII, с. 42).

**147. Пасеялі дзеўкі лён...**
Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.
Карагодная песня.

**148. Як на гары каліна...**
Зап. ад таго-ж (гл. № 147).
Карагодная песня.

**149. Па лужкам, лужкам...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у г. Беліца, Магілеўскай губ.

Карагодная песня. Пачынаючы карагод, у кругу ходзіць хлопец і выбірае дзяўчыну. Пры словах „Адна дзеўка крашы ўсіх" хлопец падыходзіць да дзяўчыны і здымае шапку; калі спяваюць „Пакланюся я народу... Пакланюся я ніжэй", ён кланяецца дзяўчыне, і яна выходзіць у круг.

**150. Там за лесам, там за пераваламм...**

Зап. у 1912 г. у Дзісненскім пав., Віленскай губ.

Карагодная песня.

**151. Усе людзі сідзяць, гавараць...**

Зап. у 1923 г. у г. Мсціслаўлі, Магілеўскай вобл., ад настаўніка А. Лукашэнкі.

Карагодная песня.

**152. Заінька, ты шэры мой...**

Тэкст зап. І. А. Сербаў у 1936 г. у в. Новае Лядцо, Пухавіцкага р., Мінскай губ.. ад калгасніцы Агаты Жаўнерчык, 30 г.

Карагодная песня.

**153. Я малёшанькі...**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у гор. Беліца, Магілеўскай губ.

Карагодная песня. У кругу ходзіць хлопец і ў роспачы ламае рукі. Пры словах „Як узяў я сабе жану маладую" ён паклонам запрашае ў круг дзяўчыну. Калі спяваюць „Прывізала негадзяя", дзяўчына ахватвае хлопца хусткай і канцы яе дае трымаць падлетку-дзяўчынцы, спецыяльна вызванай для гэтага ў круг. Пры словах „А сама пашла ў пір піраваці" дзяўчына пачынае расхаджваць па кругу, у той час, як хлопец, крыўляючыся „ад болю", адганяе камароў і г. д. Канечную размову „жонка" вядзе сурова, з пагрозамі; „муж" адказвае ёй пакорліва, з паклонам. („Бел. зб.", VII, с. 26).

**154. Старэнькі дзедка па гародзе ходзіць...**

Зап. у г. Мсціслаўлі, ад М. Васілеўскай.

Кагародная песня.

**155. Як пушчу стралу... („Страла").**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1947 г. ад калгасніцы Анастасіі Гулевіч, 42 г. з в. Рудня-Сталбунская, Свяцілавіцкага р., Гомельскай вобл.

Карагодная, „вяснянàя песня". Раней суправаджала аграрна-магічны веснавы абрад „пахавання стралы". Адарваўшыся ад абрада, песня ператварылася ў карагодную, якую выконвалі ад вялікадня да ўшэсця.

**156. У майго татачкі... („Страла").**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, ад той-жа (гл. № 155).

Другі ўзор карагоднай песні, якая раней выконвалася пры абрадзе „пахавання стралы".

**157. Лявоніха.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў.

Найбольш папулярны беларускі нацыянальны танец. Прыпеваў да яго існуе многа.

**158. Шастак.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў.

Пашыраны на Беларусі народны танец-кола. Прыпеў паўтараецца некалькі разоў, то павольна, то хутка; адпаведным чынам кружыцца і кола.

**159. Верабей.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў.

Народны танец-кола. Тэкст паўтараецца некалькі разоў.

**160. Кола.**

Зап. у 1925 г. у Горацкім р., Магілеўскай вобл.

Тэкст-прыпеў не запісаны. Найгрыш на скрыпцы.

**161. Кружачок.**

Зап. там-жа (гл. № 160).

Народны танец-кола. Тэкст-прыпеў не запісаны. Найгрыш на скрыпцы.

**162. Таўкачыкі.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Народны танец. Для выканання гэтага танца на падлозе кладуць дзве лучыны крыж-на-крыж. Не закранаючы лучынак, танцорка на насках робіць па ў правым ніжнім вуглу, затым пераходзіць у левы верхні, адсюль яна пераступае ў левы ніжні, а затым у правы верхні, і зноў у такім парадку: $\frac{2\ \ 4}{3\ \ 1}$ (Е. Раманаў, „Бел. зб.", VII, с. 39).

**163. Юрачка.**

Зап. у Горацкім пав., Магілеўскай губ.

Народны тэатралізаваны танец-карагод.

**164. Падушачка.**

Зап. у м. Халопенічы, Барысаўскага пав., Мінскай губ.

Народны танец.

**165. Галубец.**

Зап. у 1921 г. у в. Радзіёнаўка, Мсціслаўскага р., Магілеўскай вобл., ад селяніна В. Макарэвіча.

Народны танец. Тэкст-прыпеў не запісаны. Найгрыш на скрыпцы.

**166. Журавель.**

Зап. у Вілейскім пав., Віленскай губ.

Народны танец. Тэкст-прыпеў не запісаны.

**167. Трасуха.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў.

Народны танец тыпу „полькі". Прыпеваў многа.

**168. Полька.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў.

Танец.

**169. Антон маладзенькі.**

Зап. у 1925 г. у в. Дукора, Рудзенскага р., Мінскай вобл., ад настаўніка В. Гарбацэвіча.

Танец.

**170. Кадрыль.**

Тэкст зап. М. Я. Грынблат у 1947 г. ад калгасніцы Анастасіі Гулевіч, 42 г. з в. Рудня-Сталбунская, Свяцілавіцкага р., Гомельскай вобл.

Народны танец. Складаецца з чатырох „кален", „лявоніхі" і заключнага „галопа" ці полькі. Танцуюць дзве пары.

**171. Кадрыль.**

Тэкст зап. Е. Р. Раманаў у Дзісненскім пав., Віленскай губ., ад сялянкі Піліпенкавай.

Народны танец.

**172. Мікіта („Кадрыль Петкевіча“).**
Тэкст зап. Е. Р. Раманаў, ад той-жа (гл. № 171).
Народны танец.

**173. Ва садочку, ва зялёным...**
Зап. у 1923 г. у Мсціслаўскім р., Магілеўскай вобл., ад моладзі.
Прыпеўкі.

**174. Як пайшоў мілы касіць...**
Зап. у г. Мсціслаўлі ад М. Васілеўскай.
Прыпеўкі.

**175. А божа мой, толькі...**
Зап. у 1926 г. у Быхаўскім р., Магілеўскай вобл.
Прыпеўкі.

**176. Мой міленькі памёр, памёр...**
Зап. у 1908 г. у Слонімскім пав., Гродненскай губ.
Прыпеўкі да танца.

**177. А пайшоў Апанас...**
Зап. у 1912 г. у Ігуменскім пав., Мінскай губ.
Прыпеўкі да танца.

---

# ЗМЕСТ

На белорусском языке
*Н. Чуркин*
**БЕЛОРУССКИЕ НАРОДНЫЕ ПЕСНИ И ТАНЦЫ**
Государственное Издательство БССР
Минск 1949 г.



Рэдактар *Н. Сакалоўскі*
Тэхрэдактар *Я. Карпіновіч*
Карэктар *В. Макоўская*



АТ 02659. Падпісана да друку 23/XII 49 г.
Тыраж 5000 экз. Папера 70×108/16
Друк. арк. 12. Зак. 299
Друкарня імя Сталіна,
Мінск, Пушкіна, 55.

